KRYVIČ mėnesinis literatūros, kultūros ir visuomeninio gyvenimo laikraštis.

# КРЫВІЧ

## МЕСЯЧНІК ЛІТЭРАТУРЫ КУЛЬТУРЫ І ГРАМАДЗКАГА ЖЫЦЬЦЯ

ГОД

№ 5.

Лістапад.

1923

# Зьмест № 4.




Redaktorius-leidejas K. DUŽ-DUŠIAUSKAS. Рэдактар-выдавец К. ДУЖ-ДУШЭЎС

„KRYVIČ“

# КРЫВІЧ

**МЕСЯЧНІК ЛІТЭРАТУРЫ, КУЛЬТУРЫ І ГРАМАДЗКАГА ЖЫЦЬЦЯ.**

**Пад рэдакцыяй В. ЛАСТОЎСКАГА і К. ДУЖ-ДУШЭЎСКАГА.**

**Адрэс рэдакцыі:** Kaunas, Vytauto prosp. Nr. 30.(Lietuva).

Падпіска на поўгада з перасылкай . . . . . . . . . . . . . . . . . . . Lit. 15 — (1:50 доляр

на нумару паасобна . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . Lit. 3 — (0:30 „

Рукапісы Рэдакцыя не вяртае і пакідае за сабой права пераправак і скарочаньняў.

| 1923 г. | ЛІСТАПАД. | № 5. |
|---|---|---|

В. ЛАСТОЎСКІ.

## У гадаўшчыну Люблінскай ганьбы.

Заліты нашчадзі пякучымі сьлязмі,
прамочаны прыгонскім потам,
к Тваім вачам сьляпым, о Маці!
падносіць Лях Люблінскі пэргамін;
і, пальцам, гліпкім ад крыві,
Табе на успамін,
паказуе аблыжны сказ:
пра еднасьць брацкую,
пра ласку ляцкую...
А кроў,
Тваіх сыноў,
цячэ з старога зьвітку..
І ею поўніцца абшар,
ад Нарава па Сож...
З зямлі, сьвятая, праступае,
яднаньне з катам праклінае
і кліча гнеўны кліч:
„О, Ляша,—брат твой—
дзе Крывіч“?!

## Пакутнік.

Душой суцьмежаны ў ярмо упрэжаны,
Пад крыкат, глум гвалтоўнікаў
Ішоў сьцяжыцаю, ішоў цярніцаю,
Сьлязамі значучы свой сьлед.

І зьнят адмогаю, дарогай доўгаю
Пазбыўся мар і сьветлых кроз:
Пьянеў пакутаю, радзеў атрутаю
І сам рабом лічыў сябе.

Браты ім торжылі; батогам сморжылі
На крыж вялі пакутніка;
І рады трызьнілі, што сілаў вызбылі
Што крэпку сталь далі ў ланцуг...

Хоць многа мудрылі, таго-ж ня дукрылі,
Што скоросу клёк ўспыхае з мук,
Што ён у болесьцях, ў душы крыёмасьцях
Расьціў у сабе гартоўны дух.

## Зорнік.

Ў цемры копішча панурай,
на пасадзе ў сем цяблін,
засядаў маўклівы божыч,
праўд і мудрасьці пачын.
У намаганьні ўцелаісьціць
у фігуру ідэал,—
мастака рука няўдольна,
надала чалу авал,
і, застыглы, бы зьдзіўлённы,
погляд выпуклым вачам,
а на вуснах палажыла
напоўусьмешкі жостры шрам...

. . . . . . . . . . . . . .

Ў ночны першы кураклік
прад фігураю зьненацна
з цемры вынырнуў старык...
Спазірнуўшы ў знакі небны,
прасьпяваў ён гімн малебны:
„Доўгім постам і малітвай
змацаваны,

падыйму мой зрок к зэніту
спрацаваны!
Ты-ж, Правечны, дух мой кволы
сьвят прасьвядаю натхні
і празначаньня тайніцы,
хоць рубочак адхіні!
Я-ж нягодны не жадаю
знаць усіх Тваіх дарог:
час і кон ў Тваей абладзе...
Ўчуй, малю Цябе Сварог"!
І натхнённаю экстазай
старца верай зрок пылаў,
як пакорна ў под цэгляны
ён паклоны адбіваў.
Так маліўся доўга старац,
дух малітвай мацаваў...
Мякла сэрца... зрок любоўна
на фігуры спачываў.
Ўрэшце вышаў на узгорак
панадрэчны...
Ў той-жа момант, Кон Правечны
блакіт-кнігу, ў высях неба,
разгарнўў...
і агністыя пісьмёны
атамкнуў...
Доўга зеціў зорнік ў гору,
цікаваў за неба часткай,
дзе гарэў міглівы поблеск
зоркі крывічанскай...

## ІКАР.

Здасяжных кроз атрутны хмель
Мяне ўжо не карэжыць:
Маіх дум крэс мой кругазор
З сусьветамі рубежыць...

Ты-ж, браце, стой, ня мкні за мной,
Бязьмер на зьдзіў блудзежны:
З нізоў ўсягды прастор нябёс
Так надліва сьвяцежны!..

У нізы табе мярцьвежа зор
Зсылае блеск ачмарны:
Зблізка-ж, як глянеш ты на іх—
Убачыш камень марны...

## На узьмежы.

Былых астой душы людзкой
Няшчадна йдзе ламежа;
Паміж руін ждом новых дзён
З старога мы узьмежа...

За намі цьмень, прад намі жах:
Кругом зьмятні люцежа;
Ў назьмежных дзён сутонны час
Усплыла наверх буцьвежа.

Гразой забіт народ маўчыць,
Як бойная скацежа:
Кады-ж канец і дзе той троп,
Каб выйсьці ўжо з суцьмежа?..

## З Мікеля Анджэльле.

* *
*

Маўчы, прашу цябе, няваж мяне будзіць!
У гэты век, такі праступны і бязстыдны,
Ня жыць, ня чуць, які то быў-бы лёс завідны!?

Прыемна спаць, а камянем ўсе-ж лепей быць...

* *
*

Р. КІПЛІНГ.

## Мы усе трое—адно.

Таму што заздрасьць — ярасьць мужа, не пашчадзіць яна ў час мшчэньня.
Прыповесьці Саламона VI, 34.

Мігдалаў і разынак сагіб? Вінагрозьдзя з Кабулю? Ці каня? Удалы канюга! Сагіб сам пабачыць, калі толькі паглядзіць. Яму ўсяго трынадцаць гадоў, тры месяцы, сагіб; ён гуляе ў качалку, ходзіць ў хамуце і пад дамскім сядлом і...—сьвяты Куршад і благаслаўлёныя імамы, то-ж гэта, сам сагіб! Сэрца маё раздулася і вочы мае цешацца. Хай ніколі ты не зазнаеш зьнямогі! Як сьцюдзёная вада ў Тыраху, так спазор на прыяцеля ў далёкай старане. Але што ты робіш у гэтым праклятым краю, на поўдзень ад Дэлі? Сагіб—ты ведаешь-жа прыказку: „Мужчыны-адступнікі, а жанкі—блудніцы". Ты атрымаў загад? Ага! Загад ёсьць загад толькі датуль, дакуль у чалавека замала сілы, каб непаслухаць яго. О, брат мой; о, дружа мой, мы ў добры час сустрэліся! Ці добра ў цябе на сэрцы, ці здароў ты целам і як маецца твой дом? У шчасьлівы дзень мы ізноў сустрэліся абодвы.

Я павінен ісьці з табой? Вяліка твая ласкавасьць. Ці знойдуцца-ж тут загарадкі для коней? У мяне тры кані, трокі і хлапец канюх. Акром таго

не забудзься, што паліція тут лічыць мяне канакрадам. Што ведаюць гэты банкарты аб канакрадах?! Ці памятаеш ты часы ў Пэшавары, калі Камал пастукаўся ў вароты Джумруда — ну й прайдоха-ж быў ён — і вывёў коні палкоўнікавых усіх, ў адну ноч! Кемал цяпер памёр, але яго пляменік заняўся яго талентам, і коні будуць яшчэ прападаць, калі Кібэрскія стражнікі ня будуць больш чоўкімі.

Супакой Госпадаў і ласкавасьць Яго Прарока, хай будуць над гэтым домам і над усімі, хто ў ім! Шафіцула, прывяжы сівую кобылу пад дрэва і нацягай вады. Другія коні могуць стаяць на сонцы, але толькі зложы ў двая гунькі на іх. Яны прададуцца дурнаватым афіцэрам, якія гэтак шмат разумеюцца на конях. Кабыла даўно ўжо жаробная; сівы—зусім лядачы чорт; а гняды—ну, ды ты сам ведаеш, што знача закляваны конь. Калі прадам іх, я зьвярнуся ў Пуббі, ці, можа стацца, ў Пэшаварскую даліну.

О, дружа сэрца майго, добра бачыць цябе ізноў. Я бажыўся і цэлы дзень лгаў афіцэрам-сагібам аб гэтых конях; і ў губе ў мяне цяпер суха ад доўгага галаканьня. *Ачурр!* Добрая рэч—табака перад абедам. Не садзі мяне побач з сабой; тут-жа мы не ў нашай старане. Сядзь на паладзе, (вэрандзе), а я разсцялю свой кілім тут. Але спярша я напьюся. *У імя Бога. Падзякуем Яму тройчы!* Вось дык салодкая вада, запраўды,—салодкая, як у нас ў Шыране, дзе ён выплывае з горскіх сьнягоў.

У нас на поўначы ўсе здаровы і жывуць добра—Хода-Бакш і другія. Яр Хан прышоў з конямі з Курдзістану — трыдцаць шэсьць галоў толькі, дый то палавіна з іх трочныя поні—і проста сказаў, што вам, англійцам, трэба было-бы пасласць гарматы, каб адправіць эміра ў пекла. Цяпер пятнадцаць граніц на Кабульскай дарозе; а ў Даксе, калі Яр Хан думаў, што ўжо са ўсімі пакончыў, губэрнатар атабраў у яго ўсіх яго Балкаўскіх жарабцоў! Гэта вялікая несправядлівасьць і Яр Хан ўвесь кіпіць ад злосьці. А з другіх—Махбуд Алі ўсё яшчэ ў Пуббі, і Бог яго ведае, што ён такое там грызмоліць. Туглук Хан у турме за справу на Калхацкай паліцэйскай вартоўні. Фэйц Бэг прыязджаў ў канцы году з Ізмаэль-Кі-Дхэру з бухарскім паясом для цябе, мой брат; але ніхто ня ведаў дзе ты: ты зьнікуль ня даў аб сабе ведама. Мае зродныя браты нанялі новую пашу каля Пакпатану і будуць гадаваць там мулаў для ўрадовых абозаў, а на рынку апавядаюць гісторыю аб адным сьвятару. Ого! Такая ўжо салёненькая справа! Слухай.—

Сагіб, чаму ты гэта пытаеш? Адзеньне маё бруднае, таму што пыл на дарозе. Вочы мае сумныя ад сонечнага блеску. Ногі мае распухлі, таму што ежа тут благая. Хай агонь спаліць твае грошы! Нашто яны мне? Я багаты і думаў, што ты мой прыяцель; але ты, як другія, сагіб. Калі чалавек сумны— дай яму грошы, кажуць сагібы. Калі якая крыўда зваліласа на яго галаву— дай яму грошы, кажуць сагібы. Гэткія ўсе сагібы, і ты такі-ж самы, навет ты...

Не, не глядзі на ногі гнядога. Шкада што я вучыў цябе разпазнаваць ногі ў коней. Разьбіт на ногі? Хай будзе так. Дык што-ж з гэтага? Цяпер дарогі цяжкія. І кабыла кульгае? Яна нясе падвойны цяжар, сагіб.

А цяпер, прашу цябе, дазволь мне пайсьці. Вялікую ласкавасьць і пашану выказаў мне сагіб і асьцярожна намякнуў, што коні гэты крадзеныя. Можа быць ён пажадае адправіць мяне ў Тану *). Паклікае мяцельшчыка і адправіць мяне з адным з гэтых яшчарападобных стражнікаў?.. Я прыяцель сагіба... Я піў ваду ў засені дому яго, а ён ачарніў абліччa мае. Чаго-ж

*) Паліцэйская вартоўня.

трэба чакаць яшчэ? Можа сагіб дасьць мне восем анн ** , каб падсаладзіць крыуўду і—завяршыць зьнявагу?

Даруй мне, брат мой! Я ня ведаў — я ня ведаю і цяпер што гавару. Так, я ілгаў табе! Я пасыплю попелам галаву сваю—бо кабан я! Коні разьбілі ногі свае ў часе доўгіх падарожаў з даліны ў гэтае месца, і мае вочы пасьвялі, і цела маё баліць, таму што я ня спаў, і сэрца маё высушана сумам і ганьбай. Але таму, што ганьба была мая, то бажуся Богам—адплатчыкам правасудзьля—Аллахам—аль Мумітам—і помста мая будзе!

Ня першы раз сягоньня мы размаўлялі паміж сабой з адкрытай душою, і нашы рукі пануараліся ў адну і тую-ж місу, і ты быў мне братам. І за гэта-то я плачу табе ілжой і няўдзячнасьцю — як патанец. Слухай цяпер! Калі гора на душы лішне цяжкое каб насіць, то яно можа быць палегчана славамі і, апрыч таго,душа вернага чалавека, як студня, і камень прызнаньня, кінуты туды, тоне ў ей так, што яго ніхто больш і няўбачыць.

З даліны прышоў я пяхатой, міля за міляй, з агнём у грузёх, падобным агню пякельнаму. А чаму? Няўжо ты так хутка забыўся нашы звычаі, паміж гэтых людзей, якія прадаюць жонак і дачок сваіх за серабро? Вярніся самной на поўнач і пабудзь яшчэ раз паміж намі. Вярніся, калі гэта справа мая будзе закончана, я сам прыду па цябе. Квет фруктовых дрэваў цяпер у нас па ўсей даліне, а тут толькі пыл і смурод. Там прахалодлівы вецяр вее ў тутавых гаёх, і руччы цякуць з сьнегавой вадой, а караваны праходзяць ўверх і прыходзяць ўніз, і сотні агнёў мігцяцца ў глыбіне праходу. Малаткі стукаюць па калочках разкінутых палаткаў, і трочныя коні цінсуцца адзін да аднаго ў дымцы вячорнага туману. Добра цяпер на поўначы. Пойдзем ізноў туды са мной. Вернемся да нашага народу. Пойдзем!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Адкуль узяўся сум мой? Хіба ж разьдзірае чалавек сэрца сваё і паліць яго кавалачкамі на павольным агні зашто небудзь другое, акром жанкі? Ня сьмейся, брат мой, бо і твой час прыдзе. Яна была з племя Абазаяў, і я узяў яе таму, каб спыніць калатню паміж нашымі і племем Гхора. Я ужо не малады? Сівізна кранула маю бараду? Праўда. Мне ня трэбыло жаніцца. Так, але я любіў яе. Ведаеш што кажа Рахман: „У тым, у чыё сэрца ўходзіць любоў, астаецца варьяція, *і нічога больш*... Поглядам вачэй сваіх яна цябе ў ўзяла палон, бяз выкупу, *і нічога больш*“.

Памятаеш ты песьню якую пяюць Узбэкі Эміра, калі смажаць барана на ражне ў Пандыйскім абозе?

Абазаі сабакі, а іх жанкі рабыні грэху! У яе быў палюбоўнік з яе-ж племя, але аб гэтым бацька яе нічога не сказаў мне. Дружа мой, праклінай за мяне ў сваіх малітвах, як праклінаю я ў кождай сваей малітве імя Дауд Шаха, Абазая, галава якога ўсё яшчэ на яго шыі, рукі якога ўсё яшчэ ў нарамках яго—Абазая, каторы ўчыніў імя маё пасьмешышчам паміж жанок малога Маліканда.

Месяцы цераз два пасьля вясельля я выбраўся ў Індастан—ў Чэрат. Я пашоў толькі на дванадцаць дзён, але сказаў ей, што прабуду пятнадцаць дзён. Гэта таму, каб выпрабаваць яе, дзелятаго, што напісана: „Не здавайся на няпэўнае“. Узьбіраючыся па гарэ, зьмеркам, я пачуў мужчынскі голас, які пяяў каля дзьвярэй майго дому; гэта быў голас Дауд Шаха, а песьня, якую ён пяяў была: „Дрэй-уара-йоу-ди“ — „Мы ўсе трое—адно“. Бытцам пятлю накінулі на маё сэрца і ўсе чэрці пачалі цягнуць яе да болі, вышэй сіл маіх. Я падкраўся моўчкі да самага верху дарогі, але кнот стрэльбы

**) сярэбраная манэта.

маей адвільжэў ад дожджу і я нямог застрэліць Дауд Шаха. Акром таго ў мяне на думцы было забіць такжа і жанку. І *гэтак* ён пяяў, седзячы каля дзьвярэй майго дому; і як толькі жанка адчыніла іх і падыйшла да яго, я кінуўся паўзьці на жываце, паміж каменьня. У мяне быў толькі мой нож. Раптам з пад маей нагі пакаціўся камень, і палюбоўнікі глянулі ў ніз. Ен, пакінуўшы сваю стрэльбу ўцёк ад майго гневу, дзеля таго, што баяўся ўтраціць жыцьцё, якое было ў ім. Але жонка асталася нярухомай навет і тады, калі я стануў проста перад ей і крыкнуў: „О, жанчына, як называецца тое, што зрабіла ты?“ А яна без ўсякага страху, хоць і ведала мысьлі мае, засьмяялася, кажучы: „Гэта драбніца! Проста я кахала і кахаю яго; а ты сабака і скатакрад, які бадзяецца ноччу. Удар!“ І я, ўсё яшчэ асьлеплены прыгажосьцю яе,—таму што, о брат мой, жанкі Абазаяў дужа прыгожы—сказаў: "Хіба-ж ты не баішся?“ А яна: „Нічога не баюся, акром страху таго, што не памру“. Тады я крыкнуў: „Ня бойся!“ І яна пахіліла сваю галаву, а я адсек яе каля самай шыйнай косьці, гэтак, што яна пакацілася да ног маіх. Пасьля запальчывасьць майго племя абхапіла мяне, і я адрэзаў ей грудзі, каб людзі малога Мэліканда ведалі які яе быў праступак, і кінуў яе цела ў горскі ручэй, які бяжыць ў Кабуль раку. Дрэй-уара-йоў-ди! Дрэй-уара-йоу-ди! Цела без галавы, душа бязь сьвету і маё ўласнае амарочанае сэрца—мы ўсе трое—адно,—мы ўсе тое—адно! У тую-ж ноч, ані крыхі не адпачыўшы, кінуўся я ў Гхор даведацца, дзе Дауд Шах. Мне сказалі там: „Ен пашоў у Пуббі па коней. Чаго ты хочаш ад яго? Паміж нашымі вёскамі згода цяпер“. Я адказаў: „Гэй! Згода зрады і каханьня, якое меў да Гурэль чорт Атала“. Пасьля гэтага я тройчы выстрэліў ў вароты, засьмяяўся і пашоў.

У гэты хвіліны, браце і дружа сэрца майго, месяц і гвёзды стаялі, як краплі крыві надамной, і ў губе чуў я смак сухой зямлі. І не пераламіў я хлеба, а напіткам маім быў дождж Гхарскай даліны, які біў мене ў твар.

У Пуббі я знашоў Мабуба Алі, пісара, сядзеўшага на складанай сваей пасьцелі, і здаў яму зброю, згодна вашаму праву. Але я не бядаваў, таму што ў сэрцы маім была пастанова забіць Дауд Шаха голымі рукамі, так вось, — як чалавек зрывае ягады з грозьдзяў. Мабуб Алі сказаў: — „Дауд Шах толькі што пашоў пасьпешна ў старану Пэшавару, і будзе скупляць коні па дарозе ў Дэлі, бо кажуць, што Бомбэйская кампанія конак купляе іх цэлымі запражкамі, па восем канёў на вагон. І ан казаў праўду.

Тады я ўбачыў, што маё прасьледаваньне будзе рэч ня лёгкая, бо вораг мой уцёк у вашы валаданьні, каб збавіцца ад майго гневу. Але хіба гэта уратуе яго? Хіба я яшчэ ня жывы? Хоць-бы ён уцёк на поўнач у Дору і ў сьнягі, ці на поўдзень да Чорнай Вады, паганюся за ім, як каханец па сьлядох сваей каханкі, і падыйду да яго і абніму яго чула. — Ах! так ужо чула! — і скажу: „Добра зрабіў ты, такжа добра будзе заплачана табе“. І ўжо з гэтых абоймаў Дауд Шах ня выйдзе з тхненьнем ў ноздрах сваіх. *Аугурр!* Дзе коўшык? Я магу піць, як жаробная кабыла на першым месяцы.

Ваша права? Што мне ваша права? Калі жарабцы брыкаюцца бягучы, то хіба-ж яны бачаць граніčныя капцы; ці хіба каршуны Алі Мусжыда не крануць падліны таму, што яна ляжыць ў засені Гхор Кутры?[1]) Справа пачалася за вашай граніцай, а скончу я яе там, дзе Бог захоча. Ці тут, ці ў маей старане, ці ў пекле. Усе мы трое—адно.

Слухай цяпер, павернік смутку сэрца майго, і я раскажу табе ўсю маю пагоню. Я пасьпяшыў ў Пэшавар з Пуббі, і бегаў па вуліцах Пэшавару, як бяздомны сабака, шукаючы ворага свайго. Раз, мне здаецца, я бачыў яго,

---

1) Караван сарай у Пэшавары.

як ён амываў морду сваю ў ручве фантану, на вялікім пляцу; але калі я падышоў бліжэй, ён зьнік. Я думаю, што гэта быў ён, і што, спазнаўшы мяне, ён уцёк.

Дзяўчына з рынку сказала мне, што ён хацеў ісьці да Ноўшару. Я спытаў яе: „О, сэрца сэрца майго, ці прыходзіць да цябе Дауд Шах“? А яна адказала мне: „Ведама прыходзіць“. Я сказаў: „Мне вельмі-бы хацелася бачыць яго, дзелятаго што мы прыяцелі і ўжо ня бачыліся з сабой цэлых два гады. Схавай мяне, прашу цябе, тут ў засені тваіх акяніц, і я пачакаю яго прыходу“. Дзяўчына-ж адказала мне: „О, Патанец, паглядзі мне проста ў вочы“. І я абярнуўся і, абапершыся на грудзі яе, глядзеў ей проста ў вочы, божучыся, што кажу праўду Боскую. Але яна сказала: „Ніколі прыяцель ня чакае прыяцеля з гэткімі вачамі. Лжы Богу і Прароку, але жанчыну ты не ашукаеш! Ідзі згэтуль. Нічога ня здарыцца з Дауд Шахам з маей віны.

Я задушыў-бы гэну дзеўку, каб не баяўся вашай паліцыі; і мая пагоня тады-бы пайшла на нішто.

Дзеля гэтага я толькі разсьмяяўся і пашоў; а яна, высунуўшыся ў цемнаце з аконнай краты, праводзіла мяне высьмеўкамі праз усю вуліцу. Імя яе Джамун[1]). Калі я пакончу з тым чалавекам, то вярнуся ў Пэшавар, і яе палюбоўнікі ня будуць больш дабівацца яе хараства. Яна нябудзе больш *Джамун,* а будзе *Ак,* калека паміж дрэваў. Го-го! Будзе яна Ак!

У Пэшавары я куплю і вінагрозьдзя, і мігдалы і сушоныя фрукты дзелятаго, каб мэта маіх падарожаў была зразумела ўраду і каб ня было ніякай затрымкі ў дарозе. Але калі я прышоў у Ноўшару, то яго ужо там ня было. Я затрымаўся на дзень у Ноўшары, і ноччу, калі я спаў паміж сваіх коней, нейкі голас казаў мне ў вушы. Усю ноч шэптаньне разлягалася ў галаве маей, не спыняючыся. Я спаў на жываце, як сьпяць чэрці, і магчыма таму, голас гэты быў голасам чорта. Ен казаў: „Ідзі на поўдзень, і ты наткнешся на Дауд Шаха“. Слухай-жа, брат мой і першы паміж прыяцелямі,—слухай! Хіба апавяданьне маё доўгае? Падумай-жа як цягнуўся час для мяне. Я прайшоў пехатой кождую лігу дорогі ад Пуббі да гэтага месца; і ад Ноўшары маім павадыром былі толькі голас і жаданьне помсты.

Я прыйшоў да Утток ракі, але яна ня была для мяне перашкодай. Го! го! Чалавек можа ўсякае слова абярнуць на двоя, навет калі ён ў вялікім няшчасьці. І Утток рака ня была уттокам (перашкодай) мне, і я пачуў голас гучней ад гуку вод, што біліся аб высокую скалу: „Ідзі направа“. Тады я пашоў ў Пандіхаб; і ў тыя дні сон быў атабраны ад мяне зусім, і галава тэй жанчыны з племя Абазаяў была перадамной і ў ночы і ў дзень, як раз такой, як калі яна звалілася да ног маіх. Дрэй-уара-йоў-ді! Дрэй-уара-йоўді! Агонь, попел і ложа маё, мы ўсе трое—адно, мы усе трое—адно!

Я быў далёка ад зімовага шляху караванаў, якія ішлі на Сіалкот, к поўдню ўдоўж чугункі і па вялікаму гасьцінцу к лініі абозаў; але ў Пандіхабе адзін сагіб купіў у мяне белую кабылу за добрую цану і сказаў мне што нейкісь Дауд Шах праехаў з конямі ў старану Шахпура. Тады я ўбачыў, што голас праўду казаў, і борзка сьціраваўся да Саляных гора. Жалум быў разьліты, але я нямог чакаць і, калі пераплываў яго, то буланы жарабец мой быў аднесен ручвом і ўтапіўся. На гэты раз Бог загневаўся на мяне—кажу не аб тым, што я ўграціў скацежыну, аб якой мала думаў, а вось аб якой благой крыўдзе: паказалася, што пакуль я быў на правым

[1]) Стройнае, прыгожае дрэва. Кождая праститутка у Індыі „павянчана“ з тым або другім дрэвам.

беразе, заганяючы коні ў ваду, Даўд Шах быў на левым; таму што—Алхіяс! Алхіяс!—капыты кабылы маей разкідалі гарачы попел вогнішча яго, калі мы перайшлі на той бераг досьвіткам. Але ён уцёк. Ногі яго былі акрылены страхам сьмерці. І я ськіваваўся на ноўдзень ад Шахпура, гэтак хутка, як ляціць каршун. Я не адважваўся спачыць, каб не прамінуць здарэньня помсты, якая становіць маё права. Я прайшоў сьпярша берагам ракі Жалум, таму што думаў, ён захоча мінуць пустыню Рэхна. Але зараз-жа каля Сахіваля я зьвярнуў на дарогу ў Жанг, Самундры і Гужэру і ішоў датуль, пакуль ночча сівая кабыла ня ўпёрлася грудзьмі ў загарадку жалезнай дарогі, якая ідзе ў Монтомэры. Гэтае месца было Окара, і галава жанчыны з роду Абазаяў ляжала на пяску каля ног маіх.

Адтуль я ськіваваўся ў Фацільку, і там мяне назвалі варьятам затое, што я прывёў туды загнаныя коні. Але голас казаў мне, што рабіць, і я ня быў варьят; я толькі змарыўся, таму што нямог знайсьці Даўд Шаха. Было напісана каб я не знайшоў яго ні ў Раніі, ні ў Багадургарху, і я прыйшоў у Дэлі з захаду; але там таксама я не знайшоў яго. Дружа мой, я бачыў многа дзіўных рэчаў у сваіх падарожах. Я бачыў чарцей, гізаваўшых па Рэхніцкай пустыні, як гізуюць жарабцы вясной. Я чуў, як *Джынны* пераклікаліся паміж сабой з нораў сваіх у пяску, і чуў, як яны пралятали перад абліччам маім. Німа ніякай нечысьці, кажуць сагібы? Яны вельмі разумны, яле яны няведаюць усяго аб чарцях і конях. Го! го! Я кажу табе, каторы сьмяецца з майго няшчасьця, што я бачыў чарцей сярод белага дня, гагочучых і скачучых на мялінах Чанаба. І ты думаеш, што я баяўся іх? Брат мой, калі хаценьне чалавека сківавана на адну толькі рэч, ён не баіцца ні Бога, ні чалавека, ні чорта. Калі мне ня ўдасцца тут даканаць помсты, я разабью вароты раю прыкладам стрэльбы сваей, прасяку нажом сваім дарогу ў пекла, і зажадаю ад тых, хто верхаводзіць там, цела Даўд Шаха. Якая любоў бывае гэтак глыбока як ненавісьць?

Не кажы. Я ведаю мыслі ў сэрцы тваім. Хіба бялок гэтага вока пасьвянуў? Як тутніць кроў у гэтых жылах? Німа шалу ў целе маім, а ёсьць толькі агонь жаданьня, каторы зьядае мяне. Слухай!

На поўдзень ад Дэлі край быў ужо зусім нявядомы мне, дзеля гэтага я нямагу сказаць дзе я ішоў, але я прайшоў многа гарадоў. Я ведаў толькі, што мне трэба было ісьці на поўдзень. Калі коні выбіваліся з сіл, я кідаўся на зямлю і чакаў сьвітаньня. Сну не было самной у гэтых падарожах; і гэта было вельмі цяжка. Ці знаеш ты, брат мой, мукі бязсоньніцы, якую німа сіл перамагчы, калі косьці ныюць ад яе і скура на віскох хоча разарвацца ад змучаньня, і усё-ж ткі німа і німа сну? Дрэй-уара-йоу-ді! Дрэй-уара-йоу-ді! Вока сонца і вока месяца і мае ўласныя не счыняючыяся вочы—мы ўсе трое—адно! ўсе трое—адно!

У адным горадзе, найменьня якога я не памятаю, голас клікаў мяне ўсю ноч. Гэта было дзесяць дзён таму назад. Але ён ізноў зманўў мяне.

Я прышоў сюды з месца, каторае называецца Хамірпур, і гэткая доля мая, што тут я сустрэў цябе, на радасьць сваю, на змацаваньне дружбы нашай. Гэта добрая азнака. З радасьці, што ўзіраюся на аблічча твае, змучаньне пакінула ногі мае, і смутак доўгай дарогі забыты. Супакоілася і сэрца маё, бо ведаю, што канец ўжо блізкі.

Можа я знайду Даўд Шаха ў гэтым горадзе, па яго дарозе на поўнач, дзелятаго што гаранін заўсёды вяртаецца да сваіх гораў, калі будзіцца вясна. А ці ўбачыць ён гэты горы нашага краю? Напэўна я наганю яго! Напэўна, мая помста ўдасцца! Напэўна, Госпад трымае яго ў далоні рукі сваей, каб перадаць яго мне. Ніякай шкоды не станецца з Даўд Шахам, пакуль я не

прыду да яго, таму што я лакну забіць яго. Гранат саладзей за ўсё, калі мякіш з трудом ачышчаецца ад скуры. Ніхай гэта будзе днём, каб я мог бачыць аблічча яго і каб радасьць мая была поўнаю.

І калі я закончу справу сваю, і слава мая будзе ачышчана, я ўздзякую Богу, дзержбіту вагаў праўды, і засну. Ад ночы да раніцы і ад раніцы да ночы і ўзноў ўсю ноч буду я спаць тады, і ніякі сон не патрывожыць мяне. А цяпер, о, брат мой, аповесьць мая скончана. *Пераклаў В. Л.*

# Афорызмы аб шчасьці.

У тваіх грудзёх, вось там месьцяцца сілы якія кіруюць тваім шчасьцям. Немец Шыльлер.

Я меў шмат ў сваім жыцьці памыснасьці, але ўсяго два разы быў хіба шчасьлівы і то на дзьве, тры хвіліны. Немец Шопэнгаўэр.

Сьвет уладжан так блага, што каб ён быў яшчэ хоць крыху гошы, то прапаў-бы, бо проста быў-бы немагчымы. Немец Шопэнгаўэр.

Розум усяго сьвету безкарысьцен дзеля дасьціжэньня шчасьця таму хто сам пазбаўлены розуму. Немец Шопэнгаўэр.

Праўдзівае здаволеньне магчыма толькі тады, калі маецца праўдзівая патрэбнасьць яго. Француз Вольтэр.

Вольны час без умысловай працы, гэта сьмерць пры жыцьці. Рымлянін Сэнэка.

Духовае багацьця па справядлівасьці адзінае багацьце і кождая іншая маемасьць абцяжана недастаткамі. Грэк Люцыян.

Свабодны час кождага чалавека толькі нагэтулькі цэнны, наскольки ён сам мае цану. Немец Шопэнгаўэр.

Шчасьце даецца толькі таму, хто годна умее карыстацца сваім свабодным часам. Грэк Арыстотэль.

Сакрат справядліва цаніў свабодны час лепшай цэннасьцю мудрэца. Грэк Діоген.

Безперашкодна карыстацца сваімі вартасьцямі і дасканаліцца ў гэтым, вось праўдзівае шчасьце. Грэк Арыстотэль.

Каму дадзен талент, а такжа магчымасьць і ўменьне карыстацца ім, той вядзе самае шчасьлівае жыцьцё. Немец Гетэ.

Бязчынасьць самы небасьпечны вораг чалавечага шчасьця. Рымлянін Горацій.

Быць мудрым гэта вышэйшая вымаганьне дзеля дасьціжэньня шчасьця. Грэк Софокль.

Самы шчасьлівы той, хто менш за ўсё мучыць сябе неразумнымі клопатамі. Грэк Софокль.

Жыцьцё глупца гэта найгоршая сьмерць. Жыд Сірах.

Шчасьце — рэч нялёгкая: вельмі рэдка удаецца чалавеку знайсьці шчасьце ў сабе самым і ніколі не ўдаецца знайсьці шчасьця па-за сабой. Француз Шамфок.

Мы пакінем сьвет гэткім самым глупым і абмежаным, якім знашлі яго радзіўшыся. Француз Вольтэр.

Прычына нашага шчасьця ляжыць больш ў нутры нас, як у зьнешнім сьвеце. Грэк Мэтродор, вуч. Эпікура.

І валадар і раб павінны па справядлівасьці прызнаць, што магчымае шчасьце сьмяротнага тоўпіцца ў ім самім. Немец Гетэ.

Шчасьце гэта дзейнасьць, кіраваная дабрачыннасьцю і праводжаная памыснасьцю. Грэк Стобэй.

ЯНКА ПАЛЫН.

# Аднабочнікі.

(Літэратурны нарыс).

VII.

Шэрыя, аднастайные дні прынасілі сумнае заспакаеньне. Яны лагодзілі неяк Лебядзька з яго лёсам, з няўнікнёнай патрэбай усіх няшчасьцяў, уганяючы глыбока ў сьвядомасьць безнадзейную тугу.

Ен зрэбіўся больш спакойным, нават весялейшым, бытцам скінуў з сябе нейкі цяжар, ці вырашыў вялікія пытаньні

Яго розпач стала не такая крыклівая, нэрвовая а больш спакойная, ціхая і глыбокая... Сьвядома ён падыйшоў да апошняй мяжы страшнага Рубікону. Людзі ўжо не пужалі яго. Ен глядзеў на іх зьверху ўніз і дробныя інтэрасы іх яму здаваліся сьмешным непаразуменьнем.

Але пры ўсім гэтым ён пужаўся выйсьці ў места. Яшчэ тры тыдні прабавіў нікуды не выходзячы.

Толькі ў ночы ён выхадзіў з сваей кануры, павяртаў на залезнічны мост і сядаў на берагу Дзьвіны.

Чорная вуаль ночы звычайна ўжо пакрывала палогія берагі. Пад ценямі яе завесамі магчыма было яшчэ разглядзець рысы процілежнага берагу, нейкія чорныя цені лайб і рух бягучай вады.

А далей усё зьлівалася ў адну густую чорную цемру.

Навокал было ціха, ціха...

Толькі каля каменных быкоў маста клекатала вада, білася й круцілася ў злосьці, але ня змогшы іх, ляцела шпарка й сярдзіта далей...

Дзесь джурчэлі, зьбягаючы па каменьнях ручавінкі... Далёка-далёка ў чарнаце час ад часу глуха заліваліся сабакі... Па ўсяму берагу пахла моцна рыбай, абгніўшымі бэлькамі, дзёгцям, вільгацьцю,— але ўсё ж тут прыемна было сядзець...

Ні жывой душы, адна толькі глыбокая гутарка прыроды...

Лебядзёк клаўся на каменьчыкі, якімі быў засыпаны ўвесь бераг ракі, глядзеў у цямнату й разважаў.

Як усё дзіўна і прыгожа ў сваёй прастаце. Вось пачыналі ўжо зьяўляцца дзе-ня-дзе ваганькі; на другім берагу разлажылі вагонь; то пэўна „гэндзікі“ гатавалі вячэру. Вагонь нават асьвяціў некалькі белых постацяў. Сіняваты дым узняўся ў вышку.

— Здаровае жыцьцё ўсё ж ткі, — падумаў ён...

— Каб я цяпер меў гэтулькі безпасярэднасьці, як гэты народ... Зрабіўся б бурлаком, „гэндзікам“, гнаў бы ганкі ў Рыгу... Кашу гатаваў бы вось так на рацэ... Прэч тады пэсымізм... Усё ж ткі — якая сіла гэты народ... Хто з яго бывае пэсыміст... І думкі аб гэтым няма... Якім далёкім я стаў цяпер ад народу. — Неба й зямля... —

Па ўсей рацэ запаліліся аганькі... Рака стала падобнай да стада ваўкоў, мігаючых у чарнаце сваімі бліскучымі вачыма - сьвечкамі.

Штось моцна пялёхнулася... Лебядзёк павярнуў галаву... Потым зноў усё сьціхла.

Ен лёг на плечы, падлажыўшы пад галаву рукі і пачаў глядзець у гару.

— Якая ўсё ж ткі насьмешка, — падумаў ён: сам з таго самага народу, быў з ім... у беднаце й рос, і цяпер у беднаце. А ўсё ня тое, ня тое..,

— Інакшая псыхіка, іншы чалавек...

— І то ж трошку толькі адукацыі,культуры... А ўжо чалавек не зразумелы для свайго бацькі... Адыйдзеш ад народу, ад гэтай моцнай безпасярэднасьці.

— Іронія. — Робішся інтэлігент. —

Ен зачыніў вочы.

— Гэтыя — інтэлігенты — ўсе слабенькія... Пэсымісты, сухотнікі, паралітыкі... Чаго толькі няма. Няўжо тут ня будзе жыцьця... Інтэлігенцыя, што?.. Расьціна, адарваная ад караня...

— Гіне, сохне, а не жыве... Ну, што я?.. —

Пачуўся плёск вёслаў на вадзе.

Хтось праехаў недалёка ад берагу, насьвістываючы вясёлы матыў...

Лебядзёк паправіўся... Зноў лёг.

— Чаму я так жыў... Бацкі—бедната, галота, а пусьцілі мяне вучыцца... І вось, выўчылі!..

— Плебэй між патрыцыямі, басяк між інтэлігентамі... Які быў заўсёды сорам!.. Ня ўмеў жыць сярод гэтых, здаровых, чырвоных дзяцей адукаваных бацькоў... Эх, ты, гора маё!..

Ен падняўся... Пасядзеў крыху... Потым лёг на бок.

— Трагікамэдыя ды й усё... Што я?.. Ад ворон адыйшоў а да паваў не дайшоў... Пэўна, я сьмешны са ўсей сваей адукацыяй... Я ж і ня жыў яшчэ... Хадзіў у школу, вучыўся, а балей нікуды ня йшоў... І вышаў з мяне не ітэлігэнт, а мяшок... Кавалачкі формул, абрыўкі думак чы іх небудзь, вырванных адкуль-небудзь вось і духовы скарб... А сваіх?..

— Эх, на чорта мне яшчэ жыць?..

Ен перастаў крыху думаць, лёг зноў на плечы гледзячы ў навісшую над ім чарнату.

— Чым я жыў... Яшчэ як-небудзь біўся за хлеб, але ж я ня ўмеў жыць як другія для хлеба... Умеюць людзі неяк сабраць багацьце, а я — нейкі слабенькі, рамантык... Я ня мог жыць, падстаўляючы нагу другому... Толькі й жыў кнігамі, сярод кніг, а матэрьяльнага ня ўмеў нічога дабыць... Мая бяда...

— І ні аднэй карыснай ідэі за ўсё жыцьцё... Так, брат, куды ня кін, усё клін...

Дзьвіна сярдзіта клыхтала, білася.

Цемень ночы зрабілася яшчэ больш чорнай і густой. Ужо недалёка ад сябе нічога не магчыма было пабачыць...

Толькі ярчэй зігацелі вочы ракі.

Ен, лежачы, падпёр галаву рукой.

— Разрашы вось тут загадку жыцьця... Рака жыве, бьецца, ручайкі джурчаць. А тут вось я, чалавек, сяджу й развважаю... Усё жыве... чаго?... Дзеля якой мэты?..

Над усім адзіны закон быцьця... А хто яго знойдзе?.. Дзе той мудрэц, што разгарне ўсю кнігу жыцьця й прыроды?.. Няма яго... Пэўна, людзям дадзена тоькі такое бязсэнсовае, не зразумелае для іх саміх істнаваньне... І жывуць сабе гэтыя чалавечкі, ня думаюць ні аб чым... Плодзяцца, капаюцца дзесь у гнаю... трупехнуць...

Усё ж добра, што яны ні аб чым ня думаюць... Можна, падумаўшы, ...аго добрага, скончыць самагубствам... Але... што?... Жывуць хай жывуць...

Зноў лёг на плечы.

— Я ўжо не магу жыць... Цяпер ня маю ніякіх матэрьялных засабаў... ...арабіць іх ня магу. Можа б яшчэ змог бы дзе дастаць, але не патраплю ...а складам сваіх мазгоў... Ні фізычнай, ні ўмысловай працы я ня магу мець... ...е варона, не пава... Загінуў, брат... Ну, што ж...

— Нічога... Адным непатрэбным будзе менш на зямлі...

Ен рашуча ўстаў... Каменчыкі пакаціліся ўніз і бухнуліся ў ваду. Дзесь ...ачалі рознымі галасы залівацца сабакі.

— Ўжо позна... Глыбокая ноч... Трэба йсьці да хаты... Але не... Так ...озна... Не найду!.. Буду тут начаваць...

Ен падыйшоў да вялізарнага каменя, палажыў пад галаву шапку й ...ёг.

— Вось і мой ложак... Добра... Вось і я — брадзяга...

— Ўсё цяпер разьбіта, ўсё вырвана з каранём, дапалена... А я ня зусім ...рэнная натура... Толькі я дапамагаў другім, бяз жаласьці да сябе...

— Не адзін пэўна пасьля сьмерці прыпомніць альтруізм... Што ж пасьля ...ьмерці... Якая іронія...“

Ен ляжаў і пільна глядзеў у чорную гушчу, шукаючы там чагосьці... Ўсё ...ранасіліся перад ім малюнкі жыцьця, бытцам якійсь варажбіт круціў перад ...м чярадзейскую стужку. Потым Кляра ў белым, як анял, паказалася ў ...арной імгле...

— Кляра... Кветка майго жыцьця... Кляра!...

Яна глядзіць на яго бліскучым далёкім поглядам і ўсё далей плыве, ...лыве на якіхся ценкіх, паветраных хвалях... Твар усё балей расплываецца, ...ямнее, белая вопратка, залатым блескам дыямантаў, зьнікае... Перад ім вялікі пакой, поўны моцнымі, сьляпячымі, як сонца, вагнямі... Чорныя ваконныя ...авесы... пальмы... зялёны папугай; вялікі гадзіньнік; абразы... А там каля ...акна штось чарнее... Вось выразьней яно, выразьней і ўжо яскрава ўстае, ...адходзіць...

— Гэта яна, яна...

— Твар—чырвоны, паліцца... Вочы блішчаць... Вусны сьціснуты... Глядзіць пільна, рашуча... страшна... Вось ужо стукае, стукае у мазгу яе ...олас...

Часьцей, часьцей, моцна як на тэлеграфе...

Ярчэй адбіваюцца агністыя словы:

— Вы ганяецеся за маімі ножкамі за абрысамі маіх грудзей. —

Ен слабее... гатоў паляцець... Яна бледне хапае яго... Зноў стукае голас ...у мозг:

— Станьце зараз перад маімі ножкамі!.. —

— Эх!.. —

І зноў няма нічога... Ен ляжыць на вялікім камяню на берагу шырокай ...Дзьвіны... Нясе вохкасьцю, джурчыць дзесь унізе вада, штось плёскаецца ...ў рацэ...

Ен глыбока, цяжка ўздыхае і зачыняе вочы... А белы анял зноў зьяўляецца ў чарнаце.

Вось ён ужо ніжэй, ніжэй, спушчаецца над ім... Ужо заліваецца імгла

белым блескам; павегра поўніцца цудоўнымі пахамі нябесніх зёлак... Яна плыве на скрыдлах, у празрыстым, сіняватым дыме, павісшы на залатых стужках і працягнуўшы да яго ручкі з белай лілеяй....

Бліэжэй, бліэжэй яна...

Ўжо ён чуе дыханьне, ўжо да яго вуснаў прыціснуліся вусны, гарачыя, сьвежыя... Ўжо паліць яго салодкі, мілы пацалунак, а навокал сьпяваюць райскія птушкі і анёлкі кідаюць кветкі...

Шчасьлівыя сьлёзы туманаяць яго вочы...

—Кляра мая... Анял мой,—кажа ён ёй:—Ты прыйшла да мяне на зямлю... Анял мой... Я—чалавек... Я—бедны, маленькі чалавек... ня варты цябе... Ты ў раі. Ты мыеш сваё цела пахучымі водамі, ты ходзіш па высокіх горах, ты пьеш з нябесных крыніц, ты сядзіш у раскошных садох, сярод залацістых дрэваў, люстраных вазёраў... Там шчабечуць табе птушкі гімн-славы, там кадзяць табе анёлы з нябесных кветаў. А я... я—бедны чалавек тут на зямлі... Паглядзі на мой дом... Знішчаны, абдзерты, чорны, без паветра, нікчэмны... Я — сам... Я ня маю нічога... Я — лішне бедны, каб пражыць жыцьцём маленькага чарвяка... Я—чарвяк... Кляра мая... Анял мой!

— Я—чарвяк... —

— Ня плач, даражэнькі,—чуе ён яе нябесны голас...

І хтось пачынае граць ня выказна-прыгожымі мэлёдыямі на арфе. Гукі нясуцца роем у паветры, то гнеўна, то сьмяючыся, то сьпяшаючыся адзін за адным, усё вышэй, потым зноў злятаюць і квола, мякка датыкаюцца да яго вуха... А яна салодкімі пацалункамі паліць яму вусны так міла, так моцна ..

— Анял мой,—шепчэ ён ёй: — я кахаю цябе, як свё шчасьце, як рай... Ты прыйшла ў маё сэрца, ў маю душу, але ня можаш пайсьці ў маю кануру... Ты ня можаш, мяне кахаць...

— Анял ня можа кахаць чарвяка... Я—чарвяк...

— Кляра мая... Ты ня можаш мяне пакахаць... —

І ён плача моцна сьлязамі жалю, а яна гладзеіць яго валасы сваімі белымі ручкамі...

— Ня плач, даражэнькі... Ня плач... Вось табе ад майго сэрца белая лілея... Я кахаю цябе... З гэтай лілеяй ты ўзляціш у рай і мы хоць па-за жыцьцём спаткаемся ў райскіх садах. —

— Мой анял,—сьмяецца праз сьлёзы ён:—анял...

— Толькі твая райская душа можа прынясьці такую ахвяру... Толькі анял можа зысьці з сваей чыстай душой да душы грэшнай, бруднай і абмыць яе сваім каханьнем.. Я хутка скончу тут сваё жыцьцё... мой анял... Ня магу цярпець тут ганебнага істнаваньня сярод чарвякоў, бо няма цябе, бо я сам-чарвяк, бо я—бедны, як усё чарвякі... Мне яшчэ страшна кінуць зямлю... Ня ведаю, што рабіць у сьцюдзёным паветры бязмежнасьці, але ўжо з белай лілеяй я хутка хутка кінуся да цябе... Ен горнецца да яе... А яна сьпявае яму якуюсь дзіўную песьню аб харастве каханьня, аб адвечнасьці шчасьця, аб раі...

— Мы ўзляцім с табой у рай,—кажа ён на яе грудзёх: а Рабскі застанецца на зямлі?... Ты ня можаш кахаць Рабскага? праўда?... Не, ня можаш... Са мной белая лілея... —

— Я кахаю цябе, мой мілы... Я ня буду кахаць Рабскага... Я абхаплю сваімі залатымі стужкамі і падымуся высока-высока... Мы будзем лятаць над людзьмі, над гэтым вось мейсцам і будзем зьліваць нашня душы ў адзін пацалунак... —

Яна сьхіляецца над ім і дзіўнымі гукамі арфы пачынае апавядаць яму невядомую казку...

А Дзьвіна ўсё таксама клякоча... Таксама чуваць па каменьчыках вясёлыя ручаёчкі, таксама гараць вочы ракі...

Толькі над сонным Лебядзьком усё стаіць белы анял. — Кляра, і ўсё апавядае казку...

VIII.

Прышло. вясельле... Зьехаліся ўсе, што прыймалі ўдзел у маёўцы ды яшчэ зьявіліся госьці з вёскі...

Кляра прыехала раней усіх і адразу пачала граць пераважную ролю... Рабскі быў ня менш выдатнай другой скрыпкай, дапаўняўшай Кляру: ён быў сват, а яна — свацьця.

Лебядзька яшчэ ня было. Пачакалі яго, пачакалі ды й пачалі вясельле. Лябядзёк прышоў толкі ў час самых скокаў. Што было моцы гралі два духавых аркестры, скакалі падвыпіўшыя госьці; ўсё круцілася, што толкі магло круціцца...

— Што ж я? — падумаў Лебядзёк, падыходзячы да саду: — Той шут, што скакаў на хаўтурах?

— У мяне толькі наадварот... Нябошчык на вясельлі... —

Апрануты ён быў у звычайны шэры касьцюм, толькі нагруднік ды каўнер былі лепшыя, сьвяточныя. Выглядаў ён хоць і дужа дрэнна, але ж лепш, як учора. Калі ён падышоў да саду, Камяловіч пайшоў на спатканьне.

— Позненька, позненка... Ну, але лепш позна, чым ніколі. —

— Выбачай, тысячу разоў выбачай, — адказываў Лебядзёк, паціскаючы моцна руку Камяловічу.

— Ну, нічога... нічога... Пойдзем да жонкі... Пазнаёмлю. Яны пайшлі да сядзеўшай маладухі. Гэта была звычайная, досыць поўная кабеціна, з тых, якія троху рамансуюць маладымі, а потым робяцца занадта спраўнымі гаспадынямі й маткамі.

— Вось табе, Марачка, — казаў Камяловіч, паказуаючы на Лебядзка: — яшчэ адзін госьць... —

— Язэп Лебядзёк,—прамовіў той, падаючы руку.

Дужа прыемна,—адказала маладуха.

— Уваходзьце, калі ласка, ў нашую кампанію... —

— Дазвольце мне перш за ўсё, хоць і спазьніўшыся, прывітаць вас з шлюбам і разам с тым пажадаць вам найлепшага, сямейнага шчасьця...

— Дужа дзякую, — адказала яна. У гэты момант падыйшла Кляра з Рабскім.

Пабачыўшы Лебядзька, яна трошку пачырванела, потым усьмяхнулася. Лебядзёк бытцам яе не прыкмеціў і не пакланіўся.

— Дабрыдзень,—казаў Рабскі, абнімаючы Лебядзька... —

— Але ж ты зьмяніўшыся... Ну, нічога, мы яшчэ пакруцімся, пагуляем... А дзе ж сваця? Бачыў ж?—пытаў Рабскі, аглядаючыся.

Свацьця стаяла размаўляючы з маладухай.

— Паня свацьця! Бачылі гэтага пазьненькага госьця?.. —

— Ня ў свой час госьць—горш за татарына,—сказала яна са злосьцю, толькі трошку пасьміхнуўшыся.

— Які шаблон! Вы ж яшчэ ня бачыліся! —

— Не, мы з госьцям ня дужа даўно бачыліся, — адказала Кляра, ня рухаючыся з мейсца...

— Што-небудзь ёсьць,—падумаў Рабскі.

— Тады пойдзем у мужчынскі аддзел,—сказаў ён.

— Выбачайце нам, зьвярнаўся Рабскі за ўсіх да кабет. Мы на адну хвіліну.—Яны пайшлі і пачалі трактаваць Лебядзька гарэлкай.

— Што ж гэта творыцца с табой. Ты, брат, не таі. Адказывай па праўдзе. Вочы нейкія ня выразныя, занадта напружаныя. Адказывай па сяброўску. —

— Абсалютна нічога... вучуся пільна... —

— Не, брат, што-небудзь другое. А Кляра чаму злуецца?.. —

— Ня ведаю, браток... Жаночае сэрца-цёмны акіян. —

— На. Пій яшчэ... Даганяй нас... Мы—пьяныя, а ты цьвярозы... Цяжка размаўляць... Пій... Лебядзёк хутка іх дагнаў. Ды аслабшаму арганізму ня трэба было шмат.

Кляра паміж тым села й пачала раздумываць.

Яна пабачыла Лебядзька занадта зьмяніўшымся. Ніхто другі ня мог быць прычынай яго хваробы, як яна. Жаночая мяккасьць і сумленьне моцна загутарылі...—Ці добра я зрабіла з Лебядзьком?..—падумала яна:—не, занадта па зьверску?—Не...

— Я мусіла так зрабіць. Праўда, трошку гарача...

— Але ж тады ўжо я не памятала... Злосьць у мяне занадта вялікая. Аднак, што ж? Пры чым я, калі ён мучаецца... Я ж не вінавата, што прыгожая і што ён пакахаў... Я яго кахаць не магу...

— Пры чым жа я, што ён захацеў жанчыны, з якой ня мог мець нічога супольнага. Няхай мучаецца...

Яна устала, рашуча пайшла, а ўсё-ж ткі бытцам нейкі чарвяк грыз яе сумленьне...

Шкода ей рабілася Лебядзька!.. Як паказьнік благога чыну стаяў ён перад вачыма.

Яна аднак хутка забылася ў сьмеху ды скоках Лебядзёк адышоў ад Рабскага і пачаў шукаць Кляру. Хутка ён яе пабачыў.

— Вашая дастойнасць, m-lle Кляра, — крыкнуў ён ей моцна. Вашая эксэленцыя, не адмоўце... —

Тая спынілася і зьдзіўлена паглядзела на пьяны твар крычаўшага.

Дзе якія госьці пачалі сьмяючыся глядзець на яе.

— Не адмоўце прыняць гэты допіс. Вялікую ахвяру зробіце... Дужа вялікую... Вартую трох-пудовай сьвечкі... —

Кляра хацела адыйсьці:

— Вельміпаважаная панна Кляра. Цалком сурьёзна. Вам допіс. Потым я хацеў бы з вамі пагаварыць на адзіноце. —

— Не,—казала яна, прыймаючы допіс.—Мы з вамі даўно ўсё сказалі. Канец.—Яна хутка пайшла ад яго.

— Дык прашчайце! На векі!—крыкнуў Лебядзёк.

Кляра не абярнулася... Яна зьнікла дзесь сярод людзей.

Лебядзёк пастаяў, пастаяў на адным мейсцы, падумаў... Сумна яму ча

мусьці зрабілася. Яшчэ больш сумна, як было раней, гарэлка дадала яшчэ больш жалю. Ен прасьлязіўся...

Але потым падняў галаву й топнуў нагой...

— Канец, дык канец!—сказаў ён і без капялюха пайшоў да хаты.

IX.

Калі ён пастукаўся ў дзьверы, было каля трэцяй гадзіны раніцы. Гаспадыня ня хутка яму адчыніла дзьверы.

— Добры вечар!—цяжка павярнуў ён языком.

— Ня вечар, а ўжо пад ранак,—адцеміла гаспадыня.

— Калі ранак, дык чорт яго бяры... Хай будзе... Я змучаны... Спаць хачу... —

Гаспадыня зноў зачыніла дзьверы й выйшла. Ен разьдзеўся... Сеў на крэсла. Падумаў троху. —

Потым парыўся ў кішэні, дастаў вяроўку.

Паглядзеў на яе некалькі разоў бязсэнсова, затым прыпомніў сабе ўсё; дайшоў да ваконнага крука; перакінуў праз яго зробленую пятлю, падцягнуў крэсла. Узлез на яго... Сьпяшаючыся ўсунуў галаву, адкінуў крэсла й павіс...

Гаспадыні ў гэты час штосьці не спалася. Неякія сны жахлівыя сьніліся, потым узбудзіўшыся яна бачыла проста нейкія мігаючыя цені... Праўдзіўшы Лебядзька, яна доўга ня магла заснуць...

Неўспадзеўкі грук лецячага крэсла...

Яна хутка ўскочыла... Прыадчыніла троху дзьверы, — гарыць лямпа, знача ня сьпіць... Рванула потым — шырока іх і адкінулася назад: вісячы Лебядзёк адыходзіў у апошніх дрыганьнях.

Страх абхапіў гаспадыню... Валасы паднімаліся... Пакуль адчыняла дзьверы, мурашкі хадзілі па скуры. Яна на грэх нямагла трапіць ключом... Нарэшці выскачыла ў карыдор і не сваім голасам закрычала: „ратуйце!..“

Суседзі зьбегліся, перапалохаліся, паляцелі за паліцыяй. Прышла паліцыя; зьнялі сіні труп, сьпісалі пратакол. Справа была зусім ясная: на стале ляжала караценькая запіска: „Прашу нікога не вініць...“

Набралася поўная хата народу. Далі ведама Рабскаму, Камяловічу, Кляры ды іншым знаёмым. Камяловіч прыехаць ня мог, бо жыў за горадам Кляра не прыйшла. Адзін толькі Рабскі з гаспадыняй рабіў усе хаўтуры. Іхнім старэньнем было зроблена тое, што тутэйшы поп згадзіўся „адпяваць“ яго. Дасталі чорную дарагую труну, добрую катафалку. Кямяловіч прыслаў грошы і вянок ся стужкай: „Дарагому сябру засмучаныя маладыя“. Кляра прыслала таксама вянок: вялікую пальму з дзьвемя даўгімі стужкамі, надпісанымі:

„Толькі сьмерць даруе грахі і еднае сэрцы. Кляра...“

На другі дзень пацягнулася жалобная працэсія з дзесяткаў двох студэнтаў і студэнтак.

Ішлі сумна, ня гутарылі, ня сьпявалі. Думалі кожды па свойму цяжкую думу. Прыйшлі на магілкі, пачалі спускаць труну... Першы кінуў тры жмені зямлі Рабскі, за ім другія, потым труну пачалі засыпаць. Засыпалі, накапалі копчык зямлі, паставілі крыж, палажылі і павесілі на яго вянкі. Усе стаялі моўчкі.

Рабскі глухім голасам, у якім чуліся сьлёзы, прамовіў: „Яшчэ адна сьвежая магіла“.

Потым вышаў наперад.

„Думаю сабе“, пачаў ён: „Жыў сярод нас, хадзіў, казаў часам цікавыя рэчы, а ў самога была чэрвяточына. Колькі гэтых крыжоў тут... І колькі сярод іх такіх самых маладых з чэрвяточынай, самагубцаў. Над гэтым задумацца! Запраўды“.

Ен падняў галаву.

„Самагубства разьлілося шырокай хваляй па нашаму краю, асабліва сярод молодзі...

„Дзе-ж прычына гэтага?.. Я думаю ня толькі ў псыхіцы людзей... Не... Шырокасьць самагубства застаўляе думаць, што прычына ў цэлым укладзе жыцьця. Нэрвовые, чуткіе асобы, ня зносяць уціску, цяжкіх варункаў і канчаюць з жыцьцём...

„Як там ня думаць, але-ж мы — людзі — творым жыцьцё тут, на зямлі. Знача, мы самі вінны ў заганах гэтых варункаў. Мы—людзі, мы—прычына сьмерці самагубцаў.

„Яны крычаць нам сваім самагубствам: людзі перарадіцеся! Падумайце, куды вы йдзеце, як вы творыце сваё чалавечае жыцьцё...

„Перарадзіцеся духова, бо ня царста Божае, а проста шчасьце ваша ў вас саміх ёсьць.

„Можа-б, нават, тэарэтычна, сябры, вы спрачаліся-б. Але ж вось сьвежая магіла, хіба ня крычыць нам сёньня аб гэтым...

„Перародзімся... А перарадзіўшыся, пакахаем перш за ўсё жыцьцё. Гэта, праўда не рамантызм?.. Тут мы ўсе занадта цьвярозыя. Не романтызм гэта, а першая патрэба для кождага чалавека!..

„Толькі тады ён будзе жыць... Інакш сьмерць, хутчэй, усяго самагубства... Можа шмат ёсьць людзей, якія ня могуць пакахаць жыцьця, але жывуць... Як ня горка, а трэба... І што ж? Сярод жудасных, чорных мамэнтаў, сярод хомару разам прабіваецца сонца...

„Так ідзе горкае з салодкім, чорнае з сьветлым... У гэтым жыцьцё...

„А ёсьць людзі, што, пажыўшы троху, сьвядома даходзяць да самагубства... Усякае самагубства, ёсьць „ідэйнае“ адкіданьне жыцьця. Як бы цяжка ня жылося, а ўсё-ж ткі ў чалавека ёсьць пачуцьцё жыцьця. Толькі сьвядомасьць чалавека можа зьнішчыць іх і прывясьці да самага рашучага канца...

„Я кажу так таму, што ведаў добра Лебядзька. Магу проста зазначыць, што ён скончыў жыцьцё сьвядома, „ідэйна...“ Жыць няма што, калі ўжо сёньня ня можна ні куды йсьці, калі надзея зьнікла... Што каханьне?.. Яно не для мяне... А што мае пачуцьці, мой розум? Драбніцы, нічога ня вартыя ў абсалютным значэньню...

„Выходзе, жыць ня трэба... Тут канец... Тут нейкі „ідэйны“, сьвядомы канец...

„Не, панове... Такі розум я заву аднабокім...

„Такіх людзей — аднабочнікамі...

Як бы адна нэгатыўная палова мозгу працуе ў такіх людзей... Яны бачаць толькі чорныя староны, яны аналізуюць і самааналізуюцца...

„Пасьля халодным розумам кажуць, тут канец!.. Выхаду няма... Знача сьмерць...

„Дык вось, панове... Тут мы сярод крыжоў дадзём абяцаньне, што будзем змагацца з такім пэсымізмам, з аднабочным жыцьцём, з ідэяй самагубства... Вы бачылі тут, панове, сьмерць, гэтую глыбокую яму з засыпаным трупам чалавека.. Якім пасьля гэтага чароўным ёсьць жыцьцё...

„Якімі вясёлымі музычнымі мэлёдыямі яно грае... Як будзіць думкі...

„Жыцьцё—гэта шматстаронны, як бы сказаць, шмат струнны аккорд... Перад намі гэтулькі працы, гэтулькі заданьняў... Гэтулькі будзе яшчэ цікавага, прыгожага...

„Каб жыў яшчэ Лебядзёк!.. Але!.. Што рабіць?.. Лёс ахвяр выкупляючых просіць!..

„Ен загінуў ахвярай нашых бязпросьвіткаў...

„Сьпі ж, дарагі сябра!.. Хай будзе лёгкай табе зямля!..

Ен закончыў і сьхіліў галаву... Сьлёзы выступілі на вачах... Ня мог ужо выказаць таго, што адчуваў...

Ніхто балей нічога не сказаў. Усе пачалі разыходзіцца...

### X.

Кляра ня была на хаўтурах. Яна прыйшла позна з вясельля змучаная і зараз жа лягла ў пасьцель... Хацела заснуць, але перад сном рашыла прачытаць допіс...

— Ад каго ён мог быць?—думала яна...

Зразумела яна, што значыў нечалавечны выгляд яго, што значыла спозьненьне...—Але ж быць ня можа, каб ён скончыў самагубствам...

У гэтую хвіліну моцна пазванілі.

Пасьля ўбегла Адэля і закрычала; „Лебядзёк павесіўся“...

— Ня можа быць!!! крыкнула Кляра і закрыўшы твар рукой, завалілася на подушку...

„Вось дык нарабіла... Вось нягодная—пакутавала яна й лаяла сябе:

„Нягодная... Толькі нягодная... Загубіла чалавека... За нішто... Пачуцьці найлепшыя абсьмяла...

„Праступак... Грэх“... Яна не магла ўлежаць...

Паднялася, асьвяжылася, потым села на тую самую канапу, дзе сядзела з Лебядзьком...

„Няўжо я магу сабе даруваць гэта... Ніколі... Калі толькі праўда, калі толькі ён праз мяне...

„Я не дарую сабе... Няхай я яго не магла кахаць... няхай ён быў для мяне, ня прыгожым... Але ж ці можна было сьмяяцца? Так жорстка сьмяяцца?...

„Яго няма... Што мне рабіць... Якая пляма... які цяжкі ўдар... Ах ты сэрца маё...

Яна заплакала...

„І за што прыходзіцца мучацца... Ўсё каханьне гэтае... Вечныя мукі, мукі...

„Гэтыя мужчыны... Заўсёды яны прымусяць мучацца“...

Яна абцёрла хустачкай вочы, й пачала хадзіць... „Ну й хто мне скажа што я—нявінна. —

„Хто дапаможа мне ў маіх муках“. —

Яна, ламаючы рукі, хадзіла ад вакна да вакна.

Яго няма... Хоць цяпер трэба ўшанаваць яго...

„Трэба хоць добры вянок заказаць... Жалобу надзець“... Яна паслала Адэлю заказаць вянок з вядомымі двумя стужкамі, а сама надзела на капялюх даўгую чорную вуаль...

„Усё мала, мала... Цяпер па часе“... думала яна... „Чаму я раней была такой... Сорам“...

Яна зноў пачала плакаць.

„Няўжо я“, ламала яна рукі: „ня ўжо я згубіла яго?.. Ах, хто мне дапаможа!..

Хто высьветліць яго сьмерць... Хто мяне ўцеша... Не, сабе гэтага я не дарую...

„І чаму гэта так адразу, неспадзявана...

„Было вясёла, а цапер мукі... Няўжо я...

„Не... Пайду да Рабскага... Можа ён уцеша...

„Пэўна... Ен ведаў Лебядзька... Скажу яму пасяброўску“...

На другі дзень пад вечар яна йшла на вёску да Рабскага.

Той зьдзівіўся, калі пабачыў яе ў чорнай даўгой вуалі, з сумнымі, крыху пачырванеўшымі, вачамі.

— Пахвалі яго,—пытала яна, сядаючы на крэла...

— Пахвалі сёньня...

— А я да вас у тэй самай справе... хаўтур... Вось у чым справа... —

Яна дастала допіс...—Чытайце. —

Рабскі зьдзіўлена чытаў допіс, потым з тым самым зьдзіўленьнем паглядзеў на яе...

— Вы не разумееце,—прамовіла яна:—вам не зразумела... Але бачыце, што мне цяжка. . Я яго не кахала... Я не магла кахаць... Быў інцыдэнт... Ен мяне вінаваціць у сваёй сьмерці...

— Няўжо я запраўды тыгр... Няўжо я... Скажыце мне, даражэнькі... пасяброўску... Мне занадта цяжка... —

Яна заплакала.

— Я нічога пакуль што не разумею. Што сказаць?..

— Ня плачце, калі ласка, супакойцеся...

Яна яшчэ больш заплакала...

— Ах мне цяжка... занадата цяжка... Калі праўда, што я прычына... Я сабе гэтага не дарую... Я скончу як ён. Горш яшчэ...

— Скажыце мне толькі...

Сьлёзы не давалі ей балей гаварыць...

Рабскі глядзеў на яе з жалям. Так няпрыемна было бачыць гэту істоту такой няшчаснай, пакутуючай... Ен зрабіў бы ўсё, каб толькі ня чуць балей гэтых прабіваючых душу жаночых сьлёз...

— Супакойцеся, даражэнькая. — Супакойцеся... Трэба пагутарыць... Супакойцеся... Ня нэрвуйцеся... Я ж яшчэ нічога не разумею... Трэба пагутарыць... —

Яна пачала ўціраццa хустачкай, але ўсё ня магла супакоіцца.

— Я хачу ад вас дапамогі, — пачала яна праз сьлёзы... Я хачу ведаць аб яго сьмерці... Можа вы ведаеце... Мне так цяжка... Няўжо ён запраўды вініць мяне... —

— Даражэнькая... Раскажыце мне сваю гісторыю... Інцындэнт... Тады я вас можа ўцешу... —

— Мне так цяжка апавядаць, — казала яна ўсё яшчэ праз сьлёзы...

— Гэта такая сумная, хутчэй брудная гісторыя... Ен мне не падабаўся...

З самага пачатку... Мы пазнаёміліся ў беларускім гуртку... І з таго часу не падабаўся... Ну, беларус, беларус... Гутару з ім... а ён так глядзіць на мяне ды ўсё камплімэнты, камплімэнты... Ня доўга мы там бачыліся... Але ж вы ведаеце... А потым, вось, маёўка... Мы з ім гуляем... Чаму, думаю, чалавек ўсё ходзе за мной... Не адпушчае... Думае—так, ясна,—мець мяне сяброўкай жыцьця... Я пазвала яго... Але тут вось я й вінаватая... Чаму я так хутка, жорстка зрабіла ўсё... Ен быў для мяне заўсёды такі маленькі, дробны чалавек... А я зрабіла Каінаву працу...

— Я ж сьмяялася з яго чысьцейшых пачуцьцяў, з каханьня сьмяялася.. Я ўсё-ж ткі цяпер гэткая нягодная... паскудная... —

Яна зноў заплакала...

— Але як я мусіла гэта зрабіць? Я ня ведаю...

Не магла кахаць... Заніштo кахаць не... магла... —

— Ня плачце, супакойцеся... Ну чаго тут плакаць Чалавек памёр невядома дзеля якой прычыны... Нават калі б праз вас... Няўжо вы будзеце плакаць?.. Вашыя сьлёзы зусім дарэмны...

— Супакойцеся... Чаму вы ўсё плачаце?.. —

— Ах, няўжо вы яшчэ ня ведаеце... Я ж загубіла нізашто чалавека... Абсьмяяла... Я так нізка ставіла чалавека... Мне балюча... Я можа плачу не таму, што яго няма... Я плачу са злосьці на сябе, з жалю за брыдкі паступак...

— Мне цяжка... Таму мне цяжка... А можа я й загнала яго ў труну...—

Твар яе быў асунуўшымся ў гэтую мінуту... Фігурка зрабілася бытцам ніжэйшай, вочы ўпалі глыбей...

Рабскі паглядзеў на яе пільна, як бы хацеў глыбока заглянуць у яе душу...

Ен пачынаў ужо разумець гісторыю з Лебядзьком і бачыў яе грэх, але гэтая шчырасьць плачу пераканалі яго ў яе нявіннасьці, чыстаце..

— Бачыце, — пачаў ён: — па моему вы ў ґэтай гісторыі не вінаваты... Да вас яшчэ Лебядзёк мне казаў, што ня верыць ў жыцьцё, ня хоча жыць... Рана ці позна ён скончыў бы самагубствам... Нават, калі б вы яму не адмовілі, не асьмяялі, а можа выйшлі б за яго, дык і то невядома ці згадзіўся бы ён с такім жыцьцём...

— Мне, здаецца, ён ўсё роўна скончыў бы самагубствам... Не, не... паверце мне... Вы тут ні пры чым... Вы зусім у старане... —

— Не... я — вінна шмат у чым вінна... Сьмерць яго — мая маральная пляма... Што рабіць... Але няўжо я вінна яго сьмерці... Праўда... —

— Не... не... Нявінны... Я вам разкажу крыху аб Лебядзьку... —

Ен запаліў папяросу, папраівіўся ў крэсьле й пачаў:

— Ґэта было ня вельмі даўно, але цяпер здаецца далёкім мінулым. Я толькі што стаўся студэнтам і адразу трапіў у нязвычайныя варункі... Ў гімназіі што лекцыю выклікалі, а тут ніхто, нічога... Хочаш вучыся, хочаш не...

— Нейкія маральныя нормы...

— Ну, а ведаеце, што для нашага брата мараль? Адкінуўшы на бок лекцыі, сшыткі, высокую матэрыю з абавязковым высокім „стылем“ кінуліся мы з галавой ў мора жыцьця... Загутарылі маладые сілы, што былі скаваны гімназіяй ды бацькамі... Мы пачалі як пятушкі, выпушчаныя з клеткі, расправляць крыльлі... —

— Хто яго ведае, чым ён тады займаўся... Толкі заўсёды неяк баяўся людзей, трымаўся асобна і падняўшы горда галаву. Фізычна ён быў слабы,

хваравіты, ня прыгожы і таму гэная паднятая галава выглядала як заўсёдны вызаў другім...

„Ня дзівуйцеся“, здаеецца казаў яго выгляд — „што я такі бледны, мізэрны, плябэй, але я ня горшы калі ня лепшы за вас“.

— Другія стараніліся яд яго і ён жыў анахорэтам. Але мы зышліся з ім... Я яго пачаў цягаць у грамадзянства і Лебядзёк мала - памалу зьмяніўся. Вочы яго глядзелі ня так сурова ды не прылюдна, галава не выглядала так горда паднятай... —

— Раз мы зрабілі з ім чарговае вандраване на вёску... Было ўжо пад вечар, калі мы папалі на дарогу паміж вялікага мяшанага лесу...

Ведаеце, такі летні, ціхі з цудоўна жоўтавата - чырвонымі барвамі захаду...

— Ідзем сабе, размаўляем... Бачым хтось ідзе наперадзі чырвоны... Падходзім бліжэй... відаць кабета... Йдзе шпарка, моцна, бытцам ляціць...

— Сустрэліся... Бачым цыганка; такая сярэдняга ўзросту, стройная, моцная; вочы так і гараць, — чорныя, як вугаль; сама румяная. Такая прыгажуха, з такімі цудоўнымі формамі цела, што я ў жыцьці яшчэ не бачыў...

„Трэба спыніць кажу Лебядзьку... — „Трэба...“

— Куды так Бог нясе? — пытаю...

— Сама, бачыце, йду. Ніхто не нясе... —

— Во, ты, якая гордая, — думаю. Яна йдзе... Мы вярнуліся за ёй — Пачакай — кажам, — паваражы нам... Добра заплоцім... —

— Варажыць хочаце... Цяпер позна... —

— Ды не, ня позна... Яшчэ можна... Мы ўдвоя даражэй заплоцім... —

Яна падышла да нас, выцягнула карты і села каля канавы... Лебядзёк сеў з аднаго боку, я з другога. — Варажы на мяне, — кажа Лебядзёк — а сам як дзяцёнак, губу разінуўшы, глядзіць на яе. —

Яна пачала варажыць... Ужо сьцямнела... Пачалі пытаць яе. Даведаліся, што яна жыве тут, у бліжэйшым табары, што бацькі яе няма, што ёй дрэнна жывеца.

Пыталі яе, пыталі, нарэшці Лебядзёк як схопіць яе няўспадзеўкі і пачаў цалаваць. Ну, што вы зробіце... Але ж яна, як вугар выскачыла з яго абоймоў, і выхваціла з-за пазухі нож.

— „Толькі краніце...“ — Што вы думаеце?—Лебядзёк стаў на каленкі і злажыў рукі: — „Слухай, я цябе кахаю... Будзь маёй... Кінеш табар... Мы паедзем с табой у места... Будзем жыць...“

Яна схавала нож.

— „Не магу... Сьпяшаюся...“

— „Слухай“, кінуўся за ей Лебядзёк... „Прыйдзі сюды заўтра... Я дам ўсё, што маю...“

Ен выхваціў папернік з кішяні.

— „Ня ведаю... Пабачу...“ І паляцела як страла.

— Няма што, адбіў мне дзяўчыну. Вось і хадзі с табой, — жартаваў я. Лебядзёк маўчаў...

А пасьля таго яны сталі блізкімі запраўды...

Праз месяцы два прыхаджу да Лебядзька і што ж вы думаеце? Знаходжу яго з пісталетам у руцэ...

— „Што ты? Ці не страляцца“?

— „Не, кажа“,—і дрыжачымі рукамі кладзе яго на стол.

— „Што задумаў? Няўжо жыцьцё замучала?“

— „Ведаешь што. Са мной ня добрае... Нішто нё для мяне“...

— „Ну, што, можа цыганка здрадзіла?“

— „Ды што цыганка. Яна мяне кахае, а я яе—не... Нават цыганка цяпер нічога... Вось я сабе думаю... Добра... Я яе кахаю... Яна можа і ня здразіць...

— Што тады! Якія пэрспэктывы? Шлюб?—Тады што?.. Дзеці, беганіна, турботы... На што мне тады яе краса... А так кахаць дык няма сэнсу... Жыцьцё як паглядзіш толькі жарт над людзямі... Зусім ня варта жыць...

— Вось вам ужо самагубца. Як ёсьць аднабочнік...

Ен запаліў папяросу і хвіліну замаўчаў...

— Чым жа кончылася ўсё.—зацікавілася Кляра, троху заспакоеная.

— Ах, вы хочаце канец?.. А канец, ведаеце, ўжо мне належа.. Я ўжо гісторыю дакончыў... —

— Як жа так?...

— А так ужо выйшла... Прыхаджу раз у той самы лес і бачу яна сядзіць... Падыйшоў, гутару... —

— „Дзе ж той... Чаму доўга ня прыходзе“?...

— „Яго“—кажу—„няма, балей ня прыйдзе“...

— „Як, ня прыйдзе? Зусім?“ —Троху пабляднела, потым пацягнулася, пазіхнула, ўстала.

— „Пойдзем, правадзі мяне троху“... Я правёў яе.

— „Хочаш, каб я цябе кахала... На злосьць таму буду кахаць мацней“...

— Абхапіла мяне сама і цалуе, цалуе... Аж ня прыемна стала... З таго часу пачаў ужо я раманс... Хадзіў заўсёды да яе ў лес... Нават купіў раз для яе модную вопратку і прывёў на вечарыну... Лебядзёк зусім замкнуўся...

— Нікуды не хадзіў... Нават са мной не хацеў гутарыць, чытаў толькі... Калі й пачынаў гутарку, дык толькі каб пасьмяяцца: „Ну, й адукаваная асоба... Зьвязаўся з цыганкай... Карагодзіцца і нават ніколі не падумае аб тым; чаго ўсё яно варта... Такая брыдота“... Раз ідзём з ёй да рэчкі... Падходзім бліжэй да маста, ля самай дарогі.—Ціха навокал...

Толькі джурчыць вада каля каменьняў... Цёмна... Нават мы ня гутарым... Усходзім на мост... Я трошку ўперадзі, яна ззаду... Толькі зненацку: трах! мяне чымсь вострым у плечы... Чую толькі сьмех. Яшчэ мог, абярнуўся... Яна скача з ножыкам у крыві... Я не магу стаяць... Але яшчэ гляджу... Яна раз сябе па горле... Што было не памятаю... Ужо збудзіўся на вёсцы у свайго дзядзькі... Вылечылі... Толькі і цяпер яшчэ на плячох шрам...

— Фінал, як бачыце, зусім цыганскі...

— Ласьне кажучы, я рамана тут ня бачу... Мне здаецца зьместу няма,— сказала Кляра.

— Магчыма... Але гэта ня важна... Важна тое, што тут фігуруе Лебядзёк... Бачыце нават такая цыганка... Яго не здаволіла.

— Ен ужо ня бачыць сэнсу самага каханьня... Знача, калі б нават вы й пакахалі яго, дык ён так сама пабачыў бы што ніякага сэнсу няма ў вашым каханьні... І, я думаю, ён усё роўна скончыў бы самагубствам... Вы тут не прычом, паўтараю... —

— Мне ўсё ж ткі... Як падумаеш, цяжка. Павесіўся, як бы ўсё ж ткі праз мяне... —

— Вам толькі здаецца... А самая прычына сьмерці можа значна глыбей... Цяжка бязумоўна ў гэтым разабрацца... Але мне здаецца, ён не памер бы толькі ад аднаго каханьня... Ен, мне здаецца, ўсё спаліў, што толькі было жывога, што яшчэ магло клікаць да жыцьця... Усё было падведзена пад адзін паказьнік, ўсё скасавана яго розумам...

— Такі розум і прывёў яго да лёгічнага канца...

— Я яго заву аднабочнікам... Але, мне, здаецца, што тыя людзі, якія жывуць яшчэ, ёсьць таксама аднабочнікі... Усё жыцьцё гэтакіх людзей выходзе толькі з аднаго боку... Вазьміце вось у грунце рэчаў Камяловіча. Параўнайце з ім Лебядзька.. Як яны падобны ў гэтай аднабокасьці... Адзін жыве толькі брухам... Другі толькі кнігамі, думкамі, знача духам...

— Адзін толькі эгоіст, другі быў альтруіст...

— У іх няма тэй залатой сярэдзіны, якая патрэбна кождаму чалавеку: падзеу працы паміж брухам і духам... Праўда, ёсьць і рожніца... Лебядзёк, напрыклад, ужо дайшоў да лёгічнага канца... Ен можа й натура лепшая, можа толькі варункі такія спляліся, ці што... Але Камяловіч ня можа дайсьці да гэтага канца...

— Ен ужо страціў чалавечы твар...

— У будучыне ён такім і застанецца... Можа зробіцца, праўда, капіталістам, пасьля дойдзе да пэсымізму, ну, павесіцца то ён не павесіцца, бо занадта кахае сваё бруха, але застанецца такім самым... як бы сказаць... вечным самагубцам, аднабочнікам... Тут канца няма...

— Што мне Камяловіч, — сказала Кляра, амаль зусім заспакоеная: — Мне ня важны вашыя параўнаньні іх... Мне важна толькі тое, што я ўсё ж ткі ня прычына яго сьмерці... Можа толькі бочная... Мне значна лягчэй...

— Троху ўцешыў... Але я ўсё ж ткі мушу налажыць на сябе пакуту... Не магчыма зацерці усё...

— Я не магу другі раз сьмяяцца з чалавека, з душы яго... Як мне жаль Лебядзька! — Што знача гэта сьмерць?.. Так сумна цяпер... так страшна. —

— З тэй, ці другой прычыны яго няма... А после мы... Ня кінем пасьля сябе нічога...

І із нас будзе сьмяяца новае жыцьцё, як і з яго... І мы таксама забудзем сваё вясельля, гульні, будзем ляжаць там... на дне...

— Не... гэта страшна... сумна! —

— Нічога няма страшнага... Мы ўсе памром...

— Але ж затое трэба жыць так, каб ня жаль было памёрці... Жыць прыгожа, са зьместам... Вось дзе мэта чалавека... Пражыць так, каб спаліць усё, каб усе сказалі: тут скончылася прыгожае жыцьцё... Што тады сьмерць... зусім нічога страшнога... —

— Вы мяне ўсё супакаіваеце... — ўсьмяхнулася яна: — Дзякую вам... дзякую... Мне цяпер ужо лягчэй... Сумленьне маё троху заспакоілі... Ня маю хоць на сабе плямы сьмерці чалавека... Я магу ўжо пажалець яго, як чалавека, як беларуса... —

— Жалець?.. Ну, жалець ўсё ж ткі трэба... Ўсё ж людзі, былі так блізка каля нас, жылі, а цяпер іх няма... Але што ж.. адышлі, Бог з імі.. Думаецца, гэта апошнія людзі — самагубцы... Я пэўны, што сярод нас іх ня будзе... Мне нават здаецца, што мы беларусы, ў працэсе страшэннай, напружанай барацьбы за наш нацыянальна-культурны дабрабыт вытварым моцную, здаровую нацыю...

— Ў гэтым працэсе, пад вечныя перазвоны змаганьня, пад крыкі падымаючыхся мільёнаў, пад радасным сонцам уласнай культуры зьнікне ўсё пакаленьне пэсымістаў, аднабочнікаў, а выгартуюцца зялезна-здаровыя, нацыянальна-сьвядомыя беларусы...

— Тады пералівамі чароўных фарб заіграе наша зямля... Так веру... —

Ен падышоў да яе...

— Ня будзем думаць аб тым, што было, аб сьмерці...

— Паўтараю... Калі хочаце быць чалавекам, жывіце прыгожа... Калі б вы былі радасьцю, падпорай другому ў жыцьці і аднэй з матак новага, моцнага пакаленьня... Вы б маглі сказаць, што жылі на зямлі...

Кляра не знайшлася што-небудзь адказаць... Яна была зварушана... Ў сэрцы яе, пасьля такіх сьлез, стала так сьвежа, так добра бывае толькі ў паветры пасьля дожджу, калі вясёла сьмяецца сонца... Нічога ня кажучы, яна глядзела на яго ўдзячнымі, блішчэўшымі ад радасных сьлязінак вачамі і толькі сьціскала руку...

Рабскі, праводзячы яе, выйшаў на ганак...

— Выбачайце, — казала яна, стючы ўжо на вузенькай дарозе... — За турбаваньне вас... за сьлезы гэтыя...

— Ведаеце, ўсё жаночая слабасьць... Да пабачаньня... —

Яна павярнулася й пайшла.

— Ня плачце ж балей... Да пабачаньня,—крыкнуў ей Рабскі ў сьлед.

Кляра абярнулася, ўсьмяхнулася й хутка схавалася за прыгоркам...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Праз тры месяцы Кляра стала паняй Рабскай.

---

ЮНАС БІЛЮНАС

# Сьмерць Брыся.

На вялікай кучы кастры, каля пуні, ляжыць Брысь, — сівы, апоўзлы. Знаць ён яшчэ бачыць але як праз туман і ўжо свайго чалавека часта не спазнае. Цяжка і яму старасьць, ўсімі забыты, пакінуты. Сам добра чуе, што ўжо мала каму патрэбен, але, сколькі яго змогі стараецца быць яшчэ карысным. Хоць і недачуе і цяжкія павекі прыкрываюць яго змучаныя вочы, але ўсё-ж такі ён адганяе ад сябе сон і слухае. Слухаючы засыпае. І чуе праз сон: блізкі ступат, бытцам хтось чужы ідзе... Цяжка ўстае стары Брысь са сваей лежы і брэша хрыпатым, соным голасам.

— Ах ты сьляпы, ці ня сьціхнеш! Свайго чалавека ня бачыць — чуе ён знаёмы голас.

Засаромлены шчырыць бяззубую морду, вые жаласьліва, як бытцам перапрашаючы і спусьціўшы хвост ізноў кладовіцца спаць.

Часта ўжо чоў Брыся спадманывае, сароміць яго. Няраз у дома, лежучы пасярод хаты, сьніцца яму злодзей або воўк, якіх, калісь у моладасьці ганяў, і пачынае яму здавацца, што гэты ворагі цяпер ізноў скрадаюцца: падыймае ён тады сваю старую галаву, і, бытцам чагось спужаўшыся, неўспадзеўна... забрэша: гаў! гаў!

І, раптам, замест злодзея чуе ён з усіх старон вымоўкі сваіх: — Ах, ты сівы! Сусім здурнеў!

Няведаючы куды дзецца ад сораму, ўстае ён, і, спусьціўшы хвост, лезе пад лаву...

— Куды лезеш? Пашоў вон! — крычаць на яго.

І Брысь сумна выходзіць з хаты.

Цяпер ён баіцца ўхадзіць нат у хату. Лепей ужо на кастрэ ляжаць— ўсё-ж менш будзе другім каля ног таўчыся.

Праўда, ў хаце вельмі добра, ляжаць пад сталом цёпла. Але косьці гладаць ўсё роўна няможа ўжо, а ад мух старому там цяжка абараніцца. І

сюды, шкадуючы яго страсьці, прыносяць яму часам крупені ў місе палактаць а—не, дык сам ідзе вохшыць па кутах, шукаючы корму, на які даўней і не паглядзеў-бы.

Гэтак гаруе Брысь ў старасьці.

Быў-жа і ён малады, дужы, ўсімі лашчаны. Тады нямог, адбараніцца ад людзей. Дзеці з ім забаўляліся, запрогшы яго ў вазок езьдзілі; не злаваў на іх Брысь, хоць часам яго, зусім без патрэбы крэпка ўдарылі, — ведаў, што яны малыя і слабыя і мала яшчэ разумеюць..У хаце кожды яго да сябе клікаў, хлебам кармілі і на ўловы з сабой бралі. Пастух яму і творагу не шкадаваў, каб толькі не ўцякаў дамоў, каб пілнаваў стада. А сколькі яшчэ ўжо старым будучы, пастухам сьмеху нарабіў! Закінуць, бывала, яны на галаву Брысю сьвітку і трымаюць, а аднаму загадаюць схавацца; пасьля шукае Брысь шукае. І заўсёды знаходзіў, хоць-бы той за поўвярсты на найвышэйшую елку ўзлез. Вышуківаў сьляды, абнюхіваў дрэва і падняўшы ўверх морду пачынаў брахаць. Не адыходзіў аж пакуль той ня зьлезе Пабачыўшы, што хлапец ужо злязае, пачынаў скакаць брэшучы з радасьці і, вярнуўшыся, з вывешаным языком, да пастухоў, глядзеў то на іх, то на зложаныя сьвіткі, ведаючы, што адтуль напэўна дастане гасьцінца, мяса кусочак ці скарынку хлеба.

Але і пастухі забыліся аб ім...

Ляжыць стары Брысь на кучы кастры, сьпіць. Бачыць ён ў сьне качкі якіх гаспадар яго страляе, а ён носіць з вады. І так качак гэных многа гэткія яны клустыя, прыгожыя... Прыплюшчвае Брысь вочы і соладка пазіхае ўспомніўшы аб іх. Але як ён крэпка зьдзівіўся, запраўды пабачыўшы перад сабой гаспадара са срэльбай на плечах.

Сваім вачам ня хоча верыць... пэўна яшчэ сьпіць... Але выразна чуе як той кліча: — са, Брысь, са! То мусі з яго старога жартуе? Нашто?

— Са, Брысь, са! Кліча гаспадар. Брысь падымае морду бытцам хочучы ўсьміхнуцца, але толкі чагось жаласна вые.

— Са, Брысь, са! Ен нехатна ўстае з кастры і ідзе за гаспадаром, не так як даўней — малады вясёлы, а апусьціўшы сумна хвост, як які вінаваец.

Гаспадар ідзе за будынкі на поле і адвяртаючыся усё кліча:

— Са, Брысь, са! Пад лесам стае. Брысь жаласна вые і глядзіць на чалавека, бытцам пытаючы нашто яго сюды прывёў? Бачыць, як той зьнімае з плеч стрэльбу, адыходзіць ад яго пару крокаў і пачынае цэліцца...— Няможа быць? Брысь няверыць. Гэта толькі пажартаваць з ім хоча... Але нашто так страшна жартаваць з старога... Нашто? Ен-жа ня вінен... Брысь хоча палашчыцца, памахаць хвастом, ды са страху прысядае на заднія лапы і па яго мордзе сумна цякуць горкія сьлёзы. Раптам чуе нейкі агонь і падае Брысь на зямлю. Прачыніўшы вочы бачыць толькі, як уцякае ад яго чалавек, трымаючы ў руках стрэльбу. Можа і зразумеў Брысь чаму чалавек забіў яго, а толькі нямог зразумець чаму уцякаў: ён-жа, ўміраючы, хацеў яму апошні раз палізаць ногі.

Пераклад з літоўскай мовы *Г. Л.*

САНТЭРЫ ІНГМАН *).

# БАТРАЧКА.

Быў хмарны восенны вечар, калі яны прыбылі ў Вертоля, яна і яе сын; праўдней, прышла маці і прынясла пры сваіх грудзех пяцітыднёвага сыночка, спавітага ў рызьзё. Яна прышла з мястэчка і прасіла жыхароў Вертоля прыгарнуць яе на нейкі час у іх прасторнай хаце. Летам яна шчыра працавала на гаспадароў ў сенакос і ў жніво; зімой яна прала воўну якую брала ад крамніка з мястэчка і нянчылася са сваім маленькім.

Ня можна сказаць, каб іх ветла прынялі. Народу ў засьценку было ня мала, а зямлі пры ім было нямнога. Але нельга было адмовіць ей, беднай—бо куды-ж бы яна дзелася? Карысьці з яе было ня шмат; усё-ж ткі, трэба сказаць і тое, што яна была пакорная і ўслужлівая, нікому ніколі не перашкаджала і ахватней за ўсё ціхамоўкам прала ў сваім кутку; хлопчык быў таксама ціхі, заўсёды ляжаў спакойненька каля маці і гэтак рэдка даваў голас, што ўсіх дзівіла, калі ён, хоць крыху, пачынаў плакаць. Да таго, як бы ня было, Маргета працавала, не адмаўлялася ад самага цяжкога. Калі, прыкладам, патрэбны былі яе рукі, каб выцягаць цяжкі невад, яна заўсёды гатова была памагчы і прасіла толькі, каб у часе яе нябытнасьці гаспадыня прыглядзіла дзіцятка. Людзі ня былі да яе асабліва злымі. Яна была гэткая маладая, бедненькая, і такая, здаецца, бязрадная, сумная, што прост грэшна было-б укрыўдзіць яе. Але гаспадыня пазваляла сабе, міма таго, ад часу да часу, пусьціць злое слоўца аб яе „няшчасьці“. Рабіла яна гэта баючыся, што сам гаспадар і другія мужчыны ў засьценку лішне ужо разжаляцца сумаваньнем бабылкі с харошым маладым абліччам і з вялікімі цёмнымі вачыма. Гэтак, напрыклад, калі ў хату захадзіў чужы чалавек і пытаўся, ў гутарцы, чыё гэта дзяцё ў люльцы, гаспадыня, зазвычай, адказвала:

— Гэта дзяцё нашай кутніцы — там, во, сядзіць сама матка. Але аб бацьку, дык няведаю, хто бы мог расказаць...

— Вось яно што! Знача знашла мальца ў лесе?

— Мусі так. Людзі кажуць, знашла яна яго пад крыжом на ўзлесьсі, а з кім я таго ня чувала.

— Гм! Яно, ведама, бывае...

— Бывае, ды яшчэ як бывае! Са ўсякай яно так можа здарыцца.

У гэткіх выпадках Маргета нізка пахілялася ў сваім кутку над калыскай—абліччa яе не відаць было пры гэтым, і ці яна плакала, гэтага ніхто ня мог-бы сказаць. Відаць было толькі, што яна клапатліва акрывала малога, а пасьля пачынала яго калыхаць і ціханька сьпявала:

Сьціхні, сьціхні вецярок,
Сьпі мой бедненькі сынок...

Калі давалі ей, ўрэшце спакой, яна, па нейкім часе, ізноў бралася за прасьніцу і пераставала сьпяваць, але покрадкам раз-ўраз спазірала на дзі-

*) Сантэры Інгман адзін з выдатнейшых фінскіх пісьменьнікаў, вядомы як абладаючый рэдкім талентам добрага популярызатара, прыгэтым вельмі адукаваны чалавек. Пададзенае апаваданьне гэта вельмі тыповае для фінскай літэратуры; называюцца ў іх падобныя кароткія апаваданьні „новэльлямі“. Тыпова для фінаў і тэндэнцыя дадзеная ў апавяданьні. Пашана мацярынства у фінаў большае, чым у якога бы-то ня было народу і становіць запраўдны культ. У кабеце фін, перш за ўсё шануе маці, і даўней, не з дзяценкам пакінутая дзяўчына, а яе спакусьнік бываў навекі зьняслаўленным чалавекам. Цяпер фіны праніклісія поглядамі Захаду, а галоўна ў гарадох; дзе эўропэйская культура здабыла сабе правы паявілася нетасоўнае для фінаў адношаньне да кабет. Супроць гэтага і паўстае Інгман у сваім апавяданьні. Пераклад зроблены грам. А. Рэутам спэцыяльна для „Крывіча“.

цятка. Можа яна думала аб чым іншым і рабіла гэта не заўважаючы; а можа, яна думала аб тым, што вось ляжыць прычына яе няшчасьця, адкінутасьці, беднасьці і мучэньняў, але ўсё-ж-ткі яно самае цэннае з усяго, што ў яе ёсьць, самае дарагое і мілае. Можа яна думала: „Што будзе з табой, мая бедная пташачка, калі ты вырасьцеш і выляціш з гнязда на шырокі сьвет? Ці лёгка будзе табе жыць сыну зьняслаўленай дзяўчыны? Ці стане ў цябе душы з годнасьцю пераҗыць сваё жыцьцё, ня стыдаючыся роднай маці, і сваей праўдзівасьцю і чэснасьцю змыць пляму твайго нараджэньня? Ці стане цябе на тое, каб зразумець гора і слёзы, і клопаты тваей няшчасьлівай маці і вярнуць ей пашану паміж людзей? Ці мо пойдзеш ты па сьлядох твайго бязжаласнага бацькі і будзеш губіць шчасьце людзей ня прычыніўшых зла?“ А мо, нічога такога яна ня думала, а толькі сумна пачувала ўсё гэта, калі прала воўну і крадкам пазірала на люлку.

— Нябось, мужа бы яна сабе знашла, і далёка ня з благіх, каб ня зьвіхнулася так рана, — гаварывалі аб ей мужчыны, калі яе нябыло ў хаце. — Баба яна добрая: спакойная, слухмяная, працавітая, а абліччам якая і гаварыць німа што — прыгажэйшай пашукаць трэба.

— Дзіўна, што яна не вымагала сабе ўтрыманьня ад чалавека, каторы не павёў яе да вянца. Нябось, яму прышлося-бы разкашэліцца калі не схацеў вянчацца.

— Ці ведае яна толкам, хто бацька? — ўмяшалася гаспадыня. — Дзейкаюць, што яна гуляла і з тым і з другім. Як-жа тут вымагаць утрыманьня?

— Дармо! Проста не адважылася яна, гэткая маладая і ціхая, пачаць суд. Стыдна ей... А што зьвёў яе ня хто другі, як сын Пясуніна — гэта-ж ведаюць ў вёсцы ўсе. Судзіцца з гэткімі багацеямі таксама ня лёгка—гэта хоць каму давядзіся... Вось і ўцякла яна, бедная, з мястэчка сюды ў нашу пустыню, а на сваё права відаць рукой махнула,

— У гэткія годы а заўсёды такая ціхая, зьбеджаная!.. Дый як тут ня зьбедзіцца, калі кожды цябе сароміць, кожды з цябе галузуе.

З раніцы і да ночы прала Маргета і як толькі канчала пражу, зара прыбіралася несьці ніткі ў мястэчка, да крамніка. Яна апранала сваю сьвяточную спадніцу, спаясывалася паясом і заплятала валасы ў адну касу, прыаздобіўшыся яна задумлялася другі раз перад люстэркам. Мо размышляла яна аб загубіўшай яе прыгажосьці, якой яна калісьці так пышалася?

Ці яна ўспамінала шчасьлівую пару дзяцінства і той час, калі была яшчэ ў чэсьці і магла стацца шчасьлівай, паважанай гаспадыняй, дзеля таго што хлапцы на перабой увіхаліся за ей? У кождым здарэньні не вясёлыя мысьлі прыхадзілі ей перад люстэркам, таму што адыходзіла яна да калыскі яшчэ смутнейшая, чым была перад тым, доўга аглядала і акрывала ціха спаўшае дзіцятка.

— Іш, любіць франціць па даўнейшаму, — сказала аднойчы гаспадыня, калі яна вышла. — Сколькі ў яе яшчэ пустаты залётнасьці!

— Затоя ў яе вочы, якіх у другіх баб німа, — адказаў гаспадар, каб падражніць жонку.

— Во, дзіва! У гэткай пабадзяўкі...

Калі Маргета вярталася з мястэчка, яна, зазвычай, бывала больш прыгнечанай, чым перш. У мястэчку сусрэчаліся ей людзі, якія зналі яе ў больш шчасьлівыя дні, і ей прыходзілася чуць не адно грубіянства, пагадрлівае слова; таму то і пачувала яна сябе там адінокай і адкінутай, як нідзе. вярнуўшыся вечарам ў засьценак, яна хуценька падыходзіла да калыскі, да свайго маленькага — адзінай істоце, трымаючай яе пры жыцьці. Дзеля яго варта было яшчэ пажыць! І ён быў ей ўжо апорай.

Асьцярожна брала яна малюську на рукі, прытуляла да грудзёў і любасна пазірала на яго... Ў гэты момант яна пачувала, што калі-б супроць яе падняўся ўвесь сьвет, каб нанова зьдзекавацца і глуміцца над ей, яна ня прышла-б да роспачы, таму што ў яе ўсё-ж такі асталася-б надзея, астаўсябы яшчэ нявыпаўнены абавязак. Пасьля, паклаўшы і старэнна акрыўшы малога, яна рупна ўкалыхівала яго, ўзіраючыся ў мілае аблічка. Хлопчык даўно ўжо спаў, а яна ўсё яшчэ гойдала люлку і ледзь чутна сьпявала:

Сьціхні, сьціхні вецярок!

Сьпі, мой бедненькі сынок!..

Спявала яна ціха, немаль шэптам. А ўсё-ж у голасе яе было нешта асаблівае і гэткая смутлівасьць, што ўсім ў хаце рабілася ня свойска. Моўклі мужчыны, моўкла сама гаспадыня, і нікому ўжо ня было ахвоты сьмяяцца. Мімавольна ўсе ўслухаліся ў песьню маркотнай бабылкі, што сядзела ў сваім кутку, і цяпер ужо яна ня была для іх аслаўленай істотай: перад імі была толькі няшчасьлівая матка, якая жыла дзеля свайго дзіцяці.

Параклаў з фінскай мовы *А. Рэут.*

---

ВЛАСТ.

# Беларускія аднасловы.

Грэцкае слова „сынонім“, ў перакладзе на нашу мову, знача—аднаслоў. Гэта словы, якія маюць або аднаякае, або блізкае па зьместу значэньне, прыкладам: гаварыць і гутарыць, ведаць і знаць, нуда і тўга і г. д. Аднасловы для кождай мовы зьяўляюцца вельмі цэннымі, бо яны надаюць ей гнучкасьць і тонацію, адзначаючы самыя дробныя пераходы і адценкі паняцьцяў. Але з другой стараны вымагаюць уважлівага да іх адношаньня, асабліва са стараны працаўнікоў пяра, бо што сойдзе ў вуснай мове, то, іншы раз, вельмі рэжа вока і вуха чытача, калі паняцьце няпраўдна выражана на паперы. Беларуская мова абладае многімі сынонімамі і праца над сабіраньнем і тлумачаньнем іх, дае вельмі ўдзячнае поле кождаму беларусуінтэлігенту, які хоча ўлажыць сваю цэгліну ў будынак беларускага адраджэньня. Я падаю тут некалькі аднасловаў, найчасьцей трапляючыхся ў беларускай мове.

Розны і рожны. Першае—выражае адасобленасьць чагось ад чаго, другое—па якасьці адрожніваючаеся ад другога. Я два аднастайныя алуўкі палажыў у розныя мейсцы. Растапырыць руку, знача: разставіць пальцы рукі так, каб яны былі разрозьнены, знача зложаныя не разам, а разстаўленыя кожды паасобку. Снапы зложаны ў рознакідку, ў рознакідзь г. зн. наўпераменкі: аднаго снапа камель, другога каласы. Парозьніць — падзяліць, пасварыць. Яны парозненыя — нясумесны, адзельны. (Зраўняй стар. слав.—„рознь“. сварка). У Насовіча (565) маецца розный у двох значэньнях—рас. „всякій“ і „разный“. Розныя шапкі. Мой пояс розны ад твайго; і розьнь, розьня ў значэньнях—рас. „различіе“, „несогласіе“, „ссора“, „раздѣл“: Вялікая розьнь між намі. Між імі якая-то розьня зашла. У розьні жывуць. Розна — „адзельно“, „различно“ (памылкова), „несогласно“. Брацьця жывуць розна. Суседзі блізкія, а жывуць між сабой розна. Розьніца, розьніць, розьніцца, парозьненьне „разногласіе“, поразна „порознь“.

Рожны—не такі, як іншыя, другі, інакшы рас. „различный“, „разный“ Ляжаць разам дзьве рожныя кнігі. Разрожніць, адрожніць—распазнаць ад падобнага. Рожніца, неаднаякасьць, іншасьць чагось ад падобнага.

Ведаць і знаць. Можна чалавека знаць па яго азнаках фізычных: абліччу, паходцы, мове, але няведаць хто і што ён такое ў сваей душы. Нельга казаць:—Я знаю дзе ён,—а трэба: я ведаю дзе ён, ці ведаеш Тумаша? Трэба: Ці знаеш Тумаша што ён, з кім ён, чаго там. Расійскае слова „знаніе“, тлумачыцца на беларускую мову—веда.

У Насовіча (215) маюцца словы: знацьцё — Калі-б знацьцё, што ў кумы піцьцё; і сам-бы пашоў і дзетачак павёў; у знач. рас. „извѣстія“— Знацця не далі, што яны будуць тут. Знаць—„познать“, „чувствовать“. Знаць, пазнала кошка чыё сала зьела. А такжа ў знач. рас. „відно„. „значыт“: Знаць табе там добра. Знаць табе Настулька замуж хочацца, што твае сьлёзанькі ня коцяцца. Знаць па вясельлю, што не татачка цябе аддаець, не мамачка благаслаўляець.

Ведама—„извѣстно“ (105 Нас.): Німа ведама дзе падзеўся. Бяз ведама майго ня йдзі. Табе ведама, што я яго люблю. Яго хітрасьць усякаму ведама. Праз вядомага чалавека паслаў.

Усякі і ўсяляки (Падобна, як расійск. — „всякій“ і „всяческій“, як польскае—„každy“ і „wszelki“). Усякаму чалавеку усяляк здараецца. Бывае й чарвяку усяляк на вяку. Усякі чалавек, меў усялякага дабра (Рам.). Усяляк нажывешся і Кузьму бацькам назавешся.

Благі і болагі (ононім). Благі, блаж—дрэнны, злы, нягодны, нягоднасьць. Благі ён чалавек, знача нягодны, злы. Благому блага на сьвеце жывецца. І наадварот, слова болагі азначае добры, прыемны (Зраўняй стар. слав. блаженный, блаженство, польск. błogi, błogość). Болага на сэрцы, на душы, на сьвеце (Смаленск. болазе, Меснск. балазе). Балазе сьвятому ў Бога запазухай. Балазе, што ўцек!

Для, ля, дзеля. Прыймя для выражае назначэньне чыну, дзеяньня (каму, чаму): Я прынёс для вас гасьцінца. Зрабіў пакупкі для дому. Ля— скарочанае каля, падобна як замест глядзі! глянь! кажуць у Горадзеншчыне — гля!, як замест трэба, кажуць—трээ, замест надта—наат і. г. п. Ля вакна, ля стала, ля хаты. Дзеля—адпавядае стар. слав. „ради“: Гэта ўсё я рабіў дзеля цябе. Дзеля чаго гэта? Дзеля дзетак ўся праца наша.

Казаць, гаварыць, гаманіць, галакаць, галёкаць гутарыць, размаўляць, гукаць, дудукаць, зюкаць, зяпаць. Казаць, выражае паняцьце высказу не ўзаемнага, а ад першай, другой, ці трэцяй асобы. Я казаў ім каб яны пагаварылі аб гэтым. Яны (ён, яна) прышлі і сказалі мне. Ня буду казаць вам аб тым, што людзі мне пераказывалі. Гаварыць могуць паміж сабой двоя, ці многа людзей, прычым разумеецца, што мова іх мае спакойны характар. Мы пагаварылі і разышліся. Яны седзячы за сталом гаварылі аб усім (але нельга — казалі аб усім). Гаманіць, знача гаварыць голасна, паднятым голасам, сярдзіта, запальчыва, сварыцца. Гаварылі, гаварылі і раптам загаманілі! Пагамані ты, бацька, на свайго хлопца. Гаманлівы быў сход,—крыклівы, сварлівы. Галакаць — гаварыць крыкам, крычаць (польск. hałasować). Чаго ты галакаеш як у карчме ці лесе. Як толькі зьбяруцца, то зара ўсе разам і загалакаюць. Галёкаць—крычаць на ўвесь голас. У лесе галёкаюць склікаючыся. Гутарыць, адпавядае расійскому „бесѣдовать“, гаварыць спакойна. разважна. Гутарка — рас. „бесѣда“. Размаўляць — сярэдняе па значэньню, паміж — гаварыць і гутарыць. Гукака́ць, тое-ж што і дудукаць. Дудукаць — вясьці размову прыніжаным голасам, прыязную, спакойную, безабьектную, а так аб усім, рас. „калякать“. Старыя сойдуцца вечарам, пасядуць на прызбе і дудукуюць сабе. Зюкаць—гаварыць го-ласным сьвістучым шэптам. Што вы

там зюкаеце, зюзюкаеце па кутох! Маўчы, ані зюкні! Зяпаць бязсільна, крычаць, крыкліва і бязсэнсу гаварыць. Не зяпай ты ўжо, ніхто цябе няслухае. Зяпае, аж вушы трашчаць, а слухаць німа чаго. Зяпайла — крыкун, беззьмястоўны прамоўца.

Цяпер, зараз, за́ра. Цяпер, знача ў гэты час. Цяпер я пайду дамоў. Цяпер скажу табе праўду. Скажу цяпер ды не зара. Зараз— скора, хутка. Панскае—пачакай, а жыдоўскае зараз. Зараз прыду, зараз зраблю.

Жуда, журба, нуда, туга, сум, смутак, маркота. Жуда, слова выражаючае духовы стан смутку, зьмяшанага з непакоем і страхам. Жуда гложа сэрца. Слова блізкае па зьместу да расійскага „ужас", але маючае свой асабліvы адценак, не зусім сходны з гэтым расійскім словам, хоць Я. Купала слова жудзь, жудасны ужывае ў значэньні расійскага „ужас", „ужасный". Журба, сходна з рас. „горесть". Ен усё журыцца, усё бядуе. Туга, адпавядае расійскаму „тоска". Гэткая туга цягучая на сэрцы! Тужыць па мужу маладзіца. Сум, смутак, адпавядаюць рас. „скорбь". Смутлівая маці (у рукапісн. „повесьці о муцэ Хрыстовой XV ст.) у знач. „скорбящая". Не смуцемся, зьвесялемся, Спасіцель ніне ляжыць на сене (з Каляднай песьні). Маркота, адпавядае рас. „печаль", Чаго ты такі маркотны, чаго замаркоціўся.

Друг, прыяцель. таварыш. Я нязгодзен з грам. Я. Станкевічам (гл. № 4 „Крывіча"—Кнігапісь), што ў беларускай мове німа слова „друг". Калі мы ў нашай мове маем: дружба, дружыць, дружына, дружка, дружбант, дружбіт і інш, то нельга выкідаць слова — друг, бо дружаць з другам. З кім дружу, той мне друг, знача мой двайнік, другі я. Прыяцель ад слова—прыяць, знача той чалавек — які спрые, жычыць дабра, спагадае. Таварыш выражае паняцьце раўні, роўнасьці, аднамісьніцтва, сулямшчыцтва. Таварыш па нядолі, па службе, па працы. Гусак казлу, а воўк авечцы не таварыш. Конь каню, а сьвіньня калу таварыш (аб яго чухаецца).

Кветка і краска. Жыта, пшаніца — красуе, а яблыня, вішня— цьвіце, квіце, — кажуць у нас цяпер. Аднак, як можна мяркаваць з народнай мовы, словы квет, цьвет, у значэньні Folium,—навейшы набытак беларускай мовы, бо ўсюды на Беларусі народ называе Folium—краскай. Краска васількі, жывакосту, бэзу і г. д. І побач гэтага кажуць: кветка аўса (колас), пасадзі кветку (Flans), прышчапі кветку (пучок) яблані садавой да дзічкі. Я схлонен абстаіваць усюды у нашай мове словы: краска—„цвѣток", красаваць—„цвѣсти", краса—„цвѣт".

Ма́рыць, крозіць, лятуцець, мроіць. Слова—марыць,—у значэньні рас. „мечтать" зайшло да нас, і то вельмі нідаўна, пад ўплывам польскай мовы, у якой маюцца словы: marzyć, marzenie. У беларускай мове пад словам мара разумеецца мітычная істота: „якая у часе сну кладзецца на чалавека і душыць" (Фэдороўскі. Lud Biał. T. I.), якая паказываецца як чорны прывід начамі. Гэта хутчэй будзе „прызрак", „кошмар", але ніякім спосабам ня можа быць „мечта". Дзеля гэтага слова мара ў значэньні рас. „мечта" польскага—„marzenie" раз на заўсёды трэба адкінуць, як нязгоднае з нашай мовай. Крозіць, слова складное з: крозь, скрозь, і зеціць— узірацца; па этымолёгічнаму свайму складу яно сусім адназначна з рас. „грезить", „грёзы". Лятуцець, лятунак, мне здаецца, слова не зусім выражае паняцьце „мечта", яно мае нейкі іншы, няўхватны адценак гэтага паняцьця. Мроя, мроіць, ужываецца—па Сожу ўверх да Мсціслаўля, і на захад да Бярэзіны—у народнай мове. Яно вельмі падобна да украінскага, „мрія", „мріять"; фіксуе паняцьце нечага здалёк сьвецячага, нечага ў памяці

мільгаючага, што чуецца, але з трудом улаўліваецца. Мроіцца мне ў памяці. Ледзь душа ў целі мроіць. Ей усё замужжа мроіцца. Умроіў сабе хлапец музыкантам стацца. На захад ад Бярэзіны кажуць: роіцца, уроіў. Роіцца нейкі нязьведаны край (Алес Гарун).

Кожды і кожны. Гэтае слова мае рожніцу бадай што не ў значэньні, а ў напісаньні. Старая беларуская літэратура і ў многіх мясцох народная беларуская мова, ня знаюць слова кожны (Прыкладам у Фэдороўскага я не сустрачаў). У старой нашай пісьменнасьці знаходзім—кажды і кожды. У слоўніку Насовіча (стр. 240) ёсьць — кожды, кожан з перакладам на расійскае „всякій“. Кождый чалавек перад Богам. Кождаму хочацца есьць. Але побач гэтага знаходзім у Насовіча: кожный і кажынны. Кожан дзень пьяны. Кожная дзеўка за яго пойдзець. Кажыннаму чалавеку хочацца мець добрае. Рэдакція „Крывіч“ прыняла напісаньне—кожды, каб адмежыцца ад жаргоннага расійскага—кажынный (якое як многа іншых расійскіх слоў, трапіла праз старавераў у слоўнік Насовіча). „Кажынный раз на ефтом самом мѣстѣ“. Гэтак сама трэба адкінуць слова кожны (ў знач. кожды), што гэтае слова з націскам на канцы, ўжываецца ў значэньні—шалёны, варьят. (Зраўняй украінск. „скажени“). Кажны сабака. Кажны, кажная—гаворыцца аб варьятах.

Адпаведзь і адказ. Слова адпаведзь ужываецца ў значэньні рас. „отвѣт“ (Нас. 378): Якую даў табе ён адпаведзь. Ты па сьвінску адпавядаеш. Адказ мае значэньне рас. „отвѣтственность“, „отказ“, „завѣщаніе“. Я гэтага не вазьму на свой адказ. Атқажаш перад Богам за маю крыўду. За каго будеш адказываць нерад панам? Атказаўся ад службы. Усё адказаў сваім дзяцям.

---

# Таргоўля Беларусі з немцамі у XIII—XV ст.

(*Паводле працы праф. І. М. Кулішэра „Исторія русской торговли до XIX века включительно“ СПБ. 1923*).

Торговыя зносіны крвічанскіх зямель з немцамі даведзены умовамі захаваўшыміся да нашых часаў; копія старэйшай умовы паходзіць з пачатку XIII ст. (1229 г.). Гэту старэйшую умову „докончал з немци“ Смаленскі князь Аляксандар “как то докончали отцы пашы, деди нашы“, а знача яна зьяўляецца пацьверджаньнем і, мабыць, папаўненьнем умоў ранейшых, заключаных бацькамі і дзядамі абедзьвех старон. Дзеля гэтага можна сьцьвярджаючы сказаць, што першыя пісаныя умовы, паміж беларускімі землямі і нямецкімі торговымі гарадамі былі заключаны не пазьней пачаткаў XII ст. Нажаль гэны першыя умовы не дахаваліся ні ў арыгіналах, ні ў копіях. Мяркуючы з ходу гістарычных падзей трэба дапусьціць што да 1201 году (дата заснаваньня Рыгі) г. зн. да умацаваньнеся немцаў у усьцях Дзьвіны беларускія гарады і землі вялі, бязпасярэдныя зносіны з Готландам, а пазьней з Ганзай,—сувязьзю торговых нямецкіх гарадоў, на чале якой стаяў горад Любэк. Латышскі летапісец (Гэнрык Латыш) апавядае, што вясной 1186 году манах Мэйнгард, прыплыў на купецкім караблю ў Дзьвіну і заручыўшыся пазваленьням ад полацкага князя Валадзімера, пачаў тут, паміж паганскіх плямён Ліваў і др., прапаведываць хрысьціянства. Летапісь даслоўна апавядае аб гэтым так: „Мэйнгард, атрымаўшы дазваленьне ад Полацкага князя Валадзімера, ў каторага Лівонцы (Liv) былі ў падданстве, і прыняўшы ад яго дары, сьмела прыступіў да Божай справы і пабудаваў цэркву ў Ікскола“ (35 вёрст ад усьця Дзьвіны, на правым беразе). У Ікскола-ж была ўжо па-

будавана фактория нямецкіх купцоў*). Гэта 35 вёрстная адлегласьць нямецкай купецкай факторыі ад усьцяў Дзьвіны, пазваляе думаць, што ў самых усьцях Дзьвіны былі іншыя гаспадары, без пазваленьня якіх, немцы ня маглі нават прыступіць да прапаведываньня хрысьціянства, між туземцамі. І, запраўды, чароднай задачай немцаў было заваяваньне гэтага выходнага тарговага пункту, якое наступіла ў 1201 гаду, калі ў усьцях Дзьвіны зьявілася нямецкае войска з біскупам Альбартам Буксгеўданам на чале, які засновывае ў 1201 гаду, ў гэтых усьцах, горад Рыгу і, з дазваленьня Папежа, устанаўляе ў Лівоніі манашаскі рыцарскі ордэн крыжакаў, „дзеля змаганьня з тамтэйшымі паганамі“. Умацаваўшыся ў Рызе і адваяваўшы ад Полацкага княжтва Лівонскія землі, рыжкая купецкая факторыя імкнулася ўзяць на сябе манаполь тарговых зносін з крывічанскімі землямі. Урэшце-рэшт дайшло да таго, што ў 1478 гаду Рыга проста заявіла Дэвэнтару і другім нямецкім прыморскім гарадом, што ніхто няможа таргаваць у Полацку, акром Рыгі і прыслухаючых ей зямель. Вось чаму, ўсе дахаваўшыяся тарговыя умовы крывічанскіх зямель з немцамі заключаны былі выключна з Рыгай.

З крывічанскіх гарадаў у умовах прыймаюць удзел Смаленск, Полацак і Вітабск. Адны з гэтых умоў разпашыраюцца ў роўнай меры на ўсе тры землі ў другіх здарэньнях Смаленск іх заключае асобна ад Вітабска і Полацка. (У часе калі гэты два апошнія гарады увайшлі ў склад фэдэратыўнага В. Кн. Літоўскага).

Найбольш важная умова, 1229**) году, заключаная „с немцами“ Смаленскім князям Аляксандрам, разпашыраецца на Вітабск і Полацак: „тая Правда латинескомоу взяти оу Роускои земли оу волости князя Смоленскаго и оу Полоцьскаго князя волости и оу Витбьскаго князя волости“. У гэтай умове устаноўлены ўсе пункты ўзаемаадносін, якімі павінен рэгуляваццa тавараабмен паміж абедзьвемі старанамі, Немцамі і Крывічамі. Пазьнейшыя умовы, выкліканыя закалотамі паміж абедзьвемі старанамі, нядаюць нічога новага, звычай паўтараецца кожды раз, што шлях павінен быць „чист“, „без рубежа“ і госьці павінны карыстацца апекай „как братья“. Вынятку, з гэтага боку не становіць нават падробная умова 1250-60 г. г., якая хоць і мае многа пастанаўленьняў, але калі не лічыць нязначных адкланеньняў, зьяўляецца толькі копіяй умовы 1229 г., значна, зьмяняюцца варункі толькі у умове 1406 г. і ў дапаўненьні да яе 1498 г., азначаючых новы пэрыод у гісторыі таргоўлі паміж Рыгай і Полацкам.

Гэткім чынам нашае заданьне звужаецца да разгляду умовы 1229 г. з аднатоўкай тых нямногіх адкланеньняў, якія пазьчей мелі месца, і да разгляду умоў 1406 і 1498 г. г.

Ва ўсіх параграфах умовы 1229 г. трактуючых аб караньні розных праступкаў — ўбіўства, пакалечаньне, за раны і біцьцё, чужаложніцтва, гвалт над свабоднай жанчыной ці рабой, самапраўства (параgr. 1—7, 17—20). устаняўляецца грашавая кара. Забараняецца прымушаць госьця да выпрабаваньня спрэчкі, ў выпадку западозраньня, жалезам („вести ко железу горячемоу“) або паядынкам („на поле битися“). У гэтым здарэньні маецца адступленьне ад поглядаў панаваўшых у Русаў Ноўгародзкіх і Кіеўскіх, права якіх („Русская Правда“), устанаўляла пробу жалезам пры западозрэньні ў крадзежы. Паядынкі, быў гэта нямецкі звычай, прыняты іхнім правам.

Пры істнаваньні некалькіх крэдытароў першым павінен быць аплачан

*) Батюшков „Бѣлорусія и Литва“ стр. 53.

**) Умова, ва ўсіх сямі рэдакцыях маецца ў Русско-Ливонских Актах. Першая рэдакція маецца у Владимирскаго-Буданова. Хрестоматія І. (нумэрація стацей па Буданову).

доўг госьця, які даў тавар на павер крывічаніну (пар. 10 — „аже Лати
дасть роусиноу товар свой оу долго оу Смоленск, заплатити немчиноу п
выие, хотя бы иномоу комоу виноват был русиноу)“.

У прыпадку конфіскацыі князям маемасьці даўжніка („поток“), сьпяр
аплачываецца з яго дастаткаў доўг немцу (пар. 11 — „аже разгневаиет
кнезе на своего члвека, а будете виноват немчицю роусин, а отимьет кн
все, женоу и дети оу холопство, первое платити емоу латинину, а пот
князю как любо с своимь члвекомь)“. Гэтак сама у здарэньні сьмерці д
жніка наступнік павінен перш за ўсё вярнуць доўг госьцю (пар. 12 — „а
латинин дасть княжю холопу в заием или иномоу добромоу члвкоу, оумр
не заплатив, а кто иемльть иего остатьк, томоу платити немчиноу“.

Па поваду спаганяньня доўгу, ў умове 1229 г. (як і ў смаленскай ум
1250 г., пар. 6) гаворыцца, што немца няможна замыкаць у турму. К
мясцовы купец не заплаціць „Латинескоу“, то апошні зьвяртаецца да цівун
які даручае „детьскомоу“ спагнаць доўг за тавар. Калі-ж у прадоўжань
дзён ня будзе заплачан доўг, то „дати иемоу на сьбе пороука“. Але па
чыцеля можа ня быць, тады праўдападобна наступае прадугледжаная п
4-м выдача з галавой крэдытару, або заключэньне даўжніка ў аковы.
мьтати его оу погреб, аже не боудите пороуки, то оу желъза оусади
Гэткім чынам закаваньне ў аковы лічыцца больш лёгкай карай чым
даньне ў цямніцу, прычым, мяркуючы з другіх данных, маецца на мэце
мяшчэньне яго у крэдытара, бо даўжнік аддаваўся апошняму. У 1436 г
упамінаецца аб такім здарэньні, калі беларус трымаў немца у сябе пад а
штам за даўгі. Але мясцовыя жыхары могуць сілай ня даць немцу закав
беларуса; ў гэтым здарэньні яны самі адпавядаюць за доўг (пар. 22 —
смольняне не дадоуть иемоу воль, смольняномь платити самым, долг плати

У Смаленску мы знаходзім нямецкую факторыю — гасьцінны дво
ольдэрмамана, а такжа царкву: ў умове 1229 г. упамінаецца аб вагах, я
знаходзяцца у „немецькои божници“, у пар. 41 аб вагах, якія перахов
юцца „оу латинескои цркви“, у пар 29-м гаворыцца аб трэцейскім с
ольдэрмана: „роусиноу не ставити на латинескаго детьскаго, не явивше с
рость латинескомоу; аже не слушаиет старосты, тоть можеть на него детьск
приставити“. У гэтым пастанаўленьні ня толькі выражана істнаваньне а
нізаванай факторыі, але і істотнае права, прызнаванае ей.

Ня менш важнае права ў гэтым кірунку нададзена нямецкай куп
кай ґрамадзе па пар. 16-му: „аже латинескии гость биеиться мьжю со
оу роуской земли любо мьчем, а любо деревомь, князю то не надобе, м
собою соудити“. Гэта паказвае на істнаваньне у немцаў ўласнага суд
здарэньнях закалотаў між імі, што значыць, што немцы тут мелі ўласнае
мапарадкаваньне ўнутры сваей факторыі.

У умове 1229 г. упамінаецца аб пераправцы прывожаных тавараў п
валок, злучаючый Дзьвіну з Днепрам, дзеля чаго смаленскі цівун абавязан
сылаць ім людзей неадкладна („а не оудержати иему“), інача яны мог
мець страты („аже оудержить, оу томься можете оучити пагоуба“), ка
згіне даручаны валачанам тавар, то яны усе разам адпавядаюць за яго (п
23—24). Пры гэтым мы даведываемся, што тым-жа шляхам езьдзілі і
хары Смаленска, якія, відочна, вярталіся з Рыгі; на перавалоках „мь
жеребеи, кого напьред вести ко Смольньскоу“ (пар. 42). Але гэта дат
толькі немцаў і смаленцаў — і тым і другім даецца перавага перад інш
купцамі са славянскіх зямель („аже боудоуть людиие из ыноие земль,
посль вести“). Відаць, тарговы рух на Смаленск быў вялікі — ён жа
жаў на пярокрыжы двох вялікіх тарговых дарог; па Волхаву - Дняпр
Грэцію і па Дзвіне - Волзе на Усход.

Шлях па Дзьвіне абасьпячаецца вольны як біскупам Рыжскім, так і магіам крыжацкім („мастьр Божх дворян“) і ўсім князём прылягаючых да яе ель па ўсяму яе цячэньню, па вадзе і па берагох („от верхоу и до низоу оре, и по воде и по берегоу всемоу“ — пар. 43). Бераговое права не ызнаецца: тавар з затонуўшага судна прыналежыць ўласьніку, які можа выцягаць з вады, а калі яму трэба, то і наймаць да гэтай работы люй („оу кого ся избиеть оучан, а любо челн... товар иего свобонь на воде а березе без пакости всякому; товар иж то потопл, брати оу мьсто своидружиною из воды на берего; аже надобе иемоу больше помоги, тоть моуи при послоусех“).

Неглядзя аднак на ўсе забасьпечаньня свабоднага шляху па Дзьвіне, ога гэта была далёка не басьпечнай, бо, з аднэй Стараны Полацак замліваў купцоў, якія ехалі ў Вітабск і Смаленск, хочучы, каб яны затрымаліся ў яго сьценах і тут прадавалі тавары мясцовым купцом („штапель права“), а з другой стараны, крыжакі перашкаджалі праходу суднаў, рымліваючы карабельшчыкаў у Дюнамюндэ (Усць-Дзьвінску), літвіны раі напады на валоках, дзеля чаго умова вымагае неадкладнай перапраўкі араў у гэтым мейсцы.

Правознага мыта ні немцы па дарозе ў Смаленск, ні смаленцы якія праўляюцца ў нямецкія гарады, не павінны плаціць. Гэтакі агулны прынп. Але ці выпаўняўся ён? Далейшыя пастановы прымушаюць недавераць аму. Агульнае правіла аб свабодзе ад гэтых падаткаў маецца ў разгляай ўмове 1229 г. („всякомоу латинескомоу члвекоу свободен путе из гочо берега до Смольнеска без мыта; тая правда иесть Роуси из Смольнеска Гочкого берега“—пар. 34). Яно паўтараецца і ў умове Смаленска 1250 г. р. 16). Але ў апошнім сказана толькі, што ад Смаленска да Рыгі „чистыи ь“, „а не надобе им ни вощець ни мыто“, и дададзена: „а на Волоце о то есть пошло“. Апошняе, мабыць, азначае, што на Валоцы аплачыцца вядомы збор у звыклай меры, а ня толькі плата за перапраўку тааў. У умове 1229 г. (пар. 35) гэтаму адпавядае павіннасьць гасьцей даць уну на Валоцы рукавіцы („готскіе рукавицы перстатые“—па другой рэцыі), „ажбы товар перевезл без держания“. Акром гэтага, па прыезьдзе орад, купцы павінны даць княгіні кавалак сукна („дати имь княгине пов частины“). Гэткім чынам, істнуе як аплата пры ўезьдзе ў горад, так і аездныя зборы на пераналоках.

Да таргоўлі ў цесным сэнсе гэтага слова адносяцца пастановы аб вагах ажнічных аплатах, пры гэтым галоўным чынам гаворыцца аб важаньні ата і серабра, якія большай часьцю ў тыя часы і важыліся. Пазьней, каля 0 г. была, зрэшта, заключана асобная умова датычна ваг і важнічных ат, дзе ўжо гаворыцца і аб таварах—воску, волаве, медзі, хмелю, аб важу дададзена: „отступи прочь, а рукою не принимай“. Далей знаходзім тановы аб тым, што прададзены тавар няможа быць вернуты назад („не ти товара наоупять“ — пар. 27, у умове 1250 г. пар. 17), хоць пазьней арусы, якія таргавалі ў Рызе, жаліліся на тое, што рыжане не выпаўняь гэтае пастановы. Асабліва важны пастановы аб свабоднай куплі і пражы тавараў (пар. 25 і 30) і аб праве немцаў езьдзіць па за межы Смаска, а беларусаў за межы Рыгі (пар. 26) і аб абавязковасьці для немцаў зіцца ў Смаленску, а для беларусоў у Рызе і на Готляндзе (пар. 28).

Апошнія два параграфы маюць на мэце таргоўлю немцаў і па-за мемі Смаленска; першая пазваляе яе, другая проектуе, але устанаўляе, што ларус няможа „звати латинеского на иного князя суд“, акром смаленскага, а што немец сам на гэта прыстане. Зрэшта, магчыма, што тут мова толькі

аб мяйсцовасьцях, распаложаных ў межах смаленскай зямлі. Наадварот, пар. 26 гаворыць аб паездках за граніцы смаленскай зямлі; „аже латинский усхочеть иехати из Смольнеска своимь товаромь в ину стороноу, прото иего князю не держати ни иномоу ни комоу же“. Тут абасьпячаецца немцам свабодны праезд у другія княжствы: наадварот пар 20, умовы 1250 г. значна іх абмежвае, робячы паездкі залежнымі ад пазваленьня смаленскага князя: „а како боудеть немечьскый гость Смоленьске, а почнеться кто от них просити выноую землю, то... о нем ся прошати а мне сподоуме (па намысьле) пущати“.

Адначасна пар. 26, умовы 1229 г. пазваляе і беларусам „иехати из Гочкого берега до Травны“, г. зн. да Любэкі. У рыжскай даўгавой кнізе 1327 г. запраўды сустрачаем здарэньне прадажы воску, з аплатай за яго ў Любэцы (Hildenbrand. Das Rigische Schuldbuch 1827. № 1511). Не глядзя на гэта можна недавераць значнасьці актыўнай замежнай таргоўлі купцоў Смаленскіх, як Полацкіх і Вітабскіх, на якіх—як мы паказвалі вышэй—такжа распашыраецца умова 1229 г. Хоць уся названая умова пабудавана на аснове ўзаемнасьці і ў каждым параграфе, пасьля права дадзенага „латинескоу“ ў Беларусі, ідзе права ў карысьць беларуса („роусина“) у „Рызе и Гочском березе“, аднача з шэрагу разгледжаных намі параграфаў умовы, можна мяркаваць, што папраўдзе маюцца на ўвазе больш немцы на Беларусі, чым беларусы ў Рызе і Готляндзе.

Гэтак, прыкладам, кары за забойства, пакалечаньне, раны, згвалчаньне, чужаложніцтва, устаноўлены у грыўнях серабра г. зн. ў беларускай валюце, чужаземная-ж саўсім не паказана. Але яшчэ ісготней той варунак, што сустрачаюцца такія пастановы, якія могуць быць практыкаваны толькі на Беларусі, але не ў лівонскіх гарадох ці на Готляндзе, як кара за забойства халопа ці за згвалчаньне рабыні, бо ў другіх старонах іх, ў гэты часы, ўжо блізка не было, або як папярэдная аплата чужаземнага крэдытара, ў здарэньні конфіскацыі маемасьці даўжніка князям і аберненьне яго ў халопы— і гэткія зьявішчы мелі месца толькі на ўсходзе, але хіба не на захадзе. Гэтак сама і параграфы гаворачыя аб перавозцы тавараў праз Валокі і аб адказнасьці валачанаў (хоць з прычыны гэтай адказнасьці, дзеля поўнай ўзаемнасьці гаворыцца і аб беларусах у Рызе і на Готляндзе), як і аб падатках, браных цівуном, нямогуць мець датычнасьці да таргоўлі беларусаў— пры пераезьдзе ў Рыгу і на Готлянд ніякага Волока німа, пазамежамі Беларусі. Параграф аб аплаце збору ў карысьць княгіні і другія дзьве аб пераважаньне ваг, наагул датычацца толькі Смаленска і нават адпаведнага дадатку аб Рызе і Готляндзе тут ужо няма. Няма гэтай ўзаемнасьці і датычна аплат за важаньне тавараў—мова ідзе толькі аб Смаленску; а с прычыны спозыску доўгу падробна гаворыцца аб цівуне, аб дзецкім, аб павіннасьці смаленцаў плаціць, калі яны не дадуць немцам разправіцца з беларускім даўжнікам. Толькі ў заключэньні, пасьля падробнага апісаньня ўсяго гэтага працэсу, дададзен невялікі, сказ: „тая правда оузяти роусиноу оу Ризе и на Гочком березе“, але не гаворыцца да каго і ў якім парадку, беларускі крэдытар павінен там зьвяртацца.

З гэтага можна вывесьці дапушчэньне, што на першым пляне была таргоўля немцаў у беларускіх землях; тады як торговая дзейнасьць беларусаў у лівонскіх гарадох і на Готляндзе мела менш значэньня. Па пытаньню аб паездках беларускіх купцоў па-за межы Рыгі нам ведама, што Рыга пазьней, прынамні пад канец XIV ст., рабіла гэтаму ўсякія перешкоды. Яна не хацела прапускаць ні беларусаў у Балтыцкае мора, ні прыезджых немцаў з вэндзкіх або вэстфальскіх гарадоў, ўверх па Дзьвіне ў беларускія землі.

Наагул, калі ў умовах Смаленска з немцамі 1229 і 1250 гг. спамінаецца, побач з Рыгай, аб Гоцкім беразе, то ў XIV сталецьці німа ўжо мовы ні аб Любэцы, ні аб Готляндзе—беларускія купцы езьдзяць толькі ў Рыгу (Götz, p. 340).

Што датыча другога спамянутага вышэй пытаньня аб свабоднай таргоўлі чужаземцаў, то хоць гэтаму пытаньню адведзены два параграфы (адзін аб свабодзе прадажы тавараў, другі аб свабодзе закупкі), але яснасьці датычна шырокасьці нададзеных правоў не атрымліваецца. „Аже латинескии придеть к городоу, свободно иему продавати, а противоу того не молвити никомоуже“ (пар. 25), „латинескому есть волно оу Смольнеске который товар хочьть купити, без пакости“ (пар. 30). Падобныя-ж агульныя сказы „волное торгованье“, „волно ехати“ мы знаходзім ня раз і пазьней.

Асабліва спрэчным зьяўляецца пытаньне аб тым, ці пазвалялася таргаваць госьцю з госьцям. На аснове пратэстаў Рыгі вітабскаму князю Міхайлу Кастантынавічу, у канцы XIII ст., можна мяркаваць, што гэта таргоўля пазволена. У гэтай заяве Рыгі маецца пратэст і супроць неправільнасьцяў што да пабіраньня важнічных аплат, устаноўленых умовай 1229 г. ( аже ты княже, лишнее емлеш“), і супроць гвалтаў над нямецкімі купцамі, ў каторых „товар отнял сілою і неправдою“, каторых „вязали і мучили“ и супроць таго, што князь, як і яго брат, купілі ў немцаў тавары, але не заплацілі за іх. Разам з гэтым рыжане протэстуюць супроць таго, што князь, паводле рады людзей, каторых трэба было-бы пакараць, а ня слухаць, пазбавіў іх магчымасьці таргаваць з другімі гасьцямі, і калі адзін рыжанін, па наймю Фрэдрык, хацеў прадаць соль другому госьцю, то яго закавалі, а яго тавар князь загадаў разграбіць. „Еси неправду деял—заяўляюць рыжане—как то ныне новую правду ставишь, как то есме не чювали от отчов ни от дедов ни от прадедов наших. Аже ты велишь кликати скрозе торг; гость со гостемь не торгуи. Княжо, у том еси неправду деял. Княжо, ажо еси тако у своем сердчи, тоть то еси неправою думою думал. Будуть тобе, княжо, лишие людье тую думу пододали,тоть не у честь тобе дали тую думу; то есть тобе, княжо, достойно, аже бы тыи люди казнил, как то быш инни людие боялися, кто лихую думу пододаваеть“. Пасьля апавядаецца ўся гісторыя з Фрэдрыкам, каторы „шол с темь человеком соли весить“ и якога княжы дзецкі Плос павёў, бытцам, да князя, а папраўдзе „порты с него снем за шию оковал и рукы и ногы и мучил его так, как то буди Богу жяль“. Князь-жа „детьские свое послав наего подворие и велел товар его розграбити“. „И нине мы ся тебе молим—канчаюць пісьмо рыжане — абы ты тыи товар отдал княжо. И сам ведаеш ажо неправдою еси свое крестное челование забыл“ (Русско-Ливонск. акты № XLIX).

Пад канец XIV ст. і палачане, ў свой чарод, жаляцца на тое, што ў Рызе пазбаўляюць іх магчымасьці таргаваць з „заморскими“ немцами. Рыга гэтаму пярэчыць: „і гэты немцы прыймалі удзел пры заключаньні умовы і карыстаюцца нададземымі ў іх свабодамі“. Гэты закалот знаходзіўся ў зьвязку з паездкамі купцоў у другія мясцовасьці - Рыжане вымагалі даць ім магчымасьць ехаць з Полацка далей у Вітабск і Смаленск. Полацак гатоў быў пазволіць гэта пад варункам, што Рыга ў свой чарод дасьць ім магчымасьць езьдзіць, на што Рыга не згаджалася (Р. Л. акты № CXXVII).

Відаць Полацак і Рыга стараліся ўтварыць сабе штапельнае права, пры каторым усе прывожаныя да іх тавары павінны былі прадавацца ў сьценах гораду, а не вывазіцца далей, і прыгэтым павінны былі збывацца мясцовым купцам, але не чужаземным, ці з другога гораду. Забарона таргаваць з другімі гасьцямі была такжа выражэньнем таго-ж штапельнага права.

Дзеля гэтага ў мірнай умове, заключанай ўсьлед за гэтым паміж князям Вітаўтам і Рыгай у 1399 г. у Полацку (Р.—Л. акты № CXXII), гэтае пытаньне аб штапельным праве было пакінута адкрытым, бо, відаць, староны не маглі прыйсьці да згоды. Яно было паднята ізноў, пры умове паміж Рыгай і Полацкам у 1406 году. Перад гэтай умовай было нарушэньне ў 1403 г. міра Вітаўтам, каторы, як ён гэта зрабіў і за некалькі гадоў да таго, патрэбаваў ад рыжскіх купцоў, каб яны пакінулі Полацак у прадоўжаньні чатырох тыдняў, у адваротным здарэньні яны будуць сілай выгнаны з гораду, або закаваны ў аковы. Але і выехаць ён ня даў свабодна, а затрымаў іх датуль, пакуль магістр лівонскіх крыжакаў не пакрыў палачанам страт нарobленых у 1403 гаду.

З перэгавораў, якія вяліся пры заключаньні умовы 1406 году, з прапановаў робленых абедзьвемі старонамі, мы можам бачыць, як істотна разыходзіліся іх пажаданьні і погляды. Умова, ўтвораная на аснове пастановы Вітаўта, зьяўляецца толькі часовым кампрамісам, пасьля якога ішоў шэраг угод; аканчальна спорныя пытаньні былі выясьнены толькі граматай князя Аляксандра 1498 г., якой нададзена было Полацку штапельнае права і азначаны варункі таргоўлі рыжанаў і другіх гасьцей у Полацку.

У прывілеі князя Аляксандра, рыжанам і іншым госьцям, забаронена, пад пагрозай канфіскаціі тавараў, езьдзіць у Вітабск ці Смаленск; яны могуць бываць там толькі дзеля спозыску даўгоў, але не дзеля таргоўлі. Гэты паездкі вызываліся тым, што купцы з Вітабска і Смаленска, як і перш, езьдзілі ў Рыгу. Па-за межы Рыгі ні яны, ні палачане, ведама, ня езьдзілі. У кождым здарэньні Полацак стаўся аканечным пунктам нямецкага торгу і асяродкам тавараабмену ў Беларусі.

Але Полацак гэтым не абмежваецца — торг госьця з госьцям наагул павінен быць спынены і ня толькі па-за межамі горада Полацка, у другіх мясцовасьцях, куды-бы немцы маглі езьдзіць, але і ў сьценах самога Полацка. І тут тавары павінны былі ісьці праз рукі мясцовых жыхароў, бо інакш мог-бы атрымацца абход пастановы, згодна якой нельга ехаць міма Полацка, абмінаючы яго жыхароў. Госьці прыезджалі-бы сюды, фармальна выпаўняючы гэтае вымаганьне, але на практыцы нарушаючы яго. Яны таргавалі-бы паміж сабой у самым горадзе, так, што ў выніку абыходзілі-бы гарадзкіх купцоў.

Як мы бачылі і Вітабск і Рыга ўжо рана пачалі забараняць торг госьця з госьцям, што кожды раз выклікала абураньне праціўнай стараны. За іх прыкладам пашоў Полацак. У сваіх прапановах 1405 году Полацак заяўляе: „а торъговати немецкому купцю с гостем Литовьское земли добровольно, а с новгородци немецькому купцю торговати, а промежи има ходити нашему полочанину: за неже нас новьгородци не пустят у немечькии двор торговати без своего новгородца; а с Москвичи торговати вашим немьцем; также нашему полочанину межи има ходити, торговати: занеже на нас москвичи тамьгу емлют“. З літвінамі немцы, знача, могуць таргаваць безпасярэдна, з ноўгародцамі-ж і маскалямі, толькі пры пасярэдніцтве палачанаў. Апошнія, паводле тлумачаньня Нікітскага, былі маклерамі, без якіх ніводная купляпрадажа госьця з госьцям не магла быць зробленай—„между има“—паводле фігуральнага выражэньня помніка—„хадзіў палачанін“.

Урэшце з абедзьвех старон выяўлялася жаданьне абмежыць дзейнасьць прыезджых купцоў агульніцкімі закупамі, не дапушчаючы розьнічнай—звычайнае ў тыя часы абмежаньне гасьцей,—і ў прапанове выходзячай ад Полацка, гаворыцца: „а малое вам торговли не купити у Полотсце порозничи; а корьчмы вам у нас у Полотсце не держати“. І, ў асобнасьці, с прычыны

двох важнейшых аб'ектаў беларуска - нямецкага торгу, воску і кажухоў, дададзена: „кутити вам немцам у нас у Полотсце немецькому купцю пол берковска воску, пол тысячы белкы“. Супроць гэтага, „ратьмане Ризкии“ суляць пазволіць немцам „у Полочьку торговати и с гостемь и с полочаны все сполу, то будь мало или велико во ввякои торговли какы ли ни был товар“. У свой чарод і яны даюць такое-ж абяцаньне: „тако же мы хочем полочаном у Ризе чинити“.

Але гэтага яны не дабіліся. Прынцып ўзаемнасьці вытрыманы. Пастановай Вітаўта таргаваньне ў раздроб не пазволена госьцям ні ў Рызе, ні ў Полацку, ў дадатку аб гэты пытаньні павінны быць выданы асобныя пастановы. Прывілей 1468 г., гэты птынцып аканчальна замацаваў: у Полацку устанаўляюцца тры двохтыднёвыя кірмашы, у прадоўжаньні якіх госьцям толькі і пазволена прадажа ў раздробніцу. Гэта звыклае выключэньне, робленае ў сярэднія вякі. Кірмашовая таргоўля знаходзілася на асобных варунках. Дзеля ажыўленьня кірмашу, каб прыцягнуць больш купцоў, што давала значны зыск князю ў форме тарговых пабораў, не рабіліся звыклыя абмежаньні: госьці карысталіся правам прытулку, ніякія рэпрэсаліі не дапушчаліся, спозыскі даўгоў зробленых да кірмашу не маглі мець месца, таргаваць пазвалялася усім і кождаму, якімі—хоць таварамі і ў якім хоць ліку.

Але па-за кірмашамі прывілей 1498 г. пазваляе Рыжанам таргаваць у Полацку толькі агулам, пад пагрозай канфіскацыі тавараў. Прадаваць можна: сукно толькі цэлымі штукамі, соль мяшкамі, мушкатовы квет і мушкатовыя арэхі, галгант, цытворны карэнь, гвоздзікі, шафран і іншыя цэныя пернасьці — фунтамі, сякеры, нажы і г. п. тузінамі, фігі і разынкі — карзінамі, віно, піва і іншыя прывозныя напіткі — бочкамі, жалеза, волава, медзь, цыну, і мосяж — цэнтнарамі. Гэтак сама закупляць тавары пазволена толькі агулам: воск па 20 фунтаў, кажухі саболіі, кунічы, янотавые — па 40 штук, белкі, гарнастаі, хоркі, норкі — па 250 штук, паташ і дзёгаць — цэлымі тоннамі

Урэшце ў судовых справах, угода 1406 г. робіць круты паварот ў тым сэнсе, што суд адбываеецца ня ў тым месцы, дзе зроблены праступак, ці усчаты суд, а на бацькаўшчыне праступніка ці даўжніка. У умове 1229 г. мы чытаем яшчэ: „ити истьцю к истцю и взяти емо та правда, которая то в том городе“, і гэтак сама ў мірнай умове з 90-х гадоў XIII ст. гаворыцца: „а где будеть кто кому виноват, в томь городе правити, где тот человек живет; инде суда ему не искати, в которои волости человек извинится (правініцца), ту ему правда дати“.

Наадварот у грамаце, датыкаючай ваг з 1330 году, высказаны ўжо іншы прынцып: „аже привезеть нечистый товар, а не люб будеть, поехати ему назад со своимь товаромь, а свой князь тамо казнить его“. Гэта частковая пастанова тасаваная тут толькі ў здарэньні фальшаваньня тавараў, у 1406 гаду, атрымлівае агульны характар. „Ратмане Ризькии“ просяць „полочаном стеречи немечских купцев, как своя братя... без всякоя хитрости“ і заяўляюць, што з свайго боку „тако же мы хочем полочаном у Ризе чинити“. А да гэтага яны дадаюць: „аще которы немчин извиниться у Полочьсце, того немьчина отослати у Ригу, ратмане его судять по своей правде“ і гэта-ж самае трэба зрабіць з палачанінам. Гэта паўтараецца і ў прапанове Полацка. „А извиниться нашь полочанин у Ризе, ино его немьцем у Ризе не казнити, отпустити, его у верх, ино его там свои полочане казнят“. Гэта-ж самае тасуецца да рыжанаў. Урэшце, гэты пункт погляду падзяляе магістр лівонскіх крыжакаў. Німа дзіва што пры гэткіх варунках, гэта, падтрыманая ўсімі, аснова увайшла ў пастанову Вітаўта 1406 г. „А полочяном

блюсти рижянина у Полоцьку как себе, а рижаном блюсти полочянина у Ризе, себе обороняти. Аже полочанин што проступить у Ризе, ино им того до Полоцька послати, ино его там полочане осудять по своему праву.

Калі ў прыведзеных вышэй пастановах, што да варункаў торгу, Полацак атрымаў перамогу, дабіўшыся штапельнага права і гэтым крэпка абмежыў правы гасьцей, то тут, уцелаішчан (ў своеаблічнай форме) прынцып, свомны германскаму сярэднявекаваму праву, згодна якому, кожды павінен судзіцца і загранiцай паводле асноў таго права, якое істнуе ў яго на бацькаўшчыне, ён як бытцам носіць гэтае права з сабой. Зрэшта, трэба дадаць, што гэты прыцып яшчэ ў большай ступені азнака романскага права".

Апрацаваў па беларуску *С. Т.*

---

ЮРЫ ВЕРАШЧАКА.

# Расійскія вучоныя аб Крывічах.

(Выпіскі).

„Трэйцяе племя лёгшая ў аснову беларускай народнасьці (сьпярша праф. Карскі вылічае Дрыгвічоў і Радзімічоў), былі Крывічы. Паводле летапісі яны аселі па вярхоўях Зах. Дзьвіны, Дняпра і Волгі. Але гэткая абазначаньне іх разсяленьня вельмі неакрэсьлянае. Больш пэўна устанаўляюцца іх граніцы, калі ўзяць пад увагу тыя гарады і наагул населеныя мейсцы, якія увайшлі ў склад Полацкага і Смаленскага княжстваў, заснаваных полацкімі і смаленскімі Крывічамі. Але і гэткае азначаньне племяннoй граніцы такжа грашыць неакуратнасьцямі, бо ў склад Полацкага князтва ўхадзілі, бязсумнеўна, некаторыя літоўскія і латышскія пасяленьні, а ў межах Смаленскага княжства трэба дагадывацца і фінскія... Племянныя рубяжы раней любілі азначаць даннымі топографічнай номэнклятуры, але гэткі спосаб можа прывясьці часам да фальшывых вывадаў. Мясцовасьці з каранём к р ы в—наўгадна будуць паказываць на Крывічоў. Ведама больш значэньня маюць гэткія назовы як сяліба Крывічы, але і гэты назовы маглі паўстаць як-колечы прыпадкова, прыкл., як азнака унутраннай якасьці жыхароў, ці галоўнай азнакі даннай мясцовасьці. Астаюцца данныя археолёгіі, паказаньні рэчаў знаходжаных у зямлі і ў магілах".

Адзначыўшы, што праз Крывічанскую тэрыторыю, ў дагістарычныя часы, пераходзілі літоўскія і фінскія плямёны, а такжа ішоў вялікі торговы шлях з захаду на ўсход, праф. Карскі далей кажа:

„Паводле сьведчаньня летапісца (Лет. па Лаўр. сп.) Крывічы палілі сваіх нябошчыкаў, а прысок ссыпалі ў урны. Гэткім характарам адрожніваюцца і курганы ў сялібах Крывічоў: у іх знаходзяцца сьляды вогнішчаў і урны з перапаленымі касьцямі. Апрыч таго, курганы часта абводзяцца канаўкамі і абкладаюцца каменьнямі; камяні часам бываюць і ў сярэдзіне курганаў. (Падробнасьці у Голубовскаго „Обозрѣніе нѣкоторих губерній и областей Россіи въ археолог. отношеніи, 20—32 (вып. II.) 1—10 (у вып. III.). Пры гэтым больш даўныя курганы, агульныя Полачанам, Смаленцам, і Пскоўцам, маюць яшчэ адну агульную азнаку: яны маюць выгляд валаў да дзесяці сажняў у доўжкі (Спицынъ „Обозр. нѣк. губ. и обл. Россіи в археол. отн.). Мяркуючы з гэтай азнакі мы можам дагадывацца, дзе спярша аселі Крывічы. Гэткія курганы ведамы каля Пскова і Апочкі, каля Себяжа, Сенны і ў Барысаўскім павеце, ў Смаленскім, Парэцкім і Духаўшчынскім, а такжа ў Бельскім, урэшце Асташкаўскім пав. (в. Ізведава).

Іншыя крывіцкія курганы маюць звычайную поўклубавую форму. Яны сустракаюцца ў паветах Лапэльскім, Сенінскім, Себежскім, каля Браслава ў Новаалександраўскім павеце і часьцю ў суседніх мясцох Віленскай губ. Далей курганы са спаляньнем сустракаюцца ў рожных мясцох Смаленскай губ. у Смал. Духаўшч. Парэц. і Бельск. пав.), гэтай-жа адмены курганы трапляюцца у Бранскім пав. Арлоўск. губ., на верхняй Дзясьне. Крывіцкія курганы XI ст., больш познага тыпу, захопліваюць яшчэ большы абшар: яны даходзяць да Ржэва і Зубцова на Волзе, да вярхоўяў Масквы-ракі. Угры і Жыздры, праз Бранскі павет ідуць да вярхоўяў Дзясны і Сожу: далей граніца іх ідзе на Оршу, Барысаў, Лагойск; на заходзе і поўначы курганы гэтага тыпу сустракаюцца у Рэжыцкім, Себежскім і Невельскім павеце (Зраўняй: Даніловіч „Очерк Исторіи Полоцкой земли до конца XIV в Кіеў 1896 г.). Калі ўсё сказанае перанясем на карту, то акжацца, што ўся паўночная і паўночна-усходняя Беларусь была заселена Крывічамі, і цікаўна, што старасьвецкія межы гэтага племя, ў агульным, акром часцю поўначы, зыходзяцца з цяперашняй этнографічнай мяжой беларусаў.

Не пярэчаць азначаным межам і данныя номэнклятурныя. Мяркуючы па іх, асабліва сьцежучы сялібы „Крывічы“, мы бачым, што калоніи Крывічоў далёка пашыраліся на поўдзень: гэтак вядомы сялібы „Крывічы“ у Лідзкім*) павеце, Новагрудзкім, Слонімскім і Рэчыцкім“.

Далей праф. Карскі кажа што калі Ноўгародзкія слявяне былі Крывічы, як гэта уцьвярдждае акадэмік Шахматов (факты сабраны ў яго працы „Къ вопросу об образованій Руск. Народа), то яны раней другіх усходна-славянскіх плямён, якія жылі паміж Прыпяцьцю і Карпатамі, па Дняпру і Бярэзіне рушылі на поўнач да возера Ільменя.

„За імі пайшлі Крывічы Полацкія і Смаленскія. Можна мяркаваць, што яны жылі пры сутоках р. Прыпяці ў Дняпро. Гэтым можна вытлумачыць і той мяшаны тып курганаў, які адзначыў Завітневіч (Вторая археолог. экскурсія въ Припетск. Полѣсье), і сустракаючанае тут мяйсцовае найменьне ў Рэчыцкім павеце „Крывічы“... „Далейшы колёнізацыйны рух Крывічоў быў гэткі: з Дняпра яны ішлі па парэччы Бярэзіны, а далей на Дзьвіну — да Палоты — Палачане; адгэтуль да вярхоўяў Дзьвіны, на верхні Днепр—Смаленск—і ў парэчча Волгі (Голубоўскі, 46—49). Па Бярэзіне, Веліі і Дзьвіне Крывічам прышлося сaткнуцца з Літвінамі і Латышамі, якія іх названьне — Kreeves, пашырылі на усіх расійцаў“...

Рух Крывічоў да вярхоўяў Дзьвіны, Дняпра і Волгі адбыўся вельмі рана. Не кажучы ўжо аб Ноўгарадзкіх Славянах, якія жывуць на сваіх мясцох здавён-даўна... „Полацкія і Смаленскія Крывічы ужо ў IX сталецьці маюць гэткія выдатныя гарады як Полацак, Смаленск; з іх асабліва важны ў палітычным значэньні першы, другі вядомы ў першых часах толькі як targовы горад. Разсяленьне Крывічоў на Дзьвіне знача адбылося за доўга да IX ст... Аддзяліўшымся ад іх смаленскім Крывічам прышлося сaткнуцца з племем Радзімічоў і часьцю Вяцічоў“.

„Ня буду затрымлівацца на палітычным жыцьці Крывічоў, бо яно падробна пазгледжана ў працах пасьвячоных гэтаму пытаньню — Доўнара-Запольскага, Голубоўскага і Данілевіча; прыпомню толькі некаторыя факты. Полацкія Крывічы рана былі адарваны ад агульна-рускага жыцьця і не увайшлі ў сыстэму княжых удзелаў. (Не адарваны, а фактычна — ніколі не былі падбіты русамі і далучаны да ліку зямель над якімі яны панавалі.

*) Пасяленьні Крывічоў у Лідзкім павеце пацьвярджаюць і данныя археолёгіі гл. Wandalin Szukiewicz „Poszukiwania archeologiczne w pow. Lidzkim gub. Wil. Krakow 1914“.

Прыпісак Рэд.). Пасьля сьмерці Рагвалода Полацкае княжста дасталося Ізяславу, сыну Рагнеды, як спадчына па матцы. Рускія князі не пераставалі выяўляць сваіх прэтэнсый на гэты землі, і полацкім князём прыходзілася многа ваяваць з імі. Войны гэты адзначаліся вялікімі кровапраліцьцямі, апяяныя нават пяўцом Слова аб паходзе Ігара: „На Нямізе снапы сьцелюць галовамі, малоцяць цапамі сталёвымі, на таку жывот кладуць, веюць душу з цела. Нямігі крывавыя берагі ня збожжам былі засеяны, засеяны касьцямі рускіх сынoў“ (Зраўняй са сказам беларускай народнай песьні: „Тучаю арана, сьлязмі засявана“)“.

Смаленскія Крывічы аддзяліўшыся ад полацкіх, хутка выяўляюць імкненьне адасобніцца ад сваей мэтраполіі; але доўга яны не маглі злажыць сільнага палітычнага цэлага“.

Іх у 882 гаду заваёвывае Алег і вызваліцца яны з пад ўлады русаў здужалі толькі пры Росьціславе (1128 г.). (Проф. Е. О. Карскій, „Бѣлоруссы“ Вілня 1904. кн. І.).

„Навала Готаў прымусіла славянаў з поўдня пасунуцца на поўнач. „Гэта колёнізація становіцца асабліва значнай у VII—IX ст. З сярэдняга Дняпра славяне падняліся на поўнач, да верхняга Падняпроўя, адтуль да Зах. Дзьвіны. З сярэдняй Дзьвіны, праз раку Вялікую славянскія каланісты дайшлі да Чудзкага возяра, а з Верхняга Дняпра, дайшоўшы да вярхоўяў ракі Ловаці, ўніз па апошняй спусьціліся да возяры Ільменя. Гэта тэрыторыя была занята Крывічамі“... „ У XI стагодзьдзі ільменскія Крывічы каланізавалі Верхнюю Волгу і парэчча Окі. (Праф. В. И. Пічета „Історія Бѣлорусского Народа“ („Курс Бѣлоруссовѣденія“, Москва 1918—1920 г.).

„На верхнім Нёмане і Сярэдняй Дзьвіне здаўна суседзіла і знасілася з Русьсю, племя Крывічоўі Літва (з Латышамі—Детголай і Зімголай); па Крывічах Латышы дагэтуль называюць Расійцаў Крэвамі, а ў літоўскім іх найменьні—Гуды, здаецца, такжа скрываецца пераклад найменьня Крывічоў (гл. Archiv für slav. Philologie VII. 594). Крыўская зямля пасьля падзялілася на дзьве палавіны, усходнюю-Смаленск і заходнюю—Полотьск (Полацак)“. Іосиф Первольф Славяне, их взаимныя отношенія и связи“. Варш. 1893 г. Т. III. ч. II, стр. 149—150).

„У даўнасьці беларусы, засяляючыя цяпер большую часьць Паўночна-Заходняга краю Расіі, называліся Крывічамі.

Славяна-рускае племя Крывічоў было вельмі многачысьленным і разкінута на аграмадным абшары. Палуднёвае узьбярэжжа зямлі крывічоў ішло па водаразьдзелах паміж Прыпяцьцю, Нёманам і Бярэзінай на правай старане Дняпра, і валокам паміж Дняпром і Сожам, і верхнімі цячэньнямі паўночных прытокаў Дзясны—на левай старане Дняпра. На ўсход зямля крывічоў пашыралася да Радзімічоў, якія жылі па рацэ Сожу, і Севяран, якія жылі па Дзясьне і Семі (Сейму) і Суле; на паўночна-ўсход трацілася ў лясістым і многаводным верхнім Паволжы; на поўнач даходзіла да разсяленьняў Ноўгародзкіх славянаў. На паўночна захад Крыўскія пасяленьні ішлі па цячэньню Зах. Дзьвіны да прытнага закруту яе на поўнач ад Дзінабурга (па старому-Неўгіна), а адтул на поўдзень ўдоўж літоўскіх пасяленьняў, перамешваючыся з імі ў аколіцах Веліі і Нёмана да самага водаразьдзелу гэтай апошняй ракі з поласьцю Прыпяці. Разкіданае на абшырным прасторы племя крывічоў рана разпалася на асобныя землі, галоўнымі цэнтрамі якіх былі Ізборск, Полацак і Смаленск“. (П. Н. Батюшковъ „Бѣлоруссія и Литва. Историческія судьбы Сѣверо-Западного края“. С высочайшаго соизволенія издано при Министерствѣ Внутреннихъ Дѣлъ. СПБ. 1890 г.).

„Заходна-руская або беларуская народнасьць — ў цяперашні час найбольш слабая і лікам і культурай,—ёсьць разам з тым самая каранная, самая даўная з трох рускіх народнасьцяў. Асеўшы калісь то ў аколіцах Зах. Дзьвіны з яе прытокамі, ў вярхоўях Дняпра і прытоках Волгі, беларуская народнасьць блізка не мяняла мейсца сваей аселасьці. У склад яе увайшлі, галоўным чынам, летапісныя Крывічы, але такжа Радзімічы і Дрыгавічы. На вытварэньне яе асобнасьцяў выказала вялікі ўплыў літоўская народнасьць, з якой яна найбліжэй стыкалася“. (А. Я. Ефименко „Русская Исторія“ СПБ. 1909 г.).

„У першапачатковай летапісі, пры вылічаньні якія плямёны ўходзяць у склад Русі, прапушчаны Крывічы, Вяцічы, Радзімічы: — Але чаму-ж прапушчаны гэты тры племі? Адповедзь адзіна лёгічная і выплываючая з праўдпага тлумачаньня летапісі атрымліваецца гэткая: — таму, што яны ў склад Русі ня ўходзілі, Русамі сябе не называлі і за Русь нікім не лічыліся. Наймяньне Русь гэткім чынам, як можна вывесьці з гэтага мейсца летапісі, за жыцьця лётапісца, злучала плямёны выключна славянскага паходжаньня, але пры гэтым ня ўсіх, а толькі некаторых“. (М. М. Тебеньков „Происхожденіе Руси“. Тифлис 1894 г.).

„Продкі цяперашніх беларусаў — К р ы в і ч ы былі даўныя валадары цяперашніх губэрняў Магілеўскай, Вітабскай, Менскай, часьцю Горадзенскай і Віленскай“. (Васілій Ратчь. „Сѣверо-Западная Россія до паденія Рѣчи посполитой.“ Вільня 1867 г.).

„... У самых пачатках нашай гісторыі знаходзім у цяперашняй Беларусі: Палачанаў, якія жылі па рацэ Палоце; далей ад іх Крывічы, якія жылі на вярхоўях Волгі, Дняпра і Дзьвіны і займалі самы абшырны край і ад Чудзкага возяра да выплываў Волгі, Дняпра і Дзьвіны; ад усьцяў ракі Случы і да граніц ласьцівай Літвы і Лівоніі—край ўлучаючый ў сябе паводле цяперашняга падзелу на губэрні—Пскоўскую, Смаленскую, Вітабскую і часьці Магілеўскай, Менскай і Віленскай“. (Ѳ. Турчыновіч „Обозрѣніе исторій Бѣлоруссіи“. СПБ. 1857).

„Вельмі многія беларускія песьні выяўляюць глыбокую старасьвеччыну, з веку ў век адзіна вуснай перадачай перайшоўшыя да цяперашняга простага народу, і гэты старасьвецкія песьні носяць тып Славянскага, а асабліва Крывіцкага племя.

„Ня лішнім лічу дадаць тут, што Крывічы, роўна як і самыя старасьвецкія песьні прыналежаць усім наагул плямёнам, насяляўшым, і цяпер каранным патомкам іх, насяляючым ўвесь абшар Беларускага краю, акром Літвіноў. Гэты ўсе плямёны цэнтралізуюцца пад адным імям Крывічы, па польску Kriviczy і па нямецку Krewings, г. зн. Крывічы, ад беларускага слова: кроў, крыві; бо ад гэтага-ж слова выводзяцца словы: крывавець (крывавік, рас. сердолік), крывавы, крывяніць і інш.“. (И. Н. Носовіч „Бѣлорусскія пѣсни“. Выд. Акадэміі Наук. 1873, СПБ.).

Гэткія выпіскі сцьвярджаючыя тожсамасьць імені Крывічы з пазьнейшым найменьям Беларусы, можна прадоўжыць да безканечнасьці. Бо няма н і в о д н а г а паважнейшага гісторыка ня толькі ў расійскай, але агульна у гістарычнай літэратуры ўсіх часаў і народаў, які-бы ня зняў племені Крывічоў, іх тэрыторыі, і ня ведаў-бы, што ў пазьнейшыя часы Крывічы былі перамянаваны ў Беларусаў. Пад сваім племянным дзяржаўна - палітычным

найменьням, тэрыторыя, народ і дынастыя, трываюць да XIII ст., прыкладам што дынастыя назывался Крыўскай бачым у Васкрэсенск. Летапісі, пад 1127 годам; „послав (рускі, кіеўскі князь Мсьціслаў) по Кривскіе князи, по Давыда и по Ростислава и Святослава и по Рогволодича два и по Ростислава и по Василія и по Ивана“ (Карамзин Ист. Гос. Рос. Т II, СПБ. 1892, прыпіска 252); а такжэ: „Сей Полоцкій князь Брачислав (мова аб Брачыславе бацьку жонкі Аляксандра Неўскага) мог быть сыном или внуком Василька Кривского“ (Карамзин. Ист. гос. Росс. Т. IV СПБ. 1892, прып. 21). Найменьне „русь“ шырылася у нас пераважна як тэрмін веравызнаўчы, бо крыўскія князі былі „веры рускай“. На ўсходняй часьці крыўскіх зямел, у Смаленску і Тураве, дзе дынастыя русаў выціснула крыўскую княжую дынастыю, тэрмін „русь“ разпашыраўся і як дынастычны. Адносіны паміж крыўскімі князямі і князямі рускімі найлепш характэрызуюцца сказам, які перахавала нам Васкрэсенкая летапісь (Т. І. стр. 219): калі рускіе князі клікалі князёў крыўскіх супроць палавецкага князя Баняка, каторы іх біў, то крыўцы ня толькі не пасьпяшылі ім на падмогу, але яшчэ далі насьмешлівую адповедзь, што біцьцё русаў, хай будзе:—„Бонякови шюлудивому в здоровье“.

Тэрмін „крывічы“, „крыўская зямля“ не зыходзяць са страніц гістарычных помнікаў да XV ст., але ўжо як найменьне гістарычна-провінцыянальнае ў фэдэральнай Літоўскай дзяржаве.

З XV ст., ад часу пашырэньня лацінскага абрадку „польскай“, „нямецкай“, „рымскай“ веры ў Літве, у процiўвагу людзям новой веры, выступае на гістарычную арэну,—ў абароне сваіх веравызнаўчых інтэрасаў, масса бароначая „рускую“ веру,—як адналітнае веравызнаўчае цэлае (цяперашняя Беларусь і Украіна) пад агульным найменьням Русі. Гэта былі па веры „русіны“, паводле дзяржаўнасьці Літва, „Літоўская русь“.

Найменьне Белая Русь паўстае не раней XV ст., і, першапачаткова, аднасілася толькі да не паняволеных, свабодных, пад сваім праваслаўным царом аднаверцаў, вытварыўшых палітычна-дзяржаўную адзінку з цэнтрам ў Маскве. У маскоўскай дзяржаве былі палітычна Маскоўцы, па веры вольныя, а знача белыя русіны. Пацьверджаньне гэтага мы знаходзім на першай географічнай карце, на якой фігуруе Белая Русь, уложанай ў 1460 г., а выданай ў 1491 гаду кардыналам Мікалаем Кусена. На гэтай карце адмечаны Polonia, Samogitia, Livonia, Lituania (абыймаючая крыўскія землі) Podolia, Rusia Alba sive Moskovia (Белая Русь або Масковія). (Абшырней аб гэтым гл. стацьцю праф. Анучина „Курс Бѣлорусовѣденія).

Пры гэтым у межах самой Рэчыпасполітай, зложанай з двох палітычных адзінак Польшчы і Літвы з Беларусьсю, ад часу далучэньня да Польшчы Галіцкай, Падольскай, Валынскай і Кіеўскай зямель, вытвараецца яшчэ сваё унутраннае дзяленьне на Русь Белую і Русь Чорную, або „польскую“. Аб гэтым расійскі пісьменьнік Безсонов вось што піша:

...„У народзе і пісьменьнікаў стаяўшых на пункце погляду Беларусі і Літоўскага Княжства, Малая Русь названа Чорнай: як другарадная ў параўнаньні з Белай і агульнай, першапачатковай (адкуль ішло разсяленьне на поўнач, усход і поўдзень, пасля апустошаньня апошняга татарамі), як пазьнейшая і старэйшая па мейсцу насяленьня, бо яна прыходзіла з поўдня, які ў славянаў заўсёды выбражаўся нізам“. (Безсонов „Бѣлорусскія пѣсни“ XXXIX). Пры гэтым трэба адмеціць, што р. Зах. Буг дауней называлася Чорнай і што жыхары гэтага парэчча насілі здаўна яшчэ найменьне Чорна-русаў ад названьня ракі. Імя „Крывічы“ жыло яшчэ ў памяці нашага народу ў

пачатках XIX ст. Толькі ў 1860 гадах, пасьля апошняга польскага паўстаньня, калі у Маскве і Петраградзе „аткрылі“ Беларусь, імя „Крывічы“ было засуджана на непамяць. Навет такі выдатны вучоны як Пыпін (Этнографія Россіи. Бѣлорусія) даўся парваць казённай расійскай „вучонасьці“ і асудзіў імя „Крывічы“, у прылажэньні да нашага народу, як маючае ў сабе азнакі „польскага“ сэпэратызму. Найменьні „Беларусь“, і „Маларусь“ асабліва горача пропагавала царская Расія, бо яны служылі праваднікамі агульнарускіх ідэалаў, „тры-адзінай Русі“, зводячы Украінцаў і Беларусаў на ступень провінцыянальных адмен.

На закончаньне я павінен заўважыць, што мы не затое, каб адкідаць найменьне Беларусь і замяніць яго нашым старым дзяржаўна-племянным найменьнем, як гэта ўжо некаторыя хочуць нам навязаць. Мы лічым, што і адно і другое найменьне ходам гісторыі сталіся нашымі, і нам німа рацыі іх выракацца, ні веравызнаўча-дынастычнага—Беларусь, ні дзяржаўна-племяннога—Крывічы. Гэтыя абодвы найменьні знамяніта могуць ужывацца абодвы разам:—Крывія-Беларусь, крыўска-беларускі і г. п. Што гэткія падвойныя імёньны шкоды народам ня робяць бачым на найменьнях: Англа-Саксы, Лехіты-Палякі, Русь-Украіна, Германія-Нямеччына шм. інш.

---

АРГУС.

# Мова ці дыялект, народ ці племя?

„Дыялект“ або „ідыом“ словы грэчаскія і азначаюць „асаблівасьць“, „адступленьне“, „своеаблічнасьць“. Філалёгі, ў самым шырокім сэнсе гэтак называюць усякую мову, якой гавораць ўсе грамадзяне даннага народу. Але звычайна паняцьце „дыялект“ або „ідыом“ тасуюцца ў больш вузкім значэньні. Тады пад „дыялектам“ разумеецца „гутарка“, або „нарэчіе“ аднэй параўнальна „невялікай“ галіны цэльнага народу. Гэтак прынята гаварыць аб Мараўскім дыялекце чэскай мовы, аб мазурскім ці кашубскім дыялекце польскай мовы. Устанавіць акуратна граніцу паміж паняцьцям „мова“ і паняцьцям „дыялект“ не магчыма.

Яшчэ дзесяць ці пятнаццаць гадоў назад самыя шырокія грамадзкія кругі, Крыўска-Беларускую мову лічылі дыялектам. Цяпер, дзякуючы аграмаднай працы дзеячоў Крыўска Беларускага адраджэньня паложанай за апошнія гады, гэта зьмянілася і спрэчка: „мова ці дыялект“ датычна Крывічоў мае яўна тэндэнцыйны палітычны характар, а запальчывасьць, з якой вядзецца гэта спрэчка, паказуе лепш за ўсё слабасьць пазыцій тых, кто Крывіцка-Беларускі народ і яго мову імкнуцца зрабіць нейкім другарадным або навет прыпадковым зьявішчам, вынікам ні то палітыкі, ці то навет проста інтрыгі трэйцяй стараны. Гэтым шляхам ачавіста нельга разьвязаць гэту спрэчку. Мы дзеля гэтага спробуем не ўнасіць палемічнага элементу, палітычнага, або яшчэ што горш націяналістычнага характару ў нашы довады, а пастараемся безстаронна вылажыць факты і пакінуць вывад самім чытачом, як гэта, паводле яго ўласных слоў, рабіў найвялікшы рымскі гісторык Тацыт, які выкладаў сваe мысьлі *„sine ira et studio“*.

Мы ўжо вышэй сказалі, што разьмежыць акуратна паняцці „мова“ і „дыялект“ нельга. Голяндзкая мова, прыкладам, падходзіць да нямецкай так блізка, што яе спакойна можна і сягоньня назваць дыялектам нямецкай мовы. Яшчэ ў пачатках XVI ст. голяндзкі народ ня меў сваей асобнай мовы, а гаварыў мясцовым дыялектам агульна-нямецкай мовы. Толькі ад часу утва-

рэньнеся асобнага палітычнага арганізму і ў зьвязку з удзоймам націяльнага духа, як вынік слаўных воен з гішпанцамі, ў другой палавіне XVI ст., вытварылася літэратурная мова голяндцаў. І сягоньня, на гэтым быўшым дыялекце нямецкае мовы выдаецца каля 3.000 газэт і часопісяў, маецца багатая літэратура і гэты быўшы дыялект, цяпер афіціальная урадовая мова ня толькі у самой Голяндзіі, але і ў яе аграмадчай каланіяльнай імпэрыі ў Азіи, Амэрыцы і Аўстраліі.

Быў час, калі ўсе г. званыя романскія мовы, а знача і француская і італьянская, былі дыялектамі лацінскай г. зван. lingua romana rustica („мужыцкія лацінскія мовы"). Але, вось, у італьянкай мове пачаў пісаць Дантэ і гэта „мужыцкая мова" абярнулася, як бытцам нейкім дзівам, у высокакультурную мову, утварыўшую першавартную літэратуру.

Сьветавая мова дыплёмациі, мова Вольтэра, Руссо і плеяды слаўных пісьменьнікаў, імёны якіх гучаць па ўсім сьвеце, была яшчэ ў XII ст. вельмі грубым і неапрацаваным дыялектам лацінскай мовы у Франціи якой не пісаў, навет не гаварыў ніводзін тагочасны францускі дваранін. Тагочасныя францускія паны глядзелі на гэты „дыялект" также як, нядаўна яшчэ „палякі" у Меншчыне і Горадзеншчыне, глядзелі на мову акружаючых іх селянаў. Яшчэ ў пачатках XVII ст. мовай французкага двара быў не „дыялект" парыжскага жыхарства, а гішпанская мова.

Ня лепшае становішча нямецкай мовы. Фрыдрых Вялікі, гэты „філосаф на троне", не глядзя на сваю філасофію, адносіўся з пагардай да сваей роднай мовы, гаварыў і пісаў толькі па францускy і быў глыбока пераконаны, што ніколі, ніводзін выдатнейшы пісьменьнік ня будзе пісаць „мужыцкай гутаркай" яго падданых. За некалькі гадоў пасьля яго сьмерці пачаўся клясычны пэрыод нямецкай літэратуры. Гетэ, Віланд, Шыльлер, Гердэр, Кант, немаль адначасна, у некалькі гадоў, ператварылі гэту мужыцкую мову ў сьветавую мову з безсьмяротнай літэратурай.

З вышэйсказанага відаць, што: аднэй і, мабыць, самай важнай азнакай, акрэсьляючай тэрмін „мова" і аддзяляючай яе ад паняцьця „дыялект", ёсьць істнаваньне выдатных, як па сваей якасьці так і па памеру, літэратурных помнікаў: дыялект, якім пісаў Дантэ ці Вольтэр, ці Гетэ, ці Толстой сталіся „мовай", незалежна ад свайго паходжаньня і свайго ўзросту. З другой стараны трэба падкрэсьліць, што істнаваньне літэратуры яшчэ не выстачаючае, каб падняць „дыялект" на ступеньню „мовы". Ня гледзячы на першараднага паэта Містраля і яго пасьледаўнікаў якія пісалі па Правансальску, правансальскі дыялект быў і астаўся дыялектам французкай мовы. Гэтак сама выдатныя пісьменьнікі Рэйтэр і Грот, якія пісалі ніжненямецкім дыялектам, няздолелі ўтварыць ніжненямецкой мовы. Прычыну гэтага, ў абодвых здарэньях, трэба шукаць у неспрыяючых палітычных варунках. Жыхарства палуднёвай Францыі гэтак зьлілося з жыхарствам паўночнай Францыі, што ня гледзячы на значную розьніцу ў мове, абедзьве палавіны пачуваюць сябе неразрыўна зьвязанымі. Так сама жыхары Гамбурга і наагул ніжняй Нямеччыны пачуваюць сябе неразрыўна зьвязанымі з рэштай Нямеччыны, не глядзя на значные разыходжаньні ў дыялектах.

Са сказанага вынікае, што дзеля падняцьця „дыялекту" на ступень „мовы неабходна патрэбна вядомае нацыянальнае самапачуцьце жыхарства, якое гаворыць на сваім асобным дыялекце. Жыхарства павінна мець унутраннае пераконаньне „Мы, гэта не яны". Толькі

пры гэтым абавязковым варунку ёсьць надзея і навет пэўнасьць, што літэратура на асобным „дыялекце“ узвядзе яго на ступень асобнай мовы.

Трэцьцім варункам, да падняцьця асобнага „дыялекту“ ў ступень „мовы“, зьяўляецца існаваньне тэрыторыі выстачаючаючай абшырнасьці і выстачаючы лік жыхарства, які гаворыць данным „дыялектам“. Доля мазураў і корсыканцаў пацьвярждаюць гэта. Мазурская племя насяляючае часць Усх. Прусіі, па мове і па веры пачувае сябе чужым у тасунку да польскага народу. У працягу доўгіх сталецьцяў усходна-прускія мазуры жылі палітычна адлучанымі ад Польшчы. І ня гледзячы на ўсе гэты спрыяючыя для „націяналізаціі“ мазураў варункі, яны ня здолелі утварыць сваей асобнай мовы і сваей асобнай нацыі, а асталіся па мове і па націянальнасьці палякамі таму, што іх тэрыторыя лішне малая і ліх іх вельмі нязначны, каб стварыць — навет пры дапамозе нямецкага ураду — сваю мазурскую літэратуру і сваю мазурскую націянальнасьць. У гэткіх, прыблізна, варунках і корсыканцы. Кождаму, хто бываў на востраве Корсыцы, кідаецца ў вочы, што тамтэйшае жыхарства ў істоце нічога супольнага з французамі ня мае: і людзі, і звычаі, і мова адразу падкрэсьляюць, што корсыканцы і французы ніколі ня былі і ніколі ня будуць адным народам, нягледзячы на гэта, корсыканцы ня вытварылі і ніколі ня вытвараць сваей асобнай літэратурнай мовы і сваей асобнай націянальнасьці, бо па сваей лічэбнасьці ня могуць гэтага зрабіць, хоць, здавалася-бы, што іх геаграфічная адасобленасьць, як ад французаў так і ад італьянцаў, ставіць іх ў выключна выгодныя з гэтага боку варункі, больш выгодныя чым большасьці т. зв. „малых нацый“ Эўропы.

Калі ўсё вышэйсказанае мы захочам датасаваць да Крыўска - Беларускага народу, то пераканаемся, што ў многіх здарэньнях Беларусы знаходзяцца ў няспрыяючых варунках. Значным мінусам зьяўляецца нястача палітычных, і, хоць колькі небудзь сурьёзных, прыродных граніц. Увесь край літэральна адкрыты ва ўсе староны сьвету: на поўдзень, на захад, на ўсход і на поўнач. Гэта небасьпека значна яшчэ павялічаецца тым варункам, што усходнія і заходнія суседзі—расійцы і палякі—гаворуць блізкімі мовамі, якія стаяць цяпер на шмат вышэйшай ступені разьвіцьця, як мова Крыўская. Гэты варунак, як вучыць гісторыя, зьяўляецца яшчэ большай небасьпекай як адкрытыя граніцы і рэлігійны падзел народу на каталікоў і праваслаўных. Гэту небасьпеку можна аслабіць толькі сьціровываючы ўсе сілы на разьвіцьце сваей літэратурнай мовы, г. зн. на друкаваньне кніг, бо каждая чародная кніга, навет самая слабенькая, зьяўляецца аўтоматычна літэратурнай апорай Крыўска-Беларускага племя, супроць кроўных па мове народаў і таму асабліва небасьпечныхъ.

Хто добра знае настроі Крыўска-Беларускай вёскі—ня толькі цяпер, але і да вайны—той заўважыў крэпкі неспажыты антаганізм, які жыве ў душэ кождага сяляніна ў тасунку да „не тутэйшага“ г. зн. немаль заўсёды да расійца і паляка. Гэты антаганізм яшчэ ня ёсьць патрыятызм ці націяналізм, але гэтае глыбокае пачуцьцё можна назваць прадвесьнікам іх. Мы пераконаны, што кождая кніжка, ў Крыўска-Беларускай мове, кінутая ў народную массу—не залежна ад зьместу зьяўляецца стымулам у працэсе ператтвараньнеся „тутэйшага“, ў націянальна сьвядомага Беларуса і Крывіча.

Поўнае-ж праяўленьне „душы нацыі“ і яе духовае адраджэньне магчыма толькі ў сваей дзяржаўнасьці, калі ўсе сілы народу будуць пераліваца ў свой ўласны, а не чужы арганізм.

Дзеля гэтага спрэчка аб „дыялекце“ і „мове“ безкарысна і ня варта траты часу. Спрэчка аб мове, як і кождая спрэчка, аб жыцьцёвым пытаньні, датыкаючым долі цэлага народу можа быць рязьвязана чынам, але ніколі славамі вустнымі ці пісанымі. Ніякая докторская дызэртацыя не дакажа так пераконываюча, адкрытым і скрытым ворагам Крыўска-Беларускага народу, што ён жыў і мае права жыць, як ён сам, ня голым фактам свайго істнаваньня, а сваей дзейнасьцю з сьвядома пастауленымі заданьнямі, ў круг якіх павінны ўхадзіць ўсе праявы грамадзкага жыцьця: літэратура, экономіка, вайсковасьць. Канечнай-жа і абавязковай мэтай — Дзяржаўная Незалежнасьць.

# Запіскі.

**Прафэсар Абіхт аб сучаснай беларускай літэратуры.** Нябошчык прафэсар Абіхт, які быў доўгія годы ордынарным прафэсарам славянскай філалёгіі ў Браслаўскім унівэрсытэце, як ведама, ў 1916 гаду зацікавіўся беларускім адраджэньнем. Не глядзя на свой падошлы век (67 гадоў), кінуўся ён, з годным маладога чалавека захопленьнем на пазнаваньне беларускага пытаньня з політычнай, гістарычнай і, асабліва, філалёгічнай стараны. Ен перапісываўся (лісты пісаў на беларуску!) немаль са ўсімі больш выдатнымі беларускімі дзеячамі, якія былі ў той час пад нямецкай окупацыяй. Да якой меры праф. Абіхт быў захапіўся беларускім пытаньнем можна судзіць з таго, што ў 1918 гаду ў Браслаўлі надрукаваў кніжку па беларуску, праектуючы новую пісоўню для беларускай пісьменнасьці, пад загалоўкам „prosty sposab stacca u karotkim čase hramatnym“ (napisali pr. dr. Rudolf abicht u Breslawi i ianka Stankewič u Wilni). А калі ў лістападзе 1918 г. ўспыхнула нямецкая рэволюцыя і дні нямецкай окупацыі былі палічаны, прафэсар Абіхт пісаў аўтору гэтых радкоў; „Якой-бы ні была будучая доля беларусаў, я астануся верным ім да канца маіх дзён“. І дзейснасьць паказала што гэтае, крыху патэтычнае, а авязаньне стары-вучоны датрымаў да свэй, ужо нядалёкай сьмерці: ён увесь час ў гэмым кірунку працаваў. Асабліва натужна ён зьбіраў матэрьялы да гісторыі беларускай літэратуры ад найдаўнейшых да цяперашніх часаў. Сьмерць перашкодзіла прафэсару Абіхту здзейсьніць сваю канодумку: падарыць беларускаму народу, пабудаваную па навучнай мэтодзе, падробную гісторыю беларускай літэратуты. Абіхт здолеў толькі схарактэрызаваць паасобныя разрозьненыя адрыўкі сваей шырока задуманай працы. Падаемо тут выпіску з разьдзелу, аб навейшай беларукай літэратуры, ад першай расійскай рэволюцыі да пачатку ўсесьветнай вайны (пэрыод 1905—1914 г. г.).

„У 1905 гаду была зьнята забарона на друкаваньне беларускіх кніг. І, вось, пачынаецца творчая праца беларускіх пісьменьнікаў, борзка збагачаючая нова-ўваскрэсшую беларускую літэратуру. Мімавольна ўражаешся хуткімі дасьціжэнямі, якія робіць ў гэтай дзедзіне прачнуўшыйся народ, што і не магло быць іначы. Творчасьць новароджаных пісьменьнікаў ведама мае вельмі рожнаякую цэнасьць, але тут сустрачаюцца творы, якія вытрымліваюць найбольш строгую крытыку. У асобах Кастантына Міцкевіча (Якуб Колас) і Яне Луцэвічу (Янка Купала), Беларусь прадстаўлена двумя, ў высшай меры, выдатнымі паэтамі і пісьменьнікамі, якія стаяць яшчэ на ўсхадзячай ўверх лініі, якія акром усяго добрага і прыгожага, ўжо створанага імі, даюць права спадзявацца на яшчэ большае жніво“.

Лішнім было-бы дадаць што-

колечы да гэтага высказу чужаземнага вучонага філалёга, прывыкшага вымяраць сумерам сьветавых літэратур, грэцкай, лацінскай, нямецкай, французкай і англіцкай.

*Ч. У.*

**Беларускі Егерскі Корпус у XVIII стагодзьдзі.** Адзін з выдатнейшых генералаў часаў Кацярыны II, Румянцаў, у вайне з прусакамі ўцяміў, якую карысць прыносяць войску караля Фрыдрыка Вялікага егерскія батальёны, куды браліся дзеці лясьнікоў. Ужо ў 1761 г. ён сфармаваў першы ў Расіі егерскі батальён, г зн. батальён лёгкай пяхоты, здольнай выступаць самастойна і падтрымоўваць кавалерыю. Егерскія батальёны аказаліся вельмі здольнымі да вайсковых дзеяньняў сярод лясоў і ў горах. Дзеля гэтага царыца Кацярына загадала сфармаваць егерскія батальёны пры палкох дывізій, якія стаялі тады на рубяжох з Суоміей (Фінляндзіяй), Літвою, Польшчаю і Турціяй, „коихъ ситуація земель и ихъ войски требуютъ противъ себя легкой пѣхоты“. Гэткім чынам у 1765 г. былі сформаваны егерскія каманды і пры Смаленскай дывізыі, кватэраваўшай і рэкрутаванай з Беларусі.

У 1777 г. гэтыя каманды сабраны і названы „Беларускім егерскім батальёнам“ (4 х кампанійнага складу), а ў 1785 г. Батальён разгарнуўся у „Беларускі егерскі корпус“, зложаны з 4 батальёнаў, усяго 3000 чалавек*). Перафармаваньне рабілася ўжо не на Беларусі, але на Каўказе, куды беларусы былі пасыланы ваяваць проціў лезгінаў і туркаў. 1784—1785 г. г. прашлі ў баёх; беларусы працавалі ў асобным атрадзе, гэн.-майора Самойлава, разам з Горскім егерскім батальёнам, Астраханскімі драгунамі і Данскімі дый Уральскімі казакамі.

Турэцкая вайна застае беларусаў ужо на новым фронце — на ціхім Дунаю ў арміі князя Пацёмкіна. У 1789. г. беларусы разам з іншымі аблягаюць крэпасць Бэндэры, пад галоўнаю камандаю слаўнага Суворава, а ў 1790 г. штурмуюць няпрыступныя муры крэпасьці Ізмаіл і ставяць свае сьцягі на гэтых мурох.

З 1791 г., пад камандай генерала Кутузава, Беларускі Егерскі Корпус арудуе ў крэпасьці Мачын і на гэтым заканчае свой удзел у Турэцкай вайне.

У польскай кампаніі 1794 г. Беларускі Егерскі Корпус зноў трапіў пад галоўнае камандаваньне Суворава і б'ецца ў Крупчыцы (з ген. Серакоўскім), каля Тэрасполя, перапраўляецца праз Віслу, бярэ удзел у бітве пад Мацеіовіцамі (дзе трапіў у маскоўскаі палон слаўны гэнэрал Касьцюшка) і каля Кабылак (з ген. Бышэўскім), і ўрэшце ў штурме Прагі. Вось кароткі баявы фармуляр Беларускага Корпусу.

Трэба дадаць, што нацыянальныя фармаваньні распасьцягаліся пры Кацярыне II і далей: у 1793 г. сфармаваны Маларускі (Украінскі) корпус, ў 1795 г. Літоўскі.

Калі царыца Кацярына памёрла сын яе Павал I зараз пачаў руйнаваць ўсе парадкі яе часаў. Разам з іншымі корпусамі і Беларускі Егерскі Корпус быў перафармаваны ў батальён (5-ці кампанійны), а ў 1797 г. ў 10-ці кампанійны полк, які прыняў найменьне свайго шэфа, Паўла, і ўграціў назову „Беларускі“.

*А. Ружанец Майор В. Л.*

*) У мяне меўся рэквізыцыйны квіт з 1770-х гадоў выданы ў Вілейскім павеце ад імені „Dywizyi Białoruskiej“. — В. Л.

**Хто быў першы друкар у Маскве.** Як ведама заснавец першай ў Маскве друкарні ёсьць Пятро Мсціславец (родам з гор. Мсціслаўля), які "быў адным з майстроў у друкарні Скарыны, і прышоў у Маскву з Вільні". („Истор. Слав. литер.“. Пыніна і Спасовіча). Ен, разам з масквічом Іванам Федаравым, заснаваў першую ў Маскве друкарню і ў

1564 г. надрукавалі яны у ей Апостал, а ў 1565 г. Псалтыр з часасловам. Падбураная маскоўская чэрнь, першую гэту друкарню як „богапраціўную“ разьбіла. Друкары-ж уцяклі на Беларусь. Каля Беластока, ў Заблудаве ў вялікага беларускага патрыёта, Гэтмана Вялікага Княжства Літоўскага, Грыгорага Хадкевіча, яны знайшлі прыпын і магчымасьць устроіць новую друкарню. У Заблудаўскай друкарні, ад ліпня 1568 г. і да сакавіна 1569 г. яны выдалі „Кнігу зовомую Еваггеліе учительное“ Цікавая прадмова да кніжкі зазначае, што Хадкевіч хацеў „выразумѣнія ради простых людей переложити на простую молву“ кнігу і зрабіў ужо патрэбныя да гэтага захады, але „люди мудрыя вучоныя у пісьме“ (а ў першы чарод, хіба, сам Федараў, які як маскаль баяўся друкаваць кніжку ў мове, якой ня знаў), адраілі, каб ня вышла памылкі ў перакладзе. Пасьля надрукаваньня Учыцельнага Евангельля Петр Мсціславец знашоў прыпын у мяшчанскай сямьі Зарэцкіх у Вільні, і на іх кошт залажыў друкарню ў доме братоў Мамонічаў. Іван Фёдараў надрукаваўшы некалькі яшчэ кніг ў Заблудаве, пазьней перабраўся на Украіну; памёр у Львове. *В. Л.*

**Аб найменьні „Русь“.** У рэдкай ужо цяпер, цэннай працы „Історія Славянскіх літератур (СПБ. 1879), зложанай двумя выдатнымі вучонымі Пыпінам і Спасовічам, маюцца вельмі цікавыя данныя што да найменьня „Русь“.

Гэтыя высока аўтарытэтныя вучоныя сьцьвярджаюць, што ад IX да XII ст. толькі „палуднёвая сувязь князстваў, з Кіевам на чале, у тыя векі насіла спэцыфічнае найменьне *Русі*, якое ў XI ст. пашыралася на Валынь і Галіцыю, але яшчэ не перахадзіла ні ў Ноўгарад, ні да Беларусаў, ні на паўночны усход“. (Т. I, стр. 309).

„Пры завояваньні палуднёва-заходнай Русі князямі літоўскімі і засснаваньні Літоўскага княжства, ім „Літва“ стала прыналежнасьцю За-ходнай Русі (Беларусі); палуднёва Русь асталася пры старым, спэцыфічным названьні Русі. У XV ст, цяперашняй Расіі зложыліся чатыр палітычныя адзінкі, аддзелу усходняг Славянства: Русь, Літва, Ноўгарад Масква. У XVI ст. Ноўгарад паў, асталіся тры адзінкі: Русь, Літва Масква“ (стр. 310). „У цяперашня Вялікаросіі да XVII ст. імя Русь аз-начала адзінства племя па пахо-джаньню, па агульных рысах мовы па веры і кніжнай адукацыі“, ал дзяржаўна-палітычна, цяпераш Вялікаросы (між іншым тэрмін нов і цалком кніжны, не народны), па-чувалі сябе адзіна. Маскоўцамі і па гэтым тэрмінам вядомы былі загра-ніцы. Толькі ў XVII сталецьці ім „Русь“ было перанесена на Масковію як палітычны тэрмін. „У палуднёва рускага народу як бытцам было па-хічана яго найменьне“, яго правеч-нае імя прысвоіў сабе другі народ“ (Костомаров, Историч. Монографі Т I, 229,233. *А. С.*

**Каспля і касапля.** Есьць рака уплываючая ў Дзьвіну, каля Суража якая пішацца—К а с п л я. Географ і гісторыкі нязнаючыя беларуска мовы, звыклі найменьне гэтай рак прыймаць за неславянскае і падаваць яго як довад таго, што на вярхо Дзьвіны славяне выцісноўшы фінскі плямёны, пасяліліся ў іх краю і ўт-рымалі нават чужыя найменьні рэк Тым часам гэта думка утварылас на грунце самай грубай памылкі за-пісаўшых і перапісываючых дагэтул гэтае найменьне. Народ не называ раку „Каспля“, а „К а с а п л я“ (ак-ром тых, якія гавораць „граматна“) Слова-ж к а с а п л я, азначае крыво (косае) дрэва. Прыкладам, сані будуюць на палазох, але падсанкі (мен-шыя, карацейшыя сані ўжываны да падстаўкі, пры перавозе доўгі бэляк), — маюць ужо не палазы а шмат меней ад палазоў выгнуты —к а с а п л і. Кождае выкрыўлена

## Аутограф Францішка Багушэвіча.


R. 1897, d. 20 Lipca
Kab ja moh napisać toje szto u dumce,—
Zapisaŭ by usio na hetaj albumce;
Ale ž myśli, jak mak, absieli hałoŭku,
Nie dadué ani jak wyjści ani słoŭku.
Tolki.... słoŭca adno dla Paniènki tut jość,
Szto „charosza ž jana" wot i usio, dyk i dość!...
Franciš Bahusz

Зьмест у цяперашняй транскрыпцыі

Каб я мог напісаць тое, што у думцы,—
Запісаў бы усё на гэтай альбумцы;
Але ж мысьлі як мак, абселі галоўку,
Ня дадуць аніяк выйсьці ані слоўку.
Толькі... слоўца адно для паненкі тут ёсьць,
Што „хароша-ж яна" вот і ўсё, дык і досьць!

ФРАНЦІСЬ БАГУШЭВІЧ.

У маіх знаемых п.п. Піотровіч у Коўне я знайшоў у альбуміку вершык Францішка Багушэвіча (Бурачка) запісаны яго ўласнаў рукой. Вершык гэты яшчэ нідзе не друкаваўся і быў напісан у 1897 годзе 20 ліпня у Коўне. Таго лета кампанія экскурсантаў, на чоўнах па Вяльлі і пехатой, выбралася з Вільні у Коўну, у ліку экскурсантаў быў і Ф. Багушэвіч. Разам са сваімі знаемымі гасьціў ен у п.п. Піотровіч і для падрастаючай дачкі гаспадароў, п. Станіславы, у яе альбумік, напісаў гэты верш. Картку з альбуміку ўласьніца падаравала мне а я ў свой чарод перадаў яе на перахоў у рэдакцыю „Крывіч", дзе яна цяпер і знаходзіцца.

К. ДУШ-ДУШЭУСКІ.

вядомым загібам, дрэва, называецца касапеліна. Гэтак сама народ не называе другога доплыву Дзьвіны, Обша, а Вобжа (з шапелявым ж). Вобжамі-ж называюць так-жа аглоблі пры сасе. Раку Уллу называюць Уллой і Вулой, а гэта ня што іншае, як тое-ж самае беларускае слова, вуліца, вулка, чым яна запраўды да цяпер служыць, працякаючы па балотнай мясцовасьці.

*Т. О.*

**Што такое „дунай“.** Ва ўсіх славянаў, ад Адрыятыцкага мора да Уралу і ад Солуня да Архангельска, ў народных песьнях сустрачаем слова „дунай“. Гэтае загадковае слова рожна стараліся вытлумачыць, а многія лінгвісты, між іншымі чэх Нідэрле, нямогучы даць з ім рады, прызналі яго нават не славянскім; хоць праз народную песьню, памятаючую вельмі даўныя часы, яно ўелася ў косьці і кроў ўсяго славянства. Варта прыглядзіцца, як разумеюць гэтае слова самі народныя песеньнікі. У часе сельска-гаспадарскай выстаўкі ў Быхаве, ў 1912 г., я, карыстаючы з наплыву на выстаўку селян, запісываў народныя песьні і пры слове „дунай“ распытываў, што яны разумеюць пад гэтым словам? Кожды (і кабеты і мужчыны) без запінкі адпавядаў, што гэта „вялікая такая рака“. На пытаньне дзе яна, рожна адпавядалі, рэдка ўрапад (ў значэньні географічным), але мне прышлося зьвярнуць увагу на тлумачэньне якое даў мне селянін Мікалай Тройчык, з пад Вялюня (на граніцы Быхаўскага і Бабруйскага паветаў). Ен казаў: „руччом мы называем меншую ваду, ракой большую, а „дунаям“ шырокую раку, многаводную“. Вернасьць гэтага акрэсьленьня я меў зручнасьць пацьвердзіць у многіх мясцох, ў часе маіх падарожы па Беларусі (між іншым: каля Ушача, леп. пав., каля Мсьціжа, бар. пав. каля Капыля, слуцк. пав,). Дзеля гэтага, мне здаецца, што народная песьня апяваючы „ціхі“ „шырокі“ Дунай, ня мае ні ў памяці, ні на мэце палуднёва славянскай ракі Дунаю, а проста ўжывае тэхнічны тэрмін дзеля абазначаньня вялікага сабраньня плывучых вод, у адрожненьне ад ракі і ручча. Гэты тэхнічны тэрмін кніжнікі, як і многа чаго іншага, проста забыліся, а народ яго дахаваў да нашых часаў. Гэткім чынам на абшары разсяленьня славянаў, немаль кождае племя мела свой „дунай“, які і апевала ў песьнях. Я тут не ўхаджу у філолёгічнае тлумачаньне слова, але мушу зьвярнуць увагу, што ў беларускай мове маюцца словы: „дунец“ і „дуніць“. Дунец, азначае не высокі вадапад на бягучай вадзе, дзе вада пераліваючыся праз якую колечы нерашкоду дуніць, г. зн. выдае спэцыфічны, бытцам зьвінячы, гук. Між іншым Буслаев („Русская народная поэзія Т I стр. 175) высказаўся па поваду гэтага найменьня: „Дунай, акром ўласнага імя, мае назоўнае значэньне кождай ракі і дзеля гэтага ўжываецца ў многай лічбе—Дунаі: „за ракамі за Дунаямі“, слаўны расійскі філалёг, ужо 60 гадоў таму назад, вельмі блізка падышоў да праўдзівай разгадкі гэтага найменьня.

*У. С.*

**Беларуская адозва па літоўску.** У асабістай бібліатэцы загадчыка бібліатэкі Вайск. - Навук. Аддзелу майора А. Ружанцова ёсьць цікавы экзэмпляр беларускай адозвы па літоўску, атрыманы ім сёлета ад дырэктара бібліатэкі Ковенскага унівэрсытэту, доцэнта Вац. Біржышкі. Надрукавана яна на аднэй старонцы добрай „журнальнай паперы фармату 32×31. Адозва пачынаецца гэтак: Visu darbininkai, eikite iszvien! (Работнікі ўсіх краёў, ідзіцё разам!) Baltarusiu socialistu gromada. (Беларуская соцыялістычная грамада). Kaip reikia daryti streikas. (Як трэба рабіць стрэйкі).

Далей идзе тэкст, усяго сто адзі-

надцаць поўрадкоў. Даюцца гэткія рады: трэба ладзіць стрэйкі неспадзеўна панам, не пакідаць у часе стрэйку панскую жывёлу без дагляду і спажывы, не паліць і не рабаваць двароў, але паноў, якія паклічуць да двароў войска, казакаў ці паліцыю, не шкадаваць і забіваць. Усім вёскам радзіцца абраць выбарных (прадстаўнікоў), якія зыйшоўшыся ў адным мейсцы і мусяць умовіцца што да стрэйку, яны ствараць с т р э й к о в ы  к а м і т э т. Далей тлумачыцца чаго павінны вымагаць ад паноў падзённыя найміты і найміткі: 1) заплаты у $1^1/_2$ разы больш, а дзе малая плата там і двойчы, 2) чалавечнага абходжаньня, 3) 4 вольных гадзіны пад час працы:—1 гадзіна на сьнеданне (pusryсziams) і 3 гадзіны на абед, 4) асобнай платы за працу пасьля Заходу сонца. Гадавыя работнікі (парабкі) і работніцы (парабніцы) і стаенные (канюхі) павінны вымагаць тое ж што паказана вышэй у 1 і 2 артыкулах, акром таго: 4) здаровых і вялікшых чым цяперашнія кватэраў, асобна дзеля сямейных і дзяўчат, 5) ардынарыяў і харчоў сытных, ялавічына павінна быць ня меньш 2 разоў на тыдзень, 6) жонкі работнікаў павінны атрымоўваць за даеньне кароў асобную даплату, 7) лячэньне працаўнікоў і лекі на кошт паноў.

Усе павінны дабівацца скарочаньня рабочага дня.

Вясковаму люду (kaimo žmonės) радзіцца вымагаць ад паноў зьмяншэньня арэнды, не хадзіць на работу да двара за права пасьвіць жывёлу ў панскіх лясох, не даваць млынарам заліваць вадою сялянскія лугі, дзела чаго псаваць гаці, калі млынар ня згодзіцца перамяніцца лугамі. Напамінаецца ў канцы адозвы аб тым, што царская ўлада —вораг усіх працоўных людзёў і заклікаюцца ўсіх „бараніць ад паліціі сваіх братоў - саціялістаў, якія прыйдуць да вас з тымі нашымі адозвамі. Далоў царскую ўладу! Далоў панскую і ўрадніцкую (valdininku) самаволю! Ніхай жыве социялістычны лад!“

Адозва падпісана:

Baltarusiu Socialistu Gromados Antrasai Vietinis Komitetas. Gegužes 18 d. 1906 m. 1000 egz. (Другі мясцовы Камітэт Беларускае Соцыялістычнае Грамады. Травеня 18 д. 1906 г. 1000 экз.).

Адозва гэта трапіла ў рукі майора Вац. Быржішкі пад час разборкі ім архіву Віленскага Губэрнскага Жандарскага Упраўленьня ў Маскве, ў 1918 г. Надрукавана яна бязумоўна ў Вільні.

*А. См—ц.*

**Слова „друя“.** Слова „друя“, азначае—другая. Рельлю узорываюць, пазьней пераворываюць другі раз, або „д р у я ц ь“, а часам і „траяць“. Карову, авечку (а бывае гавораць і аб жанчыне) якая дала першы прыплод, называюць— „пярвічка“, а якая дала другі прыплод —„д р у в і ч к а“. Слова гэтае сустракаецца і ў народных песьнях, прыкладам у Крачкоўскага („Быт Зап. Русск. селянина“ Масква 1874 г.), ёсьць запісана вясельная песьня, пры мяшэньні караваю, ў якой маецца гэткае месца (стр. 41): „Сорак коп маладых курэй яец, тры фаскі дравічных (зам. друвічных) кароў масла“...

К. І.

**Жыровіцкая друкарня.** Бібліографам мала вядома аб істнаваньні ў XVII і XVIII ст. друкарні ў Жыровіцкім манастыры, а між іншым паміж беларускіх селян дагэтуль нязвычайна цэняцца „жыровіцкія“ кантычкі, якіх нямала ходзіць па руках. Жыровіцкі манастыр, як ведама, быў другім, пасьля віленскага Св. Троіцкага, па значэньню і багацьцю, між уніяцкімі манастырамі на Беларусі. Тут істнанавала, з другой палавіны XVII ст. слаўная на ўвесь край вышэйшая уніяцкая школа. Словам, жыровіцкі манастыр між уніятамі

славіўся так, як між каталікамі, ў фэдэратыўнай Рэчыпасполітай, манастыр Чанстахоўскі. Пры жыровіцкім манастыры друкарня існавала з 1670-х гадоў з лацінскімі і славянскімі літарамі. Спамянутыя вышэй „кантычкі“ друкаваліся ў польскай мове; якія друкі з жыровіцкай друкарні выходзілі славянскімі літарамі— нет ведама. Бацька, беларускага дзеяча Генюша Хлебцевіча, сьвяшчэньнік Хлебцэвіч, які быў тут вучням у існаваўшай, ад 1828 году, праваслаўнай духоўнай сэмінарыі, (замест скасаваных уніяцкіх школ), а пазьней вучыцелям ў тэй-жа сэмінарыі, апавядаў, што бачыў вышоўшыя з жыровіцкай друкарні падручнікі да навукі славянскай граматы. Аб жыровіцкай друкарні упамінае Бdevроўскі („Вѣстн. Зап. Россіи“. Вільня 1866 г. Т. IV, кн. XII).

Г. Л.

**Ткальня „слуцкіх“ паясоў ў Рожанне.** Слава слуцкіх паясоў і значны зыск, які мелі Радзівілы са сваей ткальні ў Слуцку, заахвоціла шмат каго ў XVIII ст. закладаць такіе ж ткальні ў сябе. Між іншымі Аляксандар Сапега ў 1786 гаду, заложыў гэткую ткальню ў сваім палацы ў Рожанне, (Слонімскага пав.). Паясы Рожанскай фабрыкі былі па схэме імітацыяй паясоў выходзіўшых са слуцкай фабрыкі, але мелі іншыя, даволі добра стылізаваныя рысункі. Адзін з гэткіх паясоў быў у кс. Юрага Мачульскага ў Сьвянцянах. Дайжыня яго 380 цм., шырыня 33 цм., на канцах вытканы па два букеты кветак, між якімі знаходзяцца традыцыйныя васількі. У самым нізе, у рамцы, з левай стараны, надпіс „Różanna“. Увесь пояс з шоўку, без мэталічных нітак, ў чатыры колеры: чорны, блакітны, ясна жоўты і чырвоны. Ткальні ў Рожанне існавалі, паводле П. Бобровскага, („Гродненская губернія“), да 1860 гадоў, але ўжо ад 1815 году ткалі толькі сукно. Ў гэтым 1815 году на ткальнях працавала 200 работнікаў, якія прыгатаўлялі ў год 12.200 арш. сукна; ў 1860-х гадох Рожанская фабрыка прыгатаўляла толькі ледзь пятую часьць гэтага ліку, знача— каля 2.000 арш. сукна.

А. С.

**„Хрэст на свабоду“ Цёткі па-літоўску.** Адзін з старэйшых перакладаў, з беларускае мовы на літоўскую, гэта пераклад „Хрэста на свабоду“ Цёткі зроблены нейкім „Kas“ і надрукаваны ў „Kibirkstis! Laisvės dainų rinkinelis“. (Іскра! Зборачка вольных песьняў), выданным у Пецярбурзе ў 1908 г. Пераклад пачынаецца славамі:

Va, rytuos dangus raudonas,  
Žemės stovis, nemalonus;  
Kraujas upėms jūron teka,—  
Taip mat reikia, žmonės šneka“.

Трэба адзначыць вернасьць і блізкасьць перакладу да арыгіналу.

А. См—ц,

**Цікавая агітацыйная беларуская брашура 1860-х гадоў.** „Разсказы на бѣлорусском нарѣчіи“. Вильно. (Въ типогрфіи Сыркина. 1863 г. 20×14 цм. стр. 32). Як ведама ў пачатках 1860-х гадоў расійскі урад, хочучы прыцягнуць на свой бок сымпатыі беларускага сялянства гатоў быў пайсьці на дазваленьне беларускага друку і дапушчэньне беларускай мовы ў школы. Мысьль гэта была выклікана тым, што польскія паўстанцы шырылі даволі значны лік сваей агітацыйнай літэратуры ў мове беларускай, дык як спосаб проці-агітацыі узяліся за беларускую мову і расійцы. З агітацыйных брашур найбольш была пашырана „Гутарка Данілы са Сьцяпанам“. (Надрукаваная ў Вільні ў 1863 г., бяз году і наймення друкарні, фармат 14×11 цм. 22 стр.). Да ліку агітацыйных кніжак выданых расійцамі належаць і „Разсказы“. Галоўная тэма, якую даказываецца у ей ёсьць, што „даўнейшыя Крывічы, а цяперашнія Беларусы—не Палякі, што „бацькі і дзяды былі веры рускай“.

Зьмест кніжкі складаецца з 5 гутарак: 1. Кто булы нашы найдавнійшии диды и якая ихъ була доля до униі? (Пісана гутаркай нібы Паляшукоў, неякім украінцам). 2. Ці добре мы зробили покинувши Унію? 3. Великая помылка нашихъ Бѣлорусовъ. 4. Размова на цментари старосты Янка з братчиком Хвэдосем. 5. Сказка не сказка, быль ня быль але так бываиць.

У першым апавяданьні аўтар давodзіць чытачу, што:

„Старана дзе цяпер жывуць Пінчукі, Мінчукі, Вытобци, Могілевци завецца Балай-Русьсю, у гэтай старане з вельмі даўных часаў жыў народ славянскі, родны з народамі, каторыя даўней жылі і цяпер жывуць у палуднёвых і усходніх рускіх краях. Народ той спярша зваўся Крывічамі, або крывіцкімі Славянамі: такбылі каліcь Крывічы Смаленскія—яны жылі не далёка каля места Смаленска; а то былі яшчэ Крывічы Полацкія,—вот гэты Крывічы былі нашымі прадзедамі. Ня можам цяпер даведацца, ці вялікі кусок зямлі займалі Крывічы полацкія; можам толькі сказаць, што цяперашняя Вітабская, Могілеўская губэрні, маленькі кавалачак Пскоўскай і Смаленскай, значная часьць Мінскай губэрні з Пінскам, Мозырам і Туравам, кавалак Горадзенскай да рэчкі Дзітвы і добры кавалак Горадзенскай з Ваўкавыскам і Берасьцем —былі тымі мяйсцамі, дзе жыў Беларускі народ... Такі то досьць значны кавалак займалі нашы прадзеды Крывічы Полацкія“.

Дыялёг „Ци добре мы зробили, покинувши Унію? вядзецца паміж „Священникам“ и „Парафіянином“.

Парафіянинъ. Скажи мнѣ, ксенже, за што зовуць нас схизматыками? Здаецца, мы ничого худого не зрабили. Ци мы недоверки якіе ци што?

Священникъ. Плюнь на гэта, Грыгоръ; ци мало чимъ можно назваць человѣка по злосци, либо по глупости: людзём рта не завяжешь.

І далей:

Священник. ... Нас называюць схизматыками за тое, што мы покинули Унію и пряняли Православную вѣру; а я думаю, што мы гэта добре зробили, як добре зробили тые дзѣци, што покинули паню и вернулись къ своей родной матцѣ; мы ня новую приняли вѣру, а вернулись къ старой; стали вѣриць так, як вѣрили наши самые давние бацьки и дзѣды, которые жили за 200 годов и боли до нас.

Парафіянинъ. Няужтож нашы бацьки и дзѣды были вѣры русской, цы православной, як и мы?

Сьвятар апавядае свайму парафіяніну“ аб хрышчэньні Русі, аб змаганьні за веру брацтваў і г. п. Выслухаўшы ўсё парафіянін кажа:

Парафіянін. Кали правда, што ксендзь кажашь, дык мы совсимъ не похожи на нашыхъ давнихъ бацьков и дзѣдовъ; яны от нас як небо от земли.

Ня менш цікавая „Великая помылка нашых бѣларуссовъ“, у якой праводзіцца мысьль што каталік беларус—не паляк: „Якіе яны Поляки? У их мова простая, белорусская, звычаи простые бѣлорусскіе“... „Штож мы за несчасный народ, што ня вѣдаем якъ назваць сябе й, зробившись католиками отрекаемся отъ своего роду и племени, зовем сябе Поляками, хоць гэта нам пристало як каровѣ сядло“. Заканчываецца стацейка выкрыкам: „Рускими, а не Поляками мы повинны называтца“.

У чацьвертай стацейцы стараста пераконывае братчыка Янку, што трэба пасылаць дзяцей у рускую школу.

Пятая прыповесьць тлумачыць, што вучоныя дзеці часам забываюцца аб бацьках і як такі бацькаселенін ашукаў сваіх вучоных дзяцей, сказаўшы ім, што мае поўну скрыню грошы. Дзеці адзін праз другога дабіваліся бацькаўскай ласкі і спадку: карміліі і даглядалі старога. Пасьля-ж яго сьмерці аказалася, што ў скрыні былі каменьні

і ліст, у якім было сказана: „Не дай Бог кабъ и вы спытали такое горе; маице дзяцей, будзьце осторожны“.

Словам тэндэнцыя ўсей кніжкіи -русыфіактарская, але казённага тыпу, але тон у кніжцы даволі няпэўны, асьцярожны. Найлепшая беларуская мова ў апошнім апавяданьні. Экзэмпляр апісыванай кніжкі знаходзіцца ў кніжні маёра А. Ружанцова.

*Т. О.*

# Агляд культурнага жыцьця Беларусі.

**У справе звароту беларускае культурнае маемасьці.** У Менску стварыўся цэнтр творчае беларускае культурнае працы.

Пачатковыя і сярэднія беларускія школы (школы першае і другое ступені), унівэрвітэт, у якім, апрача прадметаў беларусазнаўства, пабеларуску пачынаюць ужо выкладаць і такія прадметы, як агульная тэорыя права і др., цэлы рад беларускіх культурных установаў з Інстытутам Беларускае Культуры на чале—вось тыя кузьні, у якіх выковываецца Новая Беларусь.

Сярод гэтых установаў зварачае на сябе ўвагу, між іншым, Беларускі Нацыянальны Музэй.

З вялікім напружаньнем, з вялікай затратай энэргіі і працы зьбіраюць тамака беларускія культурныя працаўнікі ўсе тое, што дае прадстаўленьне аб творчай сіле і духовай індывідуальнасьці Беларускага народу. І ня дзіва: гэта-ж трэба прыпомніць, што расійскі царскі ўрад у працягу сотні гадоў стараўся зьнішчыць у Беларусі ўсе сьляды яе даўнае самістасьці, што гэты ўрад павывозіў найбольш цэныя культурныя памяткі, што гэты вываз у часе усесветнае вайны зрабіўся масавым, а шмат з таго, што не пасьпелі вывязьці расійцы, згінула ў часе ваеных падзеяў, якія разыгрываліся на беларускай тэрыторыі ў працягу сямёх гадоў.

Вось чаму зьбіраньне менскага музею сустракаецца з вялікімі труднасьцямі, калі справа ідзе аб згуртаваньні тамака памятак нашае дзяржаўнае мінуўшчыны і старадаўнае культуры. Сучасныя вырабы нашага народу, як паказалі экспанаты беларускага аддзелу на сельска-гаспадарскай выстаўцы ў Маскве, яшчэ можна знайсьці ў нашай вёсцы. Але гістарычныя памяткі трэба шукаць далёка па-за межамі Беларусі: ў вялікіх музэях Пецярбурга і Масквы, а таксама і на Захадзе—у Варшаве і Кракаве, куды іх ад нас вывозіла польская інтэлігенцыя, манючыся гэтакня даць забраць іх у расійскія сабраньні.

Неяк у рукі пішучага гэтыя радкі папаў нумар выдаванае ў Менску беларускае газэты, ў якім успамінаецца аб ахвяры Беларускаму Музэю адным з расійскіх музэяў нейкіх фігураў, ці чагось падобнага. Ведама, кождая ахвяра—рэч добрая. Толькі-ж менскім беларусам няма парэбы аглядацца на ахвяры: яны маюць поўнае права—і з гэтага права павінны скарыстаць!—на паварот у Беларусь усіх тых беларускіх гістарычных і культурных памятак, якія апынуліся ў расійскіх музэях.

Бяз сумліву, памятак гэтых — нязвычайна многа. І хаця шмат чаго вывезена ў Польшчу пад відам польскіх рэчы (бытцам затым, што ўсё гэта адносіцца да часоў прыналежнасьці Беларусі да Польшчы!), аднак, пашукаўшы добра ў Пецярбурзе і Маскве, можна было-бы напоўніць Беларускі Музей у Менску прост неацэннымі для беларусаў рэчамі.

Права беларусаў на тое, што імі створана, — бязпрэчнае. Трэба-бы толькі, каб гэтым занялася адна з паважнейшых беларускіх навуковых установаў, каб была створана адумысная камісія з спэцыялістаў, якая-б і занялася вышуківаньнем і рэвін-

дыкацыяй беларускіх гістарычных і культурных цэннасьцяў.

Цікава толькі, ці Беларуская Сацыялістычная Радавая Рэспубліка акажацца настолькі „важкай“ установай, каб да голасу яе прыслухаліся „старэйшыя браты“, што запраўды кіруюць усенькім „Саюзам Сацыялістычных Радавых Рэспублік“?

*І. М—ка.* (Змаганьне).

Мы думаем, што на гэта мала надзеі; комуністычная Масква ня менш цэнтралістычна як і стары расійскі урад, не глядзя на ўсе папяровыя дэкларацыі. Тое што ў Менску зроблена, зроблена сіламі краёвымі і толькі краёвымі. А як забрана цяжка цяперашняй Маскве вяртаць, відаць з таго, што і пасьля прызнаньня ўсіх фэдэральных правоў Савецкай Беларусі, беларускія землі Вітабшчыны, Магілеўшчыны і Смаленшчыны дагэтуль яшчэ Беларусі ня вернуты.

**Частковая плата ў Бел. Дзярж. Унівэрсытэце**. З прычыны таго, што на вольныя мейсцы факультэту грамадзкіх навук і пэдагагічнага факультэту Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту прымаліся студэнты без камандыровак прафэсыянальных саюзаў, на гэтых факультэтах будзе ўведзена частковая плата за навучаньне.

**Зьезд інспэктароў народнай асьветы.** 25 верасьня ў Менску адбудзецца краёвы зьезд інспэктароў народнай асьветы. Дэлегатам зьезду запрапанована прывезьці на зьезд справаздачы выкананай працы і плян на будучы вучомны год.

**Галоўны архітэктар ССРБ.** Дзеля кантролю і кіраўніцтва будаўнічымі працамі ў краю, пры Эканамічнай Нарадзе Беларусі ўтвараецца пасада галоўнага архітэктара ССРБ.

**Архэолёгічныя працы у Смаленшчыне.** Пры Смаленскім Дзяржаўным Унівэрсытэце ў Габінэце прафэсара Краязнаўства, этнаграфіі і архэолёгіі Кац. Мік. Клетновай працуе гурток студэнтаў былога Смаленскага Архэолёгычнага Інстытуту, праца йдзе жвава і дала ўжо выдатныя вынікі. Славэтны Гняздоўскі магільнік (каля Смаленска) стаўся у тры разы вялікшым, чым быў прад вайною, бо пры архэолёгычных дасьледах знайдзены тутака новыя курганныя полі і, апроч двох, вядомых раней гарадзішчаў, дасьледаваны яшчэ тры. Адно з іх дасьледавана сёлета, яно належыць да эпохі нэоліту.

Ал. Ружанец-Ружанцоў.

# Агляд прэсы.

## Прапазіцыя.

паслоў Беларускага Клюбу ў справе гвалтаў і надужыцьцяў карацельных экспэдыцыяў дзяржаўнай паліцы ў Косаўскім павеце.

У апошніх часах дзяржаўная паліцыя ў некатарых усходніх паветах вядзе ў шырокім маштабе т. зв. разбраеньне люднасьці, шукаючы ўсялякага аружжа і забіраючы ўсе рэчы, падыходзячыя пад назову ваеннай здабычы. Ня ўваходзячы ў крытыку мэтнасьці гэтага загаду, зварочваем увагу толькі на спосаб у сваей жорткасьці нячуваны і ў прававой дзяржаве цалком не магчымы. Дзеля таго, каб змусіць люднасьць да выдачы нібы-то істнуючага аружжа, катуюць яе найбольш дзікім спосабам, не выключаючы малалетніх, старых і кабетаў. Ня кажучы ўжо аб біцьці па твары, таптаньні нагамі, як аб рэчах вельмі распаўсюджаных і добра вядомых у зносінах паліцыянтаў з людносьцю, падчырківаем тут адзін з найбольш дзікіх і вельмі часта ужы-

ваных спосабаў катаваньня, а імена біцьцё жалезнымі прутамі па пятах. З тых скаргаў, якія даходзяць да нас з боку пацярпеўшых, можна-б было сьпісаць цэлыя томы, дзеля гэтага абмяжоўваемся для ілюстрацыі павядзеньня паліцыі і яе мэтадаў дзейнасьці толькі некаторымі прыкладамі.

Дзеялася ў Косаўскім павеце (Палескага ваяводзтва) паміж 10 і 11 верасьня г. г. У вёсцы Гічыцах, Боркачіскай гміны была аблава для разаружэньня. Вось некалькі абразкоў з гэтай паліцейскай апэрацыі:

У памешканьне Астапа Мінчука, 65 гадоў прышло двух паліцыянтаў, адзін з іх нейкі Гасускі, пастарунковы з тэй-жа вёскі. Запытаўся — Дзе маеш карабін? На адмоўны адказ Мінчука таварыш Гасускага пачаў біць Мінчука кастэтам, пакуль той ня ўпаў, страціўшы прытомнасьць. Па адзысканьні прытомнасьці адвялі на пастарунак, а пасьля звольнілі.

Да гаспадара Кірылы Куратніка, 45 гадоў прыйшлі каля 1 гадз. уночы. Распачалася гэткая размова: „Давай карабін, мы знаем, дзе ты яго маеш“.—„Калі ведаеце, ідзеце й бярыце“,—„Але мы хочам разам з табой паглядзець“. Выцягнулі Куратніка ў поле і, паваліўшы, пачалі біць палкамі і жалезнымі прутамі па пятах, адначасна слухаючы пульс і прыводзячы ў чуцьцё вадою, калі самлее. Жонцы прыгразілі: „ня лезь, бо атрымаеш кулю ў лоб!“ Пасьля гэтай экзэкуцыі завязьлі Куратніка паўжывога на пастарунак паліцыі і праз суткі звольнілі нават без дапросу.

Гэткі-ж лёс спаткаў і Зьмітрука Міхінкевіча з тою розьніцай, што ў часе яго катаваньня паліцыя удзяліла яму прыязная рады: „ня маеш карабіна, дык купі і дай“.

Гэткім самым спосабам зьдзекаваліся над цэлым радам іншых жыхароў вёскі Гічыц: Гаўрыла Саевец, 22 г., Аляксей Міхінкевіч (солтыс), у якога знайшлі мысьліўскую стрельбу, Іван Байбак, 20 г., Трахім Молат, 19 г., і шмат іншых.

Адначасна з біцьцем у шмат каго з пацярпеўшых паадбіралі такія рэчы, як хлеб, масла, вандліна, што ніякім чынам ня можна залічыць да катэгорыі—ваеннай здабычы. Ува ўсей ваколіцы ўсё перавернута ў памешканьнях, часта выкідалі збожжа з гумнаў. Люднасьць стэрорызавана і пагвалчана ў сваіх правох праз „вартаўнікоў і абаронцаў“ публічнага ладу і парадку, чуе сябе, бытцам пад уладай нейкай барбарынскай акупацыі, трацячы веру ў панаваньне права ў самой Рэспубліцы, так выразна і ўрачыста праз Канстытуцыю забясьпечанае.

Ня трэба, бадай, даказваць, што гэтыя настроі ў сваіх выніках могуць быць грознымі для дзяржавы. Калі-ж гэткае павядзеньне паліцыі хочуць тлумачыць праследаваньнем праступнікаў, (і „праступнікаў“ з азначанага палітычнага пункту гледжаньня), дык трэба задаць пытаньне, ці спосабы дазнаньня не перайшлі дазволеных граніцаў і ці самі ня сталіся праступленьнем і то вельмі шкодным для дзяржавы?

Дзеля гэтата ніжэй падпісаныя прапануюць:

Высокі Сойм захоча ўхваліць:

1. Заклікаецца ўрад дасьледзіць надужыцьці дзяржаўнай паліцы і пры аблавах дзеля разаружэньня і судовага пакараньня вінаватых.

2. Сойм вызначае камісію з прадстаўнікоў зацікаўленых клюбаў для дазнаньня ў справе павядзеньня паліцыі ў адносінах да люданасьці ува ўсходніх ваяводзтвах, асабліва ў Палескім ваяводзтве.

**Подпісы паслоў Беларускага Клюбу.**

Варшава, 31-га кастрычніка 1923 г.

**Прамова беларускага пасла Рагулі ў Зямельнай Камісіі Варшаўскага Сойму.** Я і мае таварышы па Клюбу зьяўляемся прыхільнікамі самай шырокай зямельнай

рафармы; ні я, ні таварышы мае ад Клюбу ня толькі не праліем ніводнае сьлязы, калі ўсе дворныя землі, касьцельныя, царкоўныя і манастырскія будуць аддадзены сялянам а наадварот — надта будзем радавацца і цешыцца. Каб я меў хоць каплю надзеі, што з аднятых зямель хоць што-небудзь дастанецца нашаму беларускаму селяніну, я ні на адну сэкунду не задумаўся-б і галасаваў-бы за адняцьце і распарцэляваньне царкоўных, касьцельных і манастырскіх земляў. На жаль у мяне гэткай надзеі няма: прынятыя да гэтага часу на ўласнасьць дзяржавы ўсе землі ў нашым беларускім краі аддаваліся выключна палякам-асаднікам. Нават з тэй часці, якая пакінена была на зямельную рэформу, адпаведныя камісіі шукаюць палякаў, каб даць надзелы зямлі ім, а не мяйсцовым сялянам. Я глыбока пераканаңы, што так будзе і далей. Такім чынам, перад намі, беларускімі дэпутатамі, стаіць цяпер альтэрнатыва: ці галасаваць нам за тое, каб землі манастырскія, царкоўныя і касьцельныя ў Беларусі ня былі распарцэляваны, ці каб яны былі аддадзены на полянізацыю нашага краю. Мы стаім за тое, каб зямля ў Беларусі была аддадзена беларускаму сялянству, а дзеля таго, што выпрацоўваны закон не дае ані якой надзеі на атрыманьне зямлі нашым сялянствам, дык мы лічым: няхай зямля будзе ў карыстаньні цэркваў і касьцёлаў да таго часу, калі мы будзем мець магчымасьць перадаць яе ў рукі мяйсцовага працоўнага народу, а не прыбышоў".

Пасьля гэтае прамовы ад імені беларускага і украінскага пасольскіх клюбаў была пададзена рэзалюція ў якой, між іншым сказана, што: „правільное правядзеньне зямельнай рэформы можа можа быць вырашана, ня польскім Варшаўскім соймам, а толькі Краёвымі Соймамі Украінскім і Беларускім".

## Перад сьпісам насяленьня.

У хуткім часе польская ўлада зьбіраецца зрабіць сьпіс жыхароў б. „Сярэдняе Літвы", — значыць, тае часткі Віленшчыны, якая прылучана да Польшчы год таму назад на аснове пастановы так званага „віленскага сойму".

Адносныя ўрадовыя ўстановы ўжо рыхтуюцца да гэтага сьпісу згодна з інструкцыямі, дадзенымі з Варшавы.

Судзячы паводле настрояў польскага грамадзянства Віленшчыны і ўзіраючыся на паступкі адміністрацыі, нельга спадзявацца на безстароннасьць сьпісуючых пры азначэньні нацыянальнасьці жыхароў. Настрой польскага грамадзянства — як „правіцы", так і „лявіцы",—ярка нацыяналістычны, захватніцкі на карысьць польшчыны; а адміністрацыйная практыка паказуе, што пры азначэньні нацыянальнасьці беларусаў, як каталікоў, так і праваслаўныхпольскія ўрадоўцы скрозь запісваюць іх, як „палякоў".

Аўтар гэтых радкоў, беларус-каталік, нядаўна пераканаўся на сабе, як запісываецца „нацыянальнасьць" і „матчына мова" рэкрутаў ў Вільні ў „Р. К. U". Хто каталік, таму, ня пытаючыся, пішуць: „polak", „język macierzysty—polski", хаця-бы папольску не гаварыў, а ламаў свой беларускі язык на нейкі паскудны „польскі жаргон. Аўтар гэтае стацьці у дзьвюх кнігах паправіў запісы аб сабе: замест „polak", „polski" на „białorusin", „białoruski",—ды як-жа зьдзівіўся, калі, ня гледзячы на ўсё гэта, ў „вайсковай кніжцы" прачытаў, што ягоная мова—„польская"!

А сколькі нам даводзілася бачыць пашпартоў, выдадзеных у паветах беларусам праваслаўным, дзе яны запісаны, як „палякі" хаця папольску нават не гавораць! Урэшце, ў тэй-жа Вільні нам давялося бачыць дамовую кнігу, дзе розныя „Грыгор'евы", ці „Воробьевы", праваслаўныя-расійцы, паказаны, як палякі...

Яшчэ лепшы доказ фантастыч-

насьці нацыянальнае статыстыкі на „Kresach Wschodnich“ даюць вынікі сьпісу, што адбываўся ў нас за часоў „панаваньня“ генаральнага камісара Юрыя Асмалоўскага. Тады аказалася: першае, што, у Заходняй Беларусі няма ніводнага беларуса-каталіка; другое, што ўсе тутэйшыя каталікі—палякі; трэцяе, што палякамі запісана была значная частка беларусаў-праваслаўных і праваслаўных-жа расейцаў, ды гэтак у Польшчы зьявілася даволі вялікая група „polakòw wyznania prawosławnego“.

На аснове ўсяго гэтага мы маем даволі прычын баяцца, што вынікі новага сьпісу насяленьня будуць у такой-жа меры „згодныя з праўдай“, як і вынікі папярэдніх: настрой грамадзянства і адміністрацыі, у сувязі з такімі фактамі, як беластоцкі працэс, ці апошнія арышты вучняў 4 і 5 клясы ў Вялейшчыне, ві авачаных чуць не ў арганізацыі „беларускага паўстаньня“ напэўна ня мог стацца больш талерантным і прыхільным да беларусаў...

Гэтак бядуе віленскае „Змаганьне (№ 2.) чакаючы са стараны польскай новай напасьці. Ведама, што ў „польскім“ краю, дзе запраўдных палякоў было да вайны ня больш 5%, трэба цяпер іх нарабіць хоц на паперы. каб дурыць пасьля заграніцу.

**Рожнымі меркамі.** Орган Віленскіх эндекаў „Dzien. Wil.“ піша з абураньнем аб тым праекце, які літоўскі ўрад падаў у асьветную камісію Ковенскага Сойму.

Праект гэты, кажа заходня-крэсавы Обст, вымагаў, ня больш ня меньш, як таго, каб у склад асьветных камісіяў самаўрадаў ад нацыянальных меншасьцяў ня ўходзіла больш, як адна траціна прадстаўнікоў.

Гэты праэкт у камісіі быў прыняты галасамі блёку літоўскіх, „хадэкаў“ проці людоўцаў, сац-дэмакратаў і нацыянальных меншасьцяў...

Гэтыя меншасьці, якіх прадстаўлялі ў камісіі паслы—паляк і немец, падалі у Сойм гарачы пратэст, кажучы, што гэты праект стаіць настолькі ў супярэчнасьці з Літоўскай Канстытуцыяй, што ня можа нават абгаварывацца ў камісіі Сойму.

Пасьля гэтага дэлегацыя ад ўсіх меншасьцяў Сойму пашла да прэзэса міністраў п. Гальванаўскаса, які зараз-жа загадаў, як падае орган мясцовых літвінажэрцаў, узяць урадовы праэкт з Сойму назад...

„Які лёс спаткае гэты нячуваны праэкт („niesłychany projekt“) у далейшым, яшчэ няведама, канчае п. Обст...

„Niesłychany?“—Дзе?—у Літве?..

А—ці-ж ня чуў п. Обст. аб гэткім самым, калі ня горшым праекце ў Польшчы?.. Ці-ж ня чытаў п. Обст. таго, што пісаў аб гэткім самым праекце п. І. О. ва ўласнай газэце п. Обста, ці—п. Cat у віленскім „Слове“?!

І—як. п. Обст думае? калі-б напрыклад дэлегацыя ад нацыянальных меньшасьцяў у Польшчы пайшла да прэзэса польскіх міністраў, да п. Вітаса, дык ён узяў-бы назад такі самы „niesłychany projekt, zwężający zasadnicze prawa mniejszości narodowych“—„wbrew Konstytucji“.

# Знад Расіі.

**Абарона дзіцячай маральнасьці.** Нарком Беларусі пастанавіў не дапускаць дзяцей маладзей 16-ці летняга ўзросту на відовішчы не маючыя выхаваўчага значэньня. Маюцца на ўвазе тэатры і кіно.

**Націянальнае пытаньне.** Імкненьне націянальнасьцяў да самаазначаньня і умацаваньня націянальных інтэрасаў выяўляецца ва ўсіх землях быўшай Імпэрыі. Ня толькі школы, суды і цэркві імкнуцца эман-

цыпавацца ад паняволеньня Масквы, але і ў прыватным жыцьці жыхарства зауважаецца рупнасьць у кірунку захаваньня свайго нацыянальнага аблічча. Пры ўсей беднасьці, жыхарства імкнецца апранацца ў нацыянальныя вопраткі, як бы не было— цяжка іх набываць. Ніколі не было гэтулькі нацыянальных канцертаў, спэктакляў і літэратурна-музыкальных вечароў, як у апошнія часы. Масква не перашкаджае, бо лічыць ўсё гэта дапусьцімым у рамках „культурнай" аўтаноміі. У зьвязку з гэтым праводзяцца больш лёгка і ідэі утвараньня тэрдывізый (тэрыторыяльных), якія складаюцца з войск паасобных нацыянальнасьцяў.

(Воля Россіи).

---

# З пад Польшчы.

**Агульны сход Таварыства Беларускай Школы у Вільні.** У чацьвер 1-га гэтага лістапада ў памешканьні Беларускага Грамадзянскага Сабраньня адбыўся Агульны сход Таварыства Беларускай Школы.

Сход адчыніў Старшыня Школьнай Рады пасол Б. Тарашкевіч. Старшынёю Сходу быў выбраны пасол П. Мятла, віцэ-старшынёй гр. Міхалевіч і сэкрэтаром гр. А. Канчэўскі. Прыняты гэткі парадак дня: 1) Даклад Старшыні Школьнай Рады. 2) Даклад скарбінка. 3) Даклад Рэвізыйнай Камісіі. 4) Агульная дыскусія. 5) Давыбары Сябраў Рады. 6) Бягучыя справы.

Старшыня Школьнай Рады пасол Б. Тарашкевіч зрабіў даклад аб дзейнасьці Таварыства, якую прышлося вясьці ў вельмі трудных варунках. Беларуская прасьветная праца спатыкаецца з няпрыхільным становішчам польскіх уладаў, істанаваўшыя да гэтага часу беларускія школы зачынаюцца, гімназіі знаходзяцца ў дужа цяжкім матарыяльным палажэньні і істнуюць толькі дзякуючы падтрыманьню Школьнае Рады. Адчуваецца недахват грашовых срэдстваў, якія складаюцца з сяброўскіх складак паслоў, дапамогі ад амэрыканскіх беларускіх арганізацыяў і ахвяраў прыватных асобаў.

Па прапазыцыі п. Б. Тарашкевіча аднагалосна прыймаецца рэзалюцыя з выражэньнем падзякі амэрыканскім братом, зарганізаваным у Нью-Іоркскім і Чыкагскім Беларускіх Камітэтах

Пасьля дакладаў скарбніка і Рэвізыйнай Камісіі у агульнай дыскусіі выявілася асабліва цяжкае палажэньне правінцыяльных гімназіяў і беларускіх пачатковых школаў, якія мяйсцовыя улады ўсялякімі спосабамі стараюцца зьліквідаваць. Зьвернута была ўвага на тое, каб Школьная Рада ўвайшла ў больш цесную сувязь з правінцыяй, аб'яднала ўсе істнуючыя беларускія прасьветныя арганізацыі і выявіла больш дзейнасьці па арганізацыі беларускіх школаў на вёсках.

Пасьля дыскусіі аднагалосна прынята гэткая рэзалюцыя:

Выслухаўшы справаздачу Цантральнай Беларускай Школьнай Рады, Агульны сход Т-ва Беларускай Школы пастанавіў:

1) Справаздачу Ц. Б. Шк. Рады зацьвярдзіць;

2) у далейшай працы Ц. Б. Шк. Рады даручыць ей зьвярнуць асаблівую увагу на вясковые пачатковые беларускіе школы, аказываючы ім калі не матэрыяльнае, дык прынамсі маральнае патрыманьне;

3) бачучы галоўну прычыну цяжкага палажэньня беларускай школы ў урадавай палітыцы, якая імкнецца да ліквідацыі істнуючых і не дапускае тварэньня новых, ня глядзючы на дамаганьня насяленьня,—прасіць Беларускі Пасольскі Клюб больш энергічня заняцца справай беларускай школы".

Другая прынягая рэзолюцыя больш дэтальна намячае тыя заданьня якіе павінна здзейсьніць новая Школьная Рада.

З прычыны разбежнасьці у тлумачэньні параграфа статуту, які гаворыць аб папаўненьні Школьнай Рады новымі сябрамі, Школьная Рада у поўным складзе падалася ў адстаўку і такім чынам адбыліся выбары усіх сябраў новай Школьнай і Нагляднай Радаў.

Сябрамі Школьнай Рады выбраны паслы: Рак-Міхайлоўскі, Б. Мятла, Б. Тарашкевіч, кс. А. Станкевіч, Сакалова, Багдановіч, Луцкевіч, Канчэўскі і Катовіч і кандыдатамі Савіцкі, Сіняўскі, Красінскі і Гапановіч.

У нагляднуюю Раду выбраны: Пачопка, Лагіновіч, Лукашэвіч, Будьзка і кандыдамі Куніцкі і Туркевіч.

**Да справы Барана, Маслоўскай і інш. беларусаў.** Як ведама, на прыгавар Беластоцкага Суду, як пракурор, таксама і абаронцы, падалі апэляцыйныя скаргі, і ў-ва ўторак, 22-X у Варшаўскім Апэляцыйным Судзе меў адбыцца пераглад справы шэрагу засуджаных беларусаў, а з апраўданых — аднаго толькі Якавюка. Прадседацелям быў п. Альхімовіч, прокурор быў той самы п. Камінскі.

Абаронцамі выступалі толькі адвакаты Врублеўскі і Бабянскі.

Судом былі вызваны незьявіўшыяся ў першай інстанцыі сьв. Дубяйкоўскі, Пузырэўскі, а таксама дапрошаны ўжо ў Беластоку Лянкевіч і новыя сьведкі з боку Якавюка кс. Германовіч, Эм. Голуб, і Озорко.

З іх не зьявіліся: Ленкевіч, Пузырэўскі і Озорко.

Цікаўна, што на павестцы сьв. Лянкевіча расьпісаўся ня ён сам, але якіс паліцэйскі чын.

Апэляцыйны Суд адлажыў справу на 28 XII і загадаў даставіць сьв. Лянкевіча і Озорко „прыводам" (прымусам), мерамі паліцыі...

Яшчэ цікаўнейшы лёс павесткі другога такога-ж самага сьведкі — Пузырэўскага.

Мы памятаем, як моцна на судавой расправе і ў сваей прамове пракурор Камінскі пакладаўся і на гэтага сьведку, якога таксама, як і Лянкевіча, лічыў „патрыятычным слупом" усяе справы. Мы памятаем, як пракурор зазлаваўся і зьдзераваўся над сьв. Зямкевічам, ня вепучы, калі той разкрыў, што, як Лянкевіч, таксама і Пузыраўскі былі абодва ў Менскай чрэзвычайцы...

Цяперака на павестцы гэтага пракурорскага героя паложана кароткая, але надка выразная адметка паліцыі; „выехаў без пазваленьня уладаў у... Радавую Расію"...

## Пісьмо з турмы.

Рэдакцыяй „Змаганьне" атрыманы гэткі ліст на абрыўку паперы з Косаўскага дому ад 28. IX, 1923 г., заадрэсаваны ў Беларускі і Украінскі Посольскія Клюбы.

17. IX. 23. г. нашу вёску Яглевічы, Косаўскага павету якружыла паліцыя і на ранку зрабіўшы вобыск арыштавалі—Янку Бахура, Мікалая Перавалоцкага, Антося Клютка і інш., і не даючы акта абвінавачаньня трымаюць іх ужо 9-ы дзень. Прычынай арышту зьяўляецца, як ўсе мысьляць, іхная прадвыбарная агітацыя, бо іншых грахоў яны ня маюць. У Слоніме ўжо мучацца сотні сялян Палесься, якіх, нібы ў зьвязку з Тэлеханскім нападам, пазаарыштоўвалі і з нялюдзкімі зьдзекамі адаслалі ў Слонім. (Далей ідзець гарачая просьба да паслоў Сойму з клюбу Укр. і Бел. аб прыезьдзе да іх каб сваей прыстутнасьчю спыніць факты нечуванага зьдзеку над вясковай люднасьцю).

Далей ідуць подпісы.

# З Літвы.

**Стралецкі зьезд.** У Коўне 15 лістапада, ў салі Літоўскага Стралецкага Таварыства, адбылося урочыстае адкрыцьце ўселітоўскага стралецкага зьезду. Пры адкрыцьці чытаўся сьпісак палёгшых за гэты год у змаганьні, між якімі было колькінадзаць беларускік прозьвішч. Ад беларусаў зьезд прывітаў грам. Ластоўскі. Кароткую прамову якога стральцы прынялі вельмі горача. У сваей прамове грам. Ластоўскі выказаў думку, што толькі такі народ варт быць свабодным, які ўмее адстаяць сваю свабоду з аружжам у руках. Літоўскае стралецтва, якое мае ў сваіх радах дзесяткі тысяч грамадзян, заўсёды гатовых выступіць у абароне сваей дзяржавы аружна, гэта прыклад і для нас беларусаў. На закончаньне прамовы было сказана, што ў змаганьні супроць польскага імпэрыялізму беларускі нэрод заўсёды будзе разам ісьці з народам Літоўскім.

**Пераезд у Прагу.** З Коўны выехалі ў Прагу. Г. г. Цьвікевіч, Заяц, Пракулевіч, Захарка і Крычэўскі. Даведываемся, што вышэйназваныя грамадзяне сарганізавалі „Беларускую Начыянальную Раду“ ў Празе і ўвайшлі ў яе склад.

**Выдавецкая праца.** Выйшоў з друку „слоўнік геомэтрычных і трыгономэтрычных тэрмінаў і сказаў. Расійска-беларускі і беларуска-расійскі“. Улажылі К. Дуж-Душэўскі і В. Ластоўскі. Выданьне Міністэрства Беларускіх Спраў у Літве. Кніжка мае формат 13×19 цм., стр. 127. Зьмест: Прадмова; Расійска-беларуская часьць; Беларуска-расійскаа часьць; Асноўныя тэрміны з геамэтрыі і трыганамэтрыі.

Затрымаўшаяся было, з прычыны тэрміналёгіі, друкаваньне Анатоміі і фізыалёгіі, цяпер пайшло ўжо поўным ходам. У кніжку увоўдзе каля ста рысункаў.

Выйшлі з друку першыя аркушы слоўніка В. Лалстоўскага. Расійска-беларуская часьць будзе абыймаць каля 700 стр. пэтіту, формату як і геамэтрычны слоўнік. Закончыцца друк гэтага слоўніка, прыблізна, ў траўні або чэрвені месяцы будучага 1924 году. Абедзьве апошніе кніжкі друкуюцца коштам Міністерства Беларускіх Спраў у Літве.

# З Латвіі.

**Культурна - асьветная праца у Латвіі.** У Двінску і Люцыне распачаўся ў тамтэйшых сярэдніх школах вучомны год. Наплыў вучняў ёлета большы як у прошлым гаду. Прыступілі да працы гакжа народныя школы, якіх у Латвіі ёсьць звыш 50-ці. Націянальная сьвядомасьць, сярод беларусаў у Латгаліі, за апошнія два гады вельмі пашырылася дзякуючы школам і цэламу раду курсаў і тэатральных пастановак.

*Грыгор...*

# Рожнае.

**Бабры у Лідзкім павеце.** „Żołnierz Polski“ піша, ў Лідзкім павеце каля вёсак Старэч-Перакопі жывуць бабры. Упраўленьне белавежскіх лясоў узяло баброў пад сваю апеку і дало адпаведныя загады дзеля іх абароны.

**Аб зубрах у Белавежы.** У 2-м сшытку кракўскага органу дзяржаў-

най камісыі абароны прыроды („Ochrona Przyrody“) надрукована сумная вестка аб тым, што чуткі бытцам у Белавежскай пушчы зьявіліся зубры няпраўдныя і што гэта „królewskie źwierzę kniej polskiej wyginęło już tam doszczętnie“. (Пытаньне ад як даўна гэта кнея сталася польскай?).

У 3-м сшытку чытаем, што ва ўсей Полшчы асталося толькі 5 зуброў у Пшчыне на горным Шлёнзку. Перад вайной іх было тамака 100, усе разьведзеныя ад зуброў вывезеных калісьці з Белавежскай пушчы. Журнал тлумачыць, што Белавежзкія зубры найбольш выгінулі у часе бальшавіцкай навалы, бо у часе нямецкай окупацыі немцы старэнна аберагалі рэдкіх зьвераў.

# Кнігі надасланыя у Рэдакцыю.

Majoras Ružancovas. „Liutuvos karo bibliografija“. Kaunas 1923. K. A. M. Karo Mokilo Skirius lieidinys. Формат 22×18 цм. стр. 89. у кніжцы памешчана і бібліографія ўсіх вайсковых беларускіх выданьняў, якія выйшлі ў Літве.

„Нова Україна“ Місячнік письменства, науки і громадського життя під Редакцією В. Вннниченка й М. Шаповала. Число IX Верасень і X Кастрычнік.

„Воля Россіи“ журнал полигики и культуры. № 18 і № 19. Прага.

„Ластўка“, вучнёўская часопісь Люцынскае Беларускае Гімназыі № 3 1923 год Верасень.

Др. Степан Рудницкий. „Українска справа зі становиша політичнёі географії. Выд. „Українске Слово“ в Берліні. 11×16 цм. 282.

Савелій Партаковеръ „Пѣвцы человѣческого“ Хрестоматія Нѣмецкого экспрессіонизма“. Книгоиздательство писателей въ Берлинѣ 1923 г. 11×15 стр. 123.

„Роднае Слова“. Другая пасьля лемантара кніга да чытаньня. Пад рэд. Некрашэвіча. Беларускае кооперацыйнае Выдаваецкае Таварыства. Менск. 26×17, стр. 161.

Янка Купала. „Спадчына“. Беларускае Коопэрацыйнае Выдавецкае Таварыства „Адраджэньне“ Менск. 16×23, стр. 215.

„Musu Zinynas“ Karo mokslo ir istorijos žurnalas V tomas Nr. Red. kap. steponaitis. Kaunas,

„Knigos“ Bibliografijos ir Kritikos žurnalas Leidžia Svietimo Ministerijos Knigų Leidimo Komisija. Rebaguoja Vaclovas Biržyška.

„Free Tribnne of Nationalitées“ (Vol XI) № 1. December 1923. Гэты нумэр Трыбуны Націянальнасьцяў пасьвячоны жэнэўскаму зьязду націянальнасьцяў паняволеных Полшчай. Зьмешчан поўнасьцю мэморандум пададзены на IV пленарнае пасяджаньне Лігі Нацый ад Беларусаў, за подпісам В. Ластоўскага. Журнал выходзіць двумя выданьнямі: па англіцку і па француску.

„Internationale Rundschau der arbeit“. Heft 9, 10 September, Oktober 1923.

„Fro Lithuania“ Monthley report of the information office of Lithuania. December 1923. Зьмешчаца рэзолюцыя Жэнэўскага зьезду націянальнасьцяў паняволеных Полшчай.

# ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА НА 1924 г.

# КРЫВІЧ

## месячнік літэратуры, культуры і грамадзкага жыцьця

## пад рэдакцыяй В. ЛАСТОЎСКАГА і К. ДУЖ-ДУШЭЎСКАГА.

Выходзіць сшыткамі у абойме 4 аркушаў (64 стр.).

Зьмяшчае:—вершы, апавяданьні, повесьці навукова—крытычныя, гістарычныя стацьці і манаграфіі; інфармацыі з усяго сьвету аб беларускім жыцьці і месячныя агляды прэсы як беларускай, так і чужой.

Адрэс рдакцыі і адміністрацыі: **Kaunas, Vytauto prosp. № 30.** Lietuva.

Цана нумару паасобна . . . . . . . . . Lit. 3:—(0,30 доляра).

а дпіска на год . . . . . . . . . . . „ 30:—(3 доляры.)

Рукапісы павінны быць напісаны чытэльна, на аднэй старане аркуша і мець рэдкія радкі. Надасланыя нячытэльныя рукапісы, рэдакцыя дае перапісываць на машынцы, вылічаючы з гонорару аўтора за перапіску. За рэдакцыю і перапраўку рукапісаў напісаных дрэннай беларускай мовай, а так сама за пераклад рукапісаў напісаных у чужой мове, утрымліваецца 50% з гонорару аўтора.

ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА НА 1924 г.

F. Sokolovskienės, G. Lano ir M. Jolko Spaustuvė, Kaune, Maironio g-vė 10-12.
Друкарня Ф. Сакалоўскай, Г. Лана М. Іолко, Коўна, Майроніо 10—12.